Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4762) 28 сакавіка 2014 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў заслужанага мастака Расійскай Федэрацыі Нікаса Сафронава з адкрыццём выстаўкі яго твораў у беларускай сталіцы. «Вашы талент, энергія і вера ў сябе знайшлі ўвасабленне ў сотнях палотнаў, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — Мы цэнім Вас як аднаго з выдатных прадстаўнікоў сучаснага мастацтва і добрага сябра Беларусі».

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Аляксандра Сярова з 60-годдзем. «У Беларусі Вас любяць і цэняць як знакамітага артыста, неаднаразовага ўдзельніка Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Няхай Ваша творчасць і ў далейшым нясе людзям радасць, спрыяе развіццю культурных сувязей братніх народаў», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Гастрольны тур па Францыі балетнай трупы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі пачаўся 25 сакавіка са спектакля ў горадзе Бардо. Артысты выступяць у 25 буйных гарадах краіны. Гледачам прапануецца класіка балетнага рэпертуару — «Лебядзінае возера» Пятра Чайкоўскага. Тур, які праходзіць у межах Дзён беларускай культуры ў Францыі, прадоўжыцца да 4 мая.

✔ З 25 па 30 сакавіка ў Краснадары праходзяць Дні беларускага кіно, арганізаваныя пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і аддзялення пасольства Беларусі ў Расіі ў Растове-на-Доне. У праграму ўключаны кінастужкі, створаныя ў 2009 — 2013 гадах беларускімі рэжысёрамі Рэнатай Грыцковай, Канстанцінам Лапушанскім, Аляксандрам Яфрэмавым, Аляксандрам Дзебалюком. Акрамя мастацкіх прадстаўлены анімацыйныя і дакументальныя фільмы.

✔ Паводле першага намесніка міністра адукацыі Аляксандра Жука, у Беларусі ўведзена норма, якая дазваляе падачу дакументаў у прыёмныя камісіі ВНУ і ССНУ даверанымі асобамі абітурыентаў. Аднак для гэтага патрэбны дакументальна пацверджаныя прычыны. У якасці даверанай асобы можа выступіць сваяк, апякун або іншы грамадзянін, якому абітурыент прадаставіў натарыяльна заверанае права падаць дакументы.

✔ Фестываль факультэтаў, які пройдзе заўтра ў Белдзяржуніверсітэце, стане маштабным інфармацыйным Днём адкрытых дзвярэй для абітурыентаў і пачаткам прыёмнай кампаніі-2014 у БДУ. Сярод нова ўвядзенняў — прэс-канферэнцыя з удзелам адказнага сакратара прыёмнай камісіі. Школьнікі атрымаюць вычарпальную інфармацыю аб правілах паступлення і прыёму, навучання, спецыяльнасцях і новых актуальных кірунках адукацыі. Фэст адбудзецца ў Ліцэі БДУ (вул. Ульянаўская, 8).

✔ 30 сакавіка на філалагічным факультэце БДУ адбудзецца II Мінскі фестываль моў. Гасцям будуць прадстаўлены прэзентацыі 45 моў свету — старажытных і сучасных, рэдкіх і распаўсюджаных, а таксама дзесяць цікавых навукова-папулярных лінгвістычных лекцый. Мерапрыемства можа наведаць кожны — уваход вольны.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**



Фота БелТА

*На гэтым тыдні ў аматараў мастацтва надарылася адметная нагода для сустрэчы. У Магілёве адбыўся IX Міжнародны маладзёжны тэатральны форум «M.@rt.кантакт». Паводле міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, у магілёўскага свята — унікальны фармат і вялікая будучыня.*

## Пытанне да творцы

# Якія думкі з нагоды Сусветнага дня тэатра?



**Уладзімір Савіцкі, мастацкі кіраўнік Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача:**

— Вельмі добра, што тэатралы маюць сваё прафесійнае свята. Але яго варта адзначаць не толькі фармальна, але перадусім — значнай падзеяй, прэм'ерай, якая задала б тон, стварыла б планку ўзроўню прафесійнага драматычнага тэатра. І неістотна, будзе спектакль беларускі, расійскі, кітайскі... Падзеі няма, а значыць, пра святочны настрой казаць цяжка.

Каштоўнасць тэатральнага прафесіяналізму сёння страчваецца. Магчыма, мы перажываем такі неспрыяльны перыяд, калі тэатр патрабуе «перазагрузкі», але шкада, што перыяд гэты доўжыцца досыць працяглы час. Апошняй значнай прэм'ерай былі, здаецца, «Жарсці па Аўдзею». Сапраўды, цяпер глядач наведвае тэатр вельмі актыўна, але, на маю думку, заслугоўвае лепшага «прадукту», чым той, які яму прапануюць. Неабходны пошук новых, эксперыментальных, сродкаў, якія далі б штуршок станаўленню «жывога» тэатра. Да таго ж, у цяжкія часы тэатр звычайна арыентаваўся на класічныя творы — у іх ёсць усё тое, што мы перажываем цяпер.



**Алена Іванюшанка, тэатральны крытык, куратар тэатральнага праекта «Дзверы»:**

— Мне хацелася б пажадаць беларускаму тэатру цеплыні, пяшчоты, свежага ветру, вясны — невыпадкова тэатральнае свята адзначаюць менавіта ў гэтую пару. Вясной нараджаецца шмат ідэй, энтузіязму — няхай яны спрыяюць нашым драматургам і рэжысёрам.

А мае глядацкія чаканні звязаныя з фестывалем вулічных тэатраў, які пройдзе ў маі ў Верхнім горадзе. Калі арганізатары спраўдзяць свае планы «прывезці» з-за мяжы адпаведныя калектывы, гэта будзе сапраўдны прарыў у фарміраванні мастацкага густу, тэатральнай культуры гледачоў. Амаль гатовыя да прыезду ў Мінск Тэатр маскі спадара Пежо з Санкт-Пецярбурга, славенскі вулічны тэатр. Горад чакае вялікае свята!



**Георгій Марчук, пісьменнік, драматург:**

— Вельмі парадавалі ў апошні час пастаноўкі купалаўскага тэатра: «Адвечная песня» С. Кавальчыка, працы М. Пінігіна. Увогуле, тэатр павінен кожны новы сезон здзіўляць гледача эксперыментамі, але не забывацца і на традыцыю рэалістычнай драматургіі з яе глыбокім псіхалагізмам.

Я пажадаў бы беларускім рэжысёрам больш працаваць з айчыннымі драматургамі. Варта шукаць, запрашаць аўтараў, праводзіць з імі семінары — дзейнічаць разам! Крыўдна, што ў нашых рэжысёраў знікае цікавасць да патрыятычнай і грамадзянскай тэматыкі. Яны «ідуць да гледача» з мэтай зарабіць больш грошай, але тым часам знікае духоўнасць народа. Варта памятаць, што тэатр — своеасаблівая «кафедра выхавання» — такая ж, як класічная літаратура, класічная музыка. У акадэмічным тэатры «школа перажывання» не павінна ператварацца ў «школу прадстаўлення».

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Галоўная тэма




*Уладзімір Навумовіч, Уладзімір Грозаў і Мікалай Чаргінец (злева направа).*

**У сталічным Доме літаратара адбылося ўручэнне ўзнагарод пераможцам літаратурнага конкурсу, абвешчанага Міжнародным дабрачынным фондам «Сям'я — Адзінства — Айчына» сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі.**

Уладзімір Грозаў, старшыня фонду, адзначыў: «Наша праца распачыналася выключна як грамадская ініцыятыва, але паступова нас актыўна падтрымалі царква і дзяржаўныя структуры. Сцвярджаючы каштоўнасці сям'і і Айчыны як кропку апоры ў свеце, мы хочам зрабіць свет больш устойлівым».

Намеснік старшыні журы Іван Саверчанка паведаміў, што на конкурс трапіла 35 твораў ад аўтараў з Беларусі, Расіі і Малдовы. Першыя прэміі вырашана было не прысуджаць, таму пераможцамі сталі пісьменнікі, якія атрымалі другія прэміі. У раздзеле «Вялікая проза» ўганараваны Уладзімір Навумовіч (Мінск) за рукапіс «Ікона Траярукскай Боскай Маці», Валерый Чудаў (Мінск) за гістарычныя нарысы. У галіне малой прозы другой прэміяй узнагароджана Тамара Бунто (Мінск) за серыю апавяданняў, паэзіі — Дзмітрый Марозаў і Вольга Шпакевіч (Мінск). У намінацыі «Паэзія для дзяцей» другую прэмію атрымалі Лёля Багдановіч (Барысаў) і Галіна Бабарыка (Столінскі р-н).

Праведзены конкурс быў першым і прысвечаны агульнай канцэпцыі фонду «Сям'я — Адзінства — Айчына». На перспектыву Уладзімір Грозаў прапанаваў у якасці галоўнай тэмы жыццё і лёс шчаслівай сям'і.

**Лея ХАШЫМБА**

# «Якуб Колас быў бы вельмі рады...»

21 сакавіка адзначаўся Сусветны дзень паэзіі. Па рашэнні ЮНЕСКА свята існуе ўжо 15 гадоў. Галоўная яго мэта — падтрымаць моўную разнастайнасць праз магчымасці паэтычнага слова. Сусветны дзень паэзіі па ўсіх канонах святкуюць штогод у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Сёлетняя літаратурна-музычная вечарына называлася «Паэзія як прадчуванне...» У доме Песняра сабраліся прадстаўнікі розных нацыянальнасцей і культур, якія жывуць, вучацца і працуюць у Беларусі. Прыгажуні кітаянка і турчанка, хлопцы з Турцыі, Венесуэлы, Лівіі і Сірыі — студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Верш дзяўчыны з Турцыі ўразіў прысутных: нягледзячы на тое, што мала хто ведаў мову, дзякуючы цудоўнаму прачытанню твора, здаецца, яго зразумелі усе. Расчуліў усіх студэнт з Сірыі, які прысвяціў верш на роднай мове беларусцы Алесі. А венесуэлец проста зачараваў сваёй ігрой на скрыпцы... Кожнаму выступоўцу музей падрыхтаваў невялічкі падарунак: буклет і нататнік.

Ураджэнец Арменіі Ганад Чарказян, паэт, які піша на курдскай, армянскай і рускай мовах, прачытаў цікавы пераклад верша Якуба Коласа на армянскай мове. Творца ўпэўнены: «Для свету іншасэнсу няма. Мы ўсе жыхары адной зямлі». Дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё Навум Гальпяровіч прадставіў на імпрэзе айчынные мастацтва слова. «Якуб Колас быў бы вельмі рады, што ў яго доме сёння, у Сусветны дзень паэзіі, гучаць вершы на розных мовах, — адзначыў Навум Якаўлевіч. — І што сярод гэтага мноства моў гучыць яго родная, беларуская, якой ён прысвяціў сваё жыццё».

Замежныя студэнты цяпер сябры музея. Дырэктар установы Зінаіда Камароўская, шчыра запрасіла прысутных завітаць яшчэ не раз: «Мы заўсёды будзем рады бачыць вас у Доме Коласа!»

Дарэчы, да 130-годдзя з дня нараджэння паэта, перакладчыка твораў і сябра Якуба Коласа Сяргея Гарадзецкага падрыхтавана выстаўка з фондаў музея «Мой дарагі сябра, мой лепшы перакладчык». Тут можна пабачыць фотаздымкі і перапіску творцаў, рукапісны альбом Сяргея Гарадзецкага з вершамі-прысвячэннямі да 65-годдзя Песняра, партрэты Якуба Коласа.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

# Аб'яднала свята ўсіх

Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі пачало адзначаць Сусветны дзень паэзіі ў ліку першых. Сёлета Гродзеншчына падышла да «прафесійнага свята паэтаў» з размахам.

Па-першае, не абышлося без актыўнага ўдзелу мясцовых улад. У межах рэспубліканскай акцыі «Гродна — культурная сталіца Беларусі-2014» галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама выказала гатоўнасць падтрымаць усе задумкі і планы нашага аддзялення СПБ, і не толькі маральна.

Менавіта да Сусветнага дня паэзіі быў прымеркаваны выхад у свет чацвёртага нумара літаратурнага альманаха «На Нёманскай хвалі» — важнага гуманітарнага праекта, які адрадзілі па ініцыятыве Гродзенскага аддзялення СПБ і пры фінансавай падтрымцы абласных улад. Дарэчы, традыцыя літаратурных альманахаў на Гродзеншчыне налічвае не адно дзесяцігоддзе. Прэзентацыя свежага нумара прайшла ў сценах Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Асобнікі альманаха атрымалі ў падарунак бібліятэка гэтага ВНУ, удзельнікі мерапрыемства і ганаровыя госці. Свае творы прэзентавалі аўтары выдання, лаўрэаты розных прэмій і маладыя паэты.

**Дзімітрый РАДЗІВОНЧЫК**

# Янка і Паўліна: каханне вачыма драматурга

На пачатку сакавіка адзначыў 80-гадовы юбілей слынны беларускі драматург, празаік, сцэнарыст Анатоль Дзялендзік. У сталічным Доме літаратара адбыўся яго творчы вечар з праглядам спектакля «Карона кахання» (паводле п'есы Анатоля Андрэевіча).

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў зазначыў, што п'еса А. Дзялендзіка «Выклік багам» ішла ў 110 тэатрах свету, а гістарычны фільм «Анастасія Слуцкая» заваяваў шэраг узнагарод на міжнародных фестывалях. Што ж да юбіляра, то ён, нядаўна ўганараваны медалём «За вялікі ўклад у літаратуру», падчас творчай вечарыны быў удастоены звання Ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Анатоль Андрэевіч пачаў расповед пра сябе з ваенных часоў: у 10 гадоў стаў партызанам, пазней — ад'ютантам Героя Савецкага Саюза, партызанскага генерала Васіля Казлова. Скончыўшы медінстытут (дарэчы, па адукацыі ён урач-псіхіятр), 11 гадоў працаваў па спецыяльнасці. Першая публікацыя пабачыла свет у газеце «Сталінская моладзёжь» (цяпер — «Знамя юности»). Адчуўшы недахоп літаратурнай адукацыі, паступіў на завочнае аддзяленне маскоўскага Літінстытута. Па заканчэнні вучобы запрошаны на працу ў сцэнарнарэдакцыйную калегію кінастудыі «Беларусьфільм». Кінастужка «Заўтра будзе позна», прысвечаная Яну Налепку, нацыянальнаму герою Славакіі, атрымала прэмію Міжнароднага фестывалю ў г. Пльзень (Чэхія) за лепшы сцэнарый, а не так даўно А. Дзялендзіку ўручана медаль Яна Налепкі.

Апавесць для тэлевізійнага экрана ў чатырох частках «Карона кахання» па матывах кнігі Паўліны Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця» упершыню поўнасцю па-руску надрукавана ў часопісе «Белая вежа» (№ 2, 2014). Пастаноўку аднайменнай п'есы (на беларускай мове) ажыццявіў рэжысёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра, што месціцца ў Маладзечне, Вениамин Расстрыжэнкаў.

У спектаклі шмат цікавых сюжэтных момантаў, рэжысёрскіх знаходак. Тут і вершы самога Купалы («А хто там ідзе?», «Мужык», «Паўстань з народу нашага, Прарок»), і радкі з «Беднай Лізы» М. Карамзіна ды «Тараса Бульбы» М. Гогаля, і сцэнічная пластыка (танец Купалы і Мядзёлкі), і гістарычная праўда (шлюб паэта з Уладзіславай Станкевіч, яго сустрэча з наркамам М. І. Яжовым, стасункі з Максімам Горкім і г. д.).

«Вялікія творы нараджаюцца супраць агульнай плыні», — сцвярджае Янка Купала ў п'есе. Сапраўды, і гэтая пастаноўка — несумненная акцёрская і рэжысёрская ўдача Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**Яна ЯВІЧ**

# Гучыць вясна — гучыць «Санорус»



*Салістка капэлы «Санорус» Наталля Федасенка.*

**23 сакавіка музычная капэла «Санорус» прадставіла новую праграму «Вясна ў Верхнім горадзе». Для поўнай залы слухачоў гэта падзея стала амаль унікальнай: музычная капэла часта наведвае з канцэртамі беларускія гарады, але апошнім часам рэдка выступае ў сталіцы.**

Вясна — гэта магчымасць паразмаўляць пра каханне, жанчын і прыгажосць, таму паміж фрагментамі вядомых опер вядучы Мікалай Казінін звяртаўся да рускай паэзіі XX стагоддзя. І нават паабяцаў Нобелеўскую прэмію таму, хто зразумее жанчыну да канца!

Каханне заўсёды разнастайнае: драматызм і лірызм, роспач і ціхае замілаванне, гуллівасць і натхнёная пранікліваць — усё гэта гучала ў зале «Верхні горад». Праграма канцэрта дазволіла прыгадаць свет музычнай класікі — оперы «Кармэн», «Травіята», «Тоска». Слухачы пачулі і творы, якія рэдка выконваюцца беларускімі калектывамі — фрагменты з опер «Майская ноч» М. Рымскага-Корсакава, «Адрыяна Лекуўрэр» Ф. Чылея.

На пачатку канцэрта гледачоў уразіў глыбокі, цёплы барытон заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Громава. Захопленая ігрой Эскамілья, Кармэн насуперак сюжэту оперы праспявала для артыста «Хабанэру» і падарыла яму чырвоную кветку. Узнёсла і пяшчотна гучала сапрана Тацяны Пятровай — знакамітыя (і вельмі складаныя!) арыі Нормы і Віялеты з опер В. Беліні і Дж. Вердзі, у якіх раскрыўся багаты тэмбр голасу артысткі з цудоўным піяна на верхніх нотах.

Яркім нумарам стала арыета Перыколы з аперэты Ж. Афенбаха ў выкананні Ларысы Сладзінскай (меццa-сапрана), дуэты У. Громава і Т. Пятровай, Кірыла Старасценкі (тэнар) і Наталлі Федасенка (меццa-сапрана), дзе ад крыўды героі прыходзілі да паразумення, ад здзіўлення абурэння — да ўзаемнай згоды. Напружаная супярэчлівасць пачуццяў гучала і ў арыі прынцэсы дэ Буён (опера «Адрыяна Лекуўрэр») у выкананні Н. Федасенка.

Неаднойчы далучаўся да сцэнічнай дзеі і хор: «калектыву ўласціва імкненне да тэатралізацыі сваіх праграм». Нагадаем, што капэла «Санорус» — гэта камерны хор, аркестр і група салістаў. Такі склад дазваляе мець у рэпертуары творы розных жанраў — кантаты, сімфоніі, оперы. Самымі любімымі для маленькіх слухачоў сталі казкі «Кот у ботах» (Ц. Кюі) і «Маленькі прынц» (А. Мдзівані). Адна з найбольш вядомых праграм «Санорусa» — музычна-паэтычная драма «Споведзь любві», прысвечаная жыццю Г. Ахматавай.

«Вясна ў Верхнім горадзе» прайшла ў бліскучым суправаджэнні аркестра пад кіраўніцтвам таленавітага дырыжора Марыны Трацяковай, якая і падрыхтавала мастацкую праграму прэм'еры. Выдатнае ўражанне вызначалася як эмацыянальнай насычанасцю, так і ўдала знойдзенай працаглацю канцэрта: шаснаццаці нумароў цалкам дастаткова, каб кожнае выступленне запомнілася гледачу.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**фота аўтара**

# На першым рубяжы

**Праект-падарунак для наведвальнікаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі арганізавала цудоўная жанчына і таленавітая мастачка Аксана Аракчэева. Выстаўка «Авансцэна» адкрылася напярэдадні Міжнароднага дня тэатра.**

На працягу апошніх гадоў Аксана Аракчэева працуе над стварэннем партрэтаў асоб, якія ўнеслі значны ўклад у духоўнае жыццё Беларусі. Сёння на творчым рахунку мастачкі больш як сто малюнкаў выбітных людзей краіны. У 2013 годзе галерэя вобразаў, створаных яе пэндзлем, папоўнілася сямю партрэтамі вядучых салістаў беларускага балета. Яны выканаlinі алеем на палатне. Тут — выявы артыстаў Ігара Артамонава, Марыны Вежнавец, Вольгі Гайко, Ірыны Яромкінай, Дзяніса Клімука, Антона Краўчанкі, Людмілы Кудраўцавай у ролях са спектакляў «Жызэль, або Віліса» А. Адана, «Балеро» М. Равеля, «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага, «Анюта» В. Гаўрыліна, «Страсці (Рагнеда)» А. Мдзівані, «Спартак» А. Хачатурана, «Сільфіда» Х. Левенсхольда. На выстаўцы таксама прадстаўлены замалёўкі, зробленыя мастачкай на тэатральных рэпетыцыях, і сцэнічныя касцюмы да балетаў Вялікага тэатра. Варта адзначыць: у партрэтах, што складаюць экспазіцыю, адчуваецца і многа іншае можна дазнацца і душа акцёраў, і сюжэтная лінія спектакляў, у якіх яны занятыя, і, галоўнае, душа творцы.

Гэты творчы праект А. Аракчэева называе галоўнай справай свайго жыцця: «Для мяне вялікі гонар ствараць дадзеныя партрэты. Кожны з іх адлюстроўвае непаўторны вобраз артыста, яго творчую індывідуальнасць і характар».

Падчас адкрыцця выстаўкі словы падзякі прагучалі ад намесніка Генеральнага дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Святланы Казюлінай: «Аксана заўсёды ўнікае ў любы праект, прадумвае дэталі, працуе з кожным артыстам, прапускаючы праз сябе і адлюстроўваючы вобразы ў партрэтах. Невыпадкова выстаўка атрымала назву «Авансцэна», бо гэта частка сцэны паміж заслонай і аркестрам — сапраўдны фронт. Назва сугучная з дэвізам жыцця мастачкі: яна заўсёды на гэтым першым рубяжы».

— Працаваць з Аксанай Аракчэевай было вельмі прыемна. Артыстаў злавіць амаль немагчыма: вельмі шчыльны графік, часу для пазіравання амаль няма. Таму мы нават не чакалі, што за такі кароткі перыяд будзе створана гэткая колькасць партрэтаў. Вельмі цікавая сама задума. Важна яе працягнуць і надалей адлюстроўваць як сучасных артыстаў, так і папярэдняе пакаленне, а таксама артыстаў оперы, — адзначыў

Фота Кастуся Дробава



прэм'ер мінскага балета, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Антон Краўчанка.

У ліку ганаровых гасцей таксама былі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мілан Экерт, Часовы Паверны ў справах Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Канстанцін Ярэма, іншыя прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Шэляговіч ды інш.

Наведаць выстаўку работ Аксаны Аракчэевай можна да 4 красавіка.

**Таццяна ШЫМУК**

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

1 красавіка — на гарадское свята гумару «Жартуюць беларусы», якое пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 7 (вул. Пляханава, д. 97, к. 4). У праграме: выступленні пісьменнікаў-гумарыстаў, вясёлыя вершы, пароды, эпіграмы, жарты, розыгрышы. Пачатак а 17-й гадзіне.

1 красавіка — на літаратурнае свята — падвядзенне вынікаў творчага конкурсу сярод студэнтаў Белдзяржуніверсітэта «Славянскі калейдаскоп», прысвечанага Дню яднання народаў Беларусі і Расіі. Мерапрыемства пройдзе ў РЦНК «Дом Масквы» (вул. Камуністычная, д. 86, 3-і паверх). Пачатак а 16-й гадзіне.

3 красавіка — на творчую сустрэчу — прэзентацыю кніг пісьменніцы Алены Туравай, адрасаваных дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Прэзентацыя пройдзе ў сталічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, д. 2). Пачатак а 13-й гадзіне.

4 красавіка — на літаратурна-музычную імпрэзу «Творчае сяброўства», якая адбудзецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Удзел бяруць вядомыя паэты і спявачка Вольга Патрый. Пачатак а 17-й гадзіне.

## Пачынайце дзень з усмешкі

Першае пасяджэнне клуба па інтарэсах «Давайце знаёміцца» адбылося ў межах Года гасціннасці ў Гатаўскай сельскай бібліятэцы-клубе. Гэтым разам чытачы кніжніцы пазнаёміліся з пісьменнікам Міколам Маляўкам. Сярод запрошаных гасцей — вучні малодшых класаў Гатаўскай СШ і іх настаўнікі, а таксама прадстаўнікі выдавецтва «Народная асвета».

Да імпрэзы была падрыхтавана выстаўка кніг творцы, які працуе цяпер у дзіцячым часопісе «Вясёлка». Пісаць вершы Мікалай Аляксандравіч пачаў яшчэ ў школьныя гады. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы», «Лотаць», «Дар» і інш. Зборнік вершаў «Зімні дождж» адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова. За кнігу лірыкі «Ручнічок на крыжы» ўганараваны прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, а за кніжку «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» — спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура».

У вершах паэта няма пафасу, яго словы ідуць ад душы. На вершы Міколы Маляўкі напісаны песні, па яго драматычных творах ставіліся спектаклі.

Пісьменнік гутарыў з хлопчыкамі і дзяўчынкамі пра ролю роднай мовы, правёў прэзентацыю новай кнігі «Пачынай дзень з усмешкі». На ўспамін пра цёплую сустрэчу творца падарыў бібліятэцы некалькі кніг, у тым ліку і аўтарскіх.

Жывая сувязь «пісьменнік — чытач» — адна з асноўных мэт літаратурных сустрэч у клубе «Давайце знаёміцца».

**Іна УРБАН**

*З нагоды*

# Павінен ведаць кожны

**Аўтар гістарычных і дзіцячых твораў Анатоль Бутэвіч, кнігі якога з серыі "7 цудаў Беларусі", напэўна, знаёмыя кожнаму падлетку, у займальнай форме распавёў магілёўскім школьнікам пра рэчы, якія павінен ведаць кожны беларус.**

Сустрэча з пісьменнікам адбылася ў абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна. Размова з Анатолем Бутэвічам захапіла з першых хвілін. Напэўна, таму, што ён адразу папярэдзіў: гаворка будзе ў форме дыялогу.

Падчас «гульні ў пытанні» дзеці даведаліся, чаму ў Беларусі нават цэрквы былі крэпасцямі, дзе з'явіўся першы мураваны замак і шмат што яшчэ. З захапленнем слухалі гісторыі пра Мір, баронскую сталіцу, і Смаргонскую мядзведжую акадэмію, пра тое, як Пане Каханку катаў на мядзведжых запрэжках па «радзівілаўскім метро» сваіх гасцей паміж Нясвіжам і Мірам: каб сані слізгалі па зямлі, яе густа пасыпалі соллю. Пра ўсё гэта і многае іншае можна дазнацца з кніг А. Бутэвіча, якія пабачылі свет ў Выдавецкім доме «Звязда»: «Таямніцы Мірскага замка», «Таямніцы Нясвіжскага замка», «Паміж Кніствам і Каронай».

Юнакі і дзяўчаты змаглі папоўніць асабістыя бібліятэкі цікавым выданнем. І гэта адбылося дзякуючы Выдавецкаму дому «Звязда», які і арганізаваў сустрэчу з пісьменнікам. Намеснік дырэктара выдавецтва Ала Корбут правяла невялікую віктарыну: за правільны адказ можна было атрымаць у падарунак кнігу ад выдавецтва — твор знакамітага фантаста Станіслава Лема. Дарэчы, аўтар перакладу Анатоль Бутэвіч упэўнены, што карысна знаёміцца з дасягненнямі сусветнай літаратуры на роднай мове.

**Нэлі ЗІГУЛЯ**

# Адкрыўшы нанава краіну



Фота Кастуся Дробава

**Беларускі пісьменнік Уладзімір Мазго запрасіў юных чытачоў у незвычайнае падарожжа.**

Старонкі яго кнігі «Адвечныя скарбы Радзімы» пераносяць у мінуўшчыну: знаёмяць з архітэктурнымі помнікамі і вядомымі пастацямі краіны. Каларытную гістарычную атмасферу дапаўняюць арыгінальныя, ахопленыя рамантычным павевам стагоддзяў малюнкі мастака Ігара Гардзіёнка. Прэзентацыя выдання, якое пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», адбылася 25 сакавіка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі з удзелам калег і сяброў творцы: кампазітара Алега Елісеенкава, літаратуразнаўцы Яўгена Гарадніцкага, намесніка дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Алы Корбут ды інш.

Падчас прэзентацыі аўтар прачытаў свае вершы і распавёў пра тое, як «нарадзілася» выданне: «Я даўно марыў стварыць гістарычную кнігу. Аднойчы мяне выправілі ў камандзіроўку, дзе я патрапіў на раскопкі старажытнага Бярэсця і быццам… апынуўся ў глыбіні стагоддзяў, нанава адкрыў мінуўшчыну Беларусі! Гэта было імпульсам, натхненнем, і я напісаў твор, які стаў першай цаглінкай у падмурку будучага выдання».

Беларускі літаратуразнавец, акадэмік, доктар філалагічных навук Уладзімір Гніламёдаў адзначыў, што кніга «Адвечныя скарбы Радзімы» павінна мець працяг. «Уладзімір Мазго — вельмі назіральны аўтар, які ўмее «дакрануцца» душой да падзей і мясцін, пра якія піша, красамоўна і лаканічна перадаць свае ўражанні», — падсумаваў Уладзімір Васільевіч.

Кніга будзе цікавая ўсім — і маленькім, і дарослым. Такую думку выказаў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці, беларускі культуролаг, кнігазнавец Алесь Суша і дадаў: «Час ідзе, інтарэсы моладзі мяняюцца, але літаратура заўсёды будзе адной з лепшых формаў спасціжэння свету».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Гісторыя ў ілюстрацыях

Нягледзячы на ўсе гістарычныя катаклізмы, пасланыя лёсам нашай краіне, сёння на адносна невялікай тэрыторыі Беларусі захавалася непаўторная архітэктурная калекцыя.

Менавіта гэта і адлюстраваў Віталь Раковіч, выстаўка работ якога «Ілюстрацыі да гісторыі беларускай...» адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

За больш як чвэрць стагоддзя Віталь Раковіч пабываў у многіх кутках свету. Але Беларусь была і застаецца самым любімым месцам. Вандроўкі па радзіме — гэта не толькі дзясяткі тысяч кіламетраў і сотні гарадоў, пасёлкаў і вёсак, але і тысячы ўнікальных кадраў, якія ўражваюць адмысловым стылем — «неафотаграфікай», паводле аўтарскага азначэння.

Выстаўка «Ілюстрацыі да гісторыі беларускай...» у розных варыянтах экспанавалася ў Беларусі і за яе межамі. У гомельскім палацы прадстаўлены фотадзымкі, зробленыя нядаўна.

**Раіса МАРЧУК**

## Струны душы і гітары

Сустрэча з паэтэсай і бардам Алінай Легастаевай адбылася ў межах пасяджэння паэтычнага клуба «Парнас» у сталічнай бібліятэцы № 5. У прывітальным слове старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў адзначыў творчую і грамадскую актыўнасць Аліны Антонаўны: яна плённа працуе на ніве сучаснай беларускай літаратуры, мае шэраг паэтычных зборнікаў.

Завіталі на вечарыну і калегі па пяры: Дзмітрый Дзямідовіч, Наталля Касцючэнка, Іна Фралова, Вольга Норына, Лізавета Палеес і аўтар гэтых радкоў, а таксама кампазітар Алег Алоўнікаў.

«А хто я такая, з якога я краю?» Творца невыпадкова абрала гэтыя радкі эпіграфам да ўсёй імпрэзы: у многіх вершах і песнях разважае пра сэнс жыцця, сваё месца на зямлі. «Не забылася мовы, як роднае хаты…» — сцвярджае яна, нягледзячы на тое, што 20 гадоў пражыла ў Літве, а яшчэ 5 — на Далёкім Усходзе (родам паэтэса з вёскі Верацеі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці).

У адказ на пытанне пра ўласны шлях да паэзіі А. Легастаева прызналася: стварыўшы першы верш нібыта пад нечую дыктоўку, не змагла пісаць «у стол». Так пабачылі свет зборнікі лірыкі «Яшчэ да Евы я жыла» (1998), «На вертикали сердца» (1999), «Кветак позніх свята» (2006), «Яблочный Спас» (2008), «Поле жизни моей» (2011), «Когда-нибудь» (2012).

На думку Аліны Антонаўны, няма жыцця без кахання, а чалавеку, якога кахаеш, хочацца рабіць дабро.

**Яна ЯВІЧ**

Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае шчырае спачуванне члену СПБ Мікалаю Уладзіміравічу Леўчанку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.

Вожык
Часопіс сатыры і гумару

## Паважаныя чытачы!

Часопіс «Вожык» — даўні сябар газеты «Літаратура і мастацтва» — віншуе вас з вясёлым святам 1 красавіка. Жадае добрага настрою, усмешак, жартаў, розыгрышаў! Станавіцеся аўтарамі «Вожыка», дасылайце свае гумарэскі, былі, гісторыі, анекдоты... Давайце ўсміхацца разам!

**Юлія ЗАРЭЦКАЯ,**
**галоўны рэдактар часопіса «Вожык»**

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## 1 красавіка

*1 красавіка —*
*гэта дзень падманаў.*
*Іх чакай ад сябрука*
*і калег таксама.*

*Можа жонка падмануць,*
*можа, зрэшты,*
*цешча.*
*Ім не стаў таго ў віну —*
*разам з імі цешся!*

*Дзень які ўсё ж пацярпі —*
*не зважай як бытта,*
*а затым сваё ўжо гні*
*і падманвай іх ты!*

## Венікам па пісьменніках

**Аўтаэпіграма**

*Паэты! Крыўдаваць не час,*
*што парадзірую я вас.*
*Няхай вас лепей тое цешыць,*
*што я чытаю вашы вершы…*

**Алесь БАДАК**

*«Адзінокі васьмікласнік хоча*
*пазнаёміцца»,*
*аднак*
*днём таго, відаць,*
*а болей — ноччу*
*хоча сам Алесь Бадак.*

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

*Ніколі пад сябе не гроб.*
*Праз «Гомельскую праўду», аблгазету,*
*Нібы руплівы земляроб,*
*У Гомелі вырошчваў ён паэтаў.*

**Аляксей ДУДАРАЎ**

*Перад «Парогам» сэрца ные*
*І перад «Выбарам» нямее.*
*Вядуць у наступ «Радавыя»*
*Да зорнай славы Аляксея.*

**Казімір КАМЕЙША**

*Ён вачыма спакуснымі*
*Узіраецца ў свет.*
*«Паміж кубкам і вуснамі»*
*Балансуе паэт.*

**Вадзім СПРЫНЧАН**

*Рэдактар В.Спрынчан — ад Бога.*
*Радкі паэтавы лямешыць*
*Ён не таму, што судзіць строга,*
*А для таго, каб іх палепшыць.*

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

*Каб быць, як на кані, у творчым стане*
*І, што не пішацца, не енчыць,*
*З адсеяных зярнятак у рамане*
*Ён чытачоў частуе «Сечкай».*

## Вясковая лазня

*Шчыльна акенца фанерай*
*у лазні затульваў мой тата,*
*каб мы,*
*хлапчукі-кавалеры,*
*не лезлі зірнуць на дзяўчатак.*

*Аднак праз фанеру,*
*што тата*
*заўжды да акенца прымерваў,*
*была нам магчымасць падглядваць,*
*бо выпаў сучок з той фанеры.*

*І, коса зірнуўшы на дзверы*
*(не выйшаў бы толькі хто з хаты!),*
*праз той праз сучок у фанеры*
*мы беглі зірнуць на дзяўчатак.*

*Зірнём —*
*і адразу на ногі*
*наўцёкі*
*чародкай дзіцячай.*
*Не бачылі ў лазні нічога,*
*хоць кожны хваліўся,*
*што бачыў.*

*Той час,*
*на ўспаміны багаты,*
*мы з жонкамі згадваем разам,*
*бо іх узялі мы*
*з дзяўчат тых,*
*якіх павыглядвалі ў лазні.*

**Сяргей ДАВІДОВІЧ**

## Эксперымент

*Я зрабіў эксперымент,*
*Як у казцы, што чытаў, —*
*Каб разбіць сумненні ўшчэнт,*
*У люстэрка запытаў:*

*— О, люстэрка на сцяне!*
*Ты з маленства тут не госць,*
*Раскажы ўсё пра мяне,*
*Усю праўду, ўсё, як ёсць!*

*І люстэрка — у адказ:*
*— Бачу я не першы раз*
*Прыгажосць тваю, прывабнасць,*
*І падцягнутасць, і зграбнасць.*

*Але знешнасць — хуткі май,*
*Ты духоўны — цераз край.*
*Працаздольны, пладавіты,*
*Як ніхто, таленавіты.*

*Ты ва ўсім, заўсёды — новы,*
*Словам — геній прыжыццёвы,*
*Помнік будзе залаты*
*Па табе — такі вось ты!*

*Я задзёр да столі нос,*
*Але нос абвяў уніз —*
*Каляндар ад пылу строс,*
*Ліст перавярнуў — і скіс.*

*Пад гарачы сэрца стук*
*Словы сплюнуў з языка:*
*— Гэта ж сёння дзень манюк —*
*Першага красавіка!*

*Малюнак Аляксандра Каршакевіча*



— Наш новы вопытны экзэмпляр! Дае малако, яйкі і мяса!

**Уладзімір ШПАДАРУК**

## Вясёлы слоўнік

Акуліст — паляўнічы на акул.
Вадабой — всляр.
Гарачыцца — парыцца ў лазні.
Дазор — касмічны апарат.
Драпежнік — уцякач.
Карапуз — той, хто лезе на дрэва.
Кішэнь — мурашнік.
Малаток — электрык невялікага росту.
Страхаўшчык — рабочы, які крые стрэхі.
Півоня — аматар піва.
Трэбнік — вымагальнік.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

## Свет не ўратуе прыгажосць

*Наўрад ці свет*
*уратуе прыгажосць,*
*Хутчэй самой ёй трэба дапамога,*
*Пакуль у гэтым свеце зайздрасць ёсць,*
*Да лепшага не зменіцца нічога...*
*Адзін паэт прыгожы «джып» купіў,*
*Другі паэт ад зайздрасці... запіў.*

## Сапраўдны гумарыст

*Сапраўдным гумарыстам*
*той з'яўляецца,*
*Хто і да самакрытыкі схіляецца,*
*Калі спрабуе*
*з лоўкасцю паяца*
*Ён над сабой любімым*
*пасмяяцца*
*І лічыць,*
*што ў жыццёвай барацьбе*
*Не трэба грэбці толькі пад сябе...*

## Лысы паэт

*Таму ён рана лысым стаў*
*І страціў волас свой,*
*Што на кароткім ложку спаў*
*І церся галавой...*
*Было гэта не ў цеснай хаце,*
*А ў інстытуцкім інтэрнаце...*

## Дачны паэт

*Ані паэмай,*
*ні баладай*
*Паэт не радуе народ,*
*Затое можа ён лапатай*
*Пералапаціць агарод,*
*Расціць цыбулю і капусту...*
*Каб мець да выпіўкі закуску.*

*Малюнак Вікенція Пузанкевіча*




**Міхаіл УЛАСЕНКА**

## Міні-пароды

***

Ушчувае мяне маці ціха-ціха:
— Гора ты маё, маё ты ліха...
Налівае кварту сырадою —
На, напіся, валацуга з барадою!
**Вячаслаў Дашкевіч**

*А затым пайшлі прыгоды кругам:*
*Прымусілі хадзіць з касой, за плугам,*
*А вечар надыходзіў — дзеўкі цугам*
*За мной, за барадатым валацугам.*

***

Так і не прыдумаю,
Што табе дарыць...
Ці ракі магутнай плынь,
Ці румяны цвет калін...
**Ніна Загорская**

*Мне не трэба плыняў і калін,*
*Падары мне лепей*
*Пару Нін.*

***

Я вольны, як птушкі,
Я гол як сакол.
Сабою не важкі,
Душою — арол.
**Сяргей Іваноў**

*Жыццё бурліць вакол,*
*Мяне абходзіць бокам;*
*Я голы, як сакол,*
*А горды, нібы сокал.*

***

І так цягне дамоў,
Калі каліўе паляць!
**Ала Канапелька**

*Пах айчынных дымоў!*
*У сэрцы плавіцца наледзь...*
*Мяне ж цягне дамоў,*
*Як кабанчыка смаляць.*

***

І цвет гуркоў па частаколу
У двор суседні пералез.
**Віктар Гардзей**

*Падчас гарэзлівыя кветкі*
*Такія робяць віражы!..*
*Падумаў я: і дом суседкі*
*Мне абсалютна не чужы!*

***

Было яшчэ балотца, дзе лавілі
Мы за хвасты цяжкіх цецерукоў.
**Уладзімір Карызна**

*А яшчэ любілі мы рыбачыць,*
*Такіх язёў лавілі — трэба бачыць!*
*Не тое што пярнаты цецярук;*
*Паказаў бы — не хапае рук!*

***

Нам звычна
Чару горкы куляць.
**Пятро Ламан**

*Як кульне Пятро Ламан,*
*То і цягне на раман.*

***

О Божа, што за пакаранне
Адну кахаць, адзінай жыць...
**Змітрок Марозаў**

*Ды й тая з вечара да рання*
*На ложку з кніжкаю ляжыць.*

***

Зноў мухі будуць бзымкаць сонна
за павуцінным мутным шклом.
**Алесь Наўроцкі**

*Дзякуй павучку, найперш —*
*Такі набзымкалі мы верш!*

## Аб'явы

Будзім кожную раніцу. Магчымыя варыянты: званок у дзверы, званок па тэлефоне, цагліна ў акно, пацалунак у вуха, цагліна ў вуха, пацалунак у акно.
**Аддзел кадраў**

Высокакваліфікаваны экстрасэнс пазбавіць ад пахмелля. Пры сабе мець: мільён рублёў і бутэльку гарэлкі.

Увага! Учора з нашага заапарку збегла чарапаха. Хто знойдзе, калі ласка, павярніце яе на 180 градусаў.
**Адміністрацыя**



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# Перасмешнікі паняволі

## З нявыдуманага

Цяпер, напэўна, мала хто з мінчан можа ўспомніць, што гэты гмах пад высозным шпілем на ўзбярэжжы Свіслачы, дзе крыжуюцца вуліцы Куйбышава і Камуністычная, якраз насупраць тэатра оперы і балета, калісьці ў горадзе шматзначна называўся Пентагонам. Чаму дасціпнікі прычапілі яму гэтую ваяўнічую заакіянскую назву, усім было зразумела без лішніх тлумачэнняў, нішто не выклікала сумнення. Тут размяшчаўся ў тыя гады штаб Беларускай ваеннай акругі. Вайсковае, як самі бачыце, ведамства. А ў далёкія 60-я, калі Савецкі Саюз і ЗША знаходзіліся ў стане «халоднай вайны» між сабою, калі добра не ўлеглася пагроза «кузькінай маці» — таямнічай зброі, прынародна прадэманстраванай тагачасным кіраўніком савецкай дзяржавы Мікітам Хрушчовым, назва амерыканскага ваеннага ведамства Пентагона не сыходзіла са старонак нашага друку, з праграм радыё і тэлебачання. Вядома ж, у самых негатыўных фарбах і праявах, з кляймом надобрай і змрочнай славы. І сваімі абрысамі той, заакіянскі, аплот ваеннай пагрозы нечым нагадваў будынак штаба БВА. Ну, не зусім блізка, адпаведна, але ж для людской фантазіі і гэтага было дастаткова, каб знайсці сваё параўнанне.

Чым кіраваліся? Толькі тут была прахадная з будкай, у якой днём і ноччу стаяў дзяжурны салдат з клінком на поясе і чырвонай павязкай на рукаве гімнасцёркі ці бушлата; толькі туды і адтуль заходзілі і выходзілі службоўцы з адпаведнай чыну колькасцю зорачак на залацістых пагонах, заязджалі і выязджалі чорныя лімузіны з нумарамі, якія не ўсім шанцавала займець; толькі тут, за варотамі, у двары і на тратуары вакол мураванай агароджы кожны дзень соўгаліся нарады маладзенькіх вайскоўцаў, шоргаючы шуфлямі і мётламі-дзеркачамі, наводзячы патрэбны, па-вайсковаму чынны парадак і чысціню.

Мінула ўжо цэлая эпоха, а парадак у тым кутку нашай сталіцы не памяняўся да гэтага часу, бо ранейшае ведамства нікуды не дзелася, не змяніла «месца дыслакацыі», не пакінула надсвіслацкую занятую «вышыню»: штаб застаўся штабам, але ўжо — Беларускай арміі. Праўда, цяпер, можа, лягчэй туды нейкім чынам «прабрацца», нават магчыма наладзіць экскурсію для школьнікаў, а тады… Што рабілася там, унутры гэтага суровага з выгляду будынка, само сабой зразумела, заставалася таямніцай. Ці дакладней — ваеннай тайнай. Не ведаю, што кіравала людзьмі, а таму-сяму хацелася ўсё ж трапіць за вароты прахадной, перакінуцца словам-другім з салдацікамі з вартаўнічай будкі, паказаць свае смеласць і адвагу, сходзіць сюды, нібы ў разведку. Асабліва калі гэткі інтарэс быў ужо добра падагрэты залішняй шклянкай-малінкоўкай (тады імі часцей карысталіся, чым звычайнымі застольнымі чаркамі-кілішкамі) традыцыйнай «Маскоўскай» ці той жа ўпадабанай «Пшанічнай». З таго часу засталіся гісторыі, якія болей нагадваюць легенды, але ж і легенды ўзнікаюць не на пустым месцы, маюць пад сабой нейкую глебу.

Пачну хіба крышку здалёк.

Не ведаю, як цяпер, а мы раней вельмі паважліва ставіліся да пісьменнікаў старэйшага пакалення, да тых, хто ў большасці сваёй прайшоў вайну: ваяваў на фронце, у партызанах, быў падпольшчыкам. Маючы перавагу ва ўзросце, заслугах і таленце, ніхто з іх не паказваў перад намі свайго высакамер'я, стараўся трымацца з намі, як з роўнымі, як з сябрамі па пяры. І мы, маладзейшыя, адказвалі ім тым жа: сваёй павагай, пачцівасцю, нават улюбёнасцю. Асабліва шчырае, цёплае сяброўства было ў іх з паэтамі «барадулінскага прызыву», якім давялося на сваё вочы малалеткамі пабачыць жахі ваеннага ліхалецця, перажыць тыя нягоды, разам з дарослымі прайсці праз вайну. Менавіта з падачы гэтых хлопцаў-вершатворцаў Анатоль Вялюгін стаў «адміралам», Пятро Прыходзька — «палкоўнікам» (а ў вострага на язык Барадуліна — яшчэ і «паўлітруком»), а чалавек дабрэйшай душы Антон Бялевіч таксама не застаўся абдзеленым — яму дастаўся чын «генерала». Калі Пятро Фёдаравіч такі высокі афіцэрскі чын выслужыў сапраўды (ён пасля чарговай адзнакі ў ваенкамаце не ўтрымаўся, каб не адклікнуцца на павышэнне ў званні радкамі новага верша: «Я, сябры, сягоння падпалкоўнік…»), дык у Анатоля Сцяпанавіча і Антона Пятровіча яны, можна сказаць, былі не больш чым ганаровыя, за заслугі ў творчасці. І гэта не ўспрымалася імі за нейкую насмешку ці, як цяпер кажуць, «прыкол», а ўсе трое, наадварот, ганарыліся гэтымі «званнямі», лічылі іх адпаведнымі тым заслугам і «пасадам», што годна займалі на паэтычным Парнасе, у літаратуры. І кожны з іх імкнуўся трымацца і паводзіць сябе згодна са сваім «чынам». Праўда, не заўсёды ўдавалася быць у належнай форме, але ж імкненне было. І ў кожнага быў свой распарадак творчага дня.

Шаноўны Антон Пятровіч, напрыклад, свой «рабочы дзень» пачынаў раненька, з халоднай ванны, што заўсёды ўзбадзёрвала яго. Да абеду працаваў. Потым пачынаў абход рэдакцый з раздачай новых вершаў, дзе можна было сустрэцца з сябрамі, рэдактарамі, пагутарыць, паспрачацца, выбрацца ў якую небудзь харчова-гандлёвую кропку, пасядзець у застоллі. Заўсёды акуратна апрануты, пад гальштукам, у фацэтным капелюшы, з-пад якога паблісквалі шкельцы акуляраў, ён меў выгляд паважанага чалавека з начальніцкага шэрагу, міністра, не меней. І вось аднаго разу, атрымаўшы на радыё ганарар і пасядзеўшы з хлопцамі ў «Чорных скалах» — кафэ-забягалаўцы непадалёк ад гэтага самага «Пентагона», — сунуўся Антон Пятровіч дадому. Каб выбрацца на праспект ды скіравацца ў бок свайго дома, трэба было абавязкова прайсці міма варот з чырвонай зоркай і безвусага салдата-ахоўніка ў будцы за імі. Ці то падалося Антону Пятровічу, як ён у час вайны з Масквы прабіраўся па заданні Цэнтральнага штаба партызанскага руху ў варожы тыл, да партызан легендарнага камбрыга Бацькі Міная, хадзіў з імі на заданні, ці то прачнуўся ў ім былы маладняцкі запал, які нярэдка мяжуе з унутранай безразважнасцю і выклікам, ці то ўспомніў, што ён не хто іншы, а генерал таксама, раптам захацелася яму да самога камандуючага акругі трапіць на прыём, ашчасліваць яго нечаканасцю свайго не такога ўжо ардынарнага візіту. Ці ўдасца пагаварыць з ім — невядома, а паказацца на вочы можна!

Як адбываўся прарыў на гэты забаронены для цывільных асоб з вуліцы аб'ект, я чуў з вуснаў яго сябра і «ад'ютанта», былога адважнага партызанскага разведчыка і франтавіка, цікавага пісьменніка Рыгора Восіпавіча Няхая.

Было нібыта ўсё так.

Салідны, сур'ёзна-нахмураны, з выглядам важнай «шышкі» рашуча наблізіўся Антон Пятровіч да вартавога.

— Генерал Белевич, — буркнуў салдаціку, ускінуўшы руку ў знак прывітання, і няспешна пашыбаваў да прыступак параднага ўвахода ў будынак штаба. Разгубіўшыся, вартавы толькі ўслед паглядзеў. Не пакінеш жа пост, не пабяжыш наўздагон за генералам! Яшчэ пару лішніх нарадаў адхапіць можна!

Такім жа чынам абмінуўшы пост у самім памяшканні штаба, без прыгод і праверак дабраўшыся да прыёмнай, пацікавіўся ў дзяжурнага афіцэра:

— Генерал у себя?

— У себя. А вы, извините, кто будете? С каким вопросом?

— Генерал Белевич. Мы договорились о встрече. Доложите ему, что я пришёл.

Пераступіўшы парог кабінета камандуючага войскамі БВА генерала-палкоўніка Трацццяка, Антон Пятровіч зноў прывычна адрэкамендаваўся:

— Генерал Белевич.

Глядзіць камандуючы недаўменна, потым у нейкую паперыну ўторкнуўся: можа, ачуўся, бо няма ў яго вайсковай акрузе такога генерала. А Антон Пятровіч удакладняе:

— Генерал поэзии.

Не прыкмеціў госць, як за спіною вырaслі постаці двух ці трох афіцэраў, застылі ў чаканні загаду, а камандуючы, устаўшы з-за вялізнага стала, тыцнуў пальцам у прышэльца-дзівака і загадаў з пагрозлівай іроніяй:

— Выведите этого генерала… поэзии и срочно разберитесь, как он сюда умудрился пройти.

Усё абышлося, як і павінна было абысціся: вывелі Антона Пятровіча пад лукаткі за вароты, нават правялі з дзясятак крокаў, каб, чаго добрага, не ўзбрыло ў галаву назад вярнуцца. На развітанне вайскоўцы не прамінулі падкрэсліць сваю добразычлівасць, мірны характар гэтага не зусім прыемнага інцыдэнту:

— Ты, уважаемый, когда почувствуешь, что перебрал немножко, лучше дома посиди, никуда носа не показывай. Тогда и тебе самому меньше неприятностей будет, и никого со стороны под монастырь не подведешь…

На тым і разышліся. Без лішняй шуміхі, па-вайсковаму высакародна: як-ніяк генерал, хоць і ад паэзіі.

Героямі яшчэ адной, як мне падаецца, болей авантурнай гісторыі сталі дзесьці ў сярэдзіне тых жа неспакойных у ваеннай палітыцы гадах трошкі старэйшыя за мяне студэнты-філфакаўцы Валодзя Старчанка і Фелікс Ксянзенка. І я, і яны ў адзін год паступілі на філфак БДУ імя Леніна: я — на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры, яны — на аддзяленне журналістыкі. У адрозненне ад некаторых з нас, учарашніх школьнікаў, яны паступалі пасля дэмабілізацыі са службы ў арміі, з-за чаго мелі перавагу падчас здачы ўступных экзаменаў і пры залічэнні ў студэнты. Склад студэнтаў тады быў не ва ўсім тутэйшы, мясцовы, часта — інтэрнацыянальны. У нечым жулікаваты, не пазбаўлены настырнай хітрасці, Фелікс быў родам з Украіны, а паважна-элегантны, няспешлівы ў хадзе, чарнявы прыгажун, які выглядам сваім змахваў на француза, Валодзя кідаўся ў вочы вытанчанасцю манер, акуратнасцю, валодаў нейкім запасам англійскіх слоў і даволі прыстойна брынкаў на гітары, спяваў пад яе акампанемент рамантычную коганаўскую «Бригантину», што якраз тады выплыла з гавані забыцця, прымушаючы мацней трымцець ад хвалявання сэрцы інтэрнацкіх дзяўчат.

Не ведаю, чым патлумачыць усё, але так склалася ў іх, што хлопцы моцна здружыліся, заўсёды трымаліся разам, куды б ні выпраўляліся — ці на лекцыі, ці ў бібліятэку, ці на ўніверсітэцкія вечарыны, ці ў кіно. Відаць, яны — упраўна-хітраватыя, хахляцкай натуры Фелікс і спакойна-разважлівы, не пазбаўлены пачуцця гумару містар Старк, як яго велічалі аднакурснікі — імпанавалі адзін аднаму сваімі дружбацка-кампанейскімі характарамі. Абодва былі хлопцы вясёлыя, асабліва Фелікс, і ўзбрыла ім аднойчы неверагодна адважная і рызыкоўная забава — пажартаваць. Калі б хлопцы былі на той момант цвярозыя, не пад градусам з радасці паспяховай здачы чарговай экзаменацыйнай сесіі, да такога б жарту даўмецца яўна б не маглі. А так…

Як яны трапілі ў той закутак сталіцы, не ведаю, але шыбавалі добра падвяселеныя хлопцы міма гэтага самага таямнічага гмаха пад шпілем — свайго Пентагона, — і захацелася ім раптам перад вайскоўцамі, лічы, нядаўнімі калегамі па зброі і службе ў арміі, жартоўную сцэнку разыграць, паказаць, якія здатныя на выдумку і… смелыя. А смеласць для будучай прафесіі — рэч не самая апошняя. Чым яшчэ на той час думалі, на што разлічвалі — невядома, засталося тайнай. Захацелася пажартаваць — і ўсё!

Задумалі — зрабілі! Услужлівы Фелікс Ксянзенка згадзіўся выступіць у ролі перакладчыка містара Старка — мільянера з Нью-Ёрка. Гэта цяпер ледзь не ўсе ў нас мільянерамі сталі, а тады… Ого!

Падышоўшы да паставога і акінуўшы доўгім праніклівым позіркам будыніну ваеннага ведамства, Валодзя Старчанка, ён жа містар Старк, пачаў нешта лапатаць па-англійску, а сябрук Фелікс — уважлівы, абыходлівы перакладчык — стаў пераказваць насцярожанаму вартавому змест таго лапатання на чужой і незнаёмай мове.

— Мистер Старк, миллионер из Нью-Йорка. Ему очень понравился этот дом, он хотел бы его купить. С кем можно переговорить насчёт этого?

— Обождите минуточку, — пасля нядоўгага замяшання ўстрапянуўся вартавы. — Я ничего сказать не могу, сейчас позову старшего по наряду. — Ён адвярнуўся, зняў тэлефонную трубку, штосьці прагаварыў, захінуўшы яе далонню, каб гэтыя неспадзяваныя «замежныя госці» не маглі нічога лішняга ўчуць.

Чакалі надоўга. Ледзь не подбегам да іх наблізіўся дзяжурны афіцэр. Звычна казырнуў.

— Кто такие, что вас интересует?

Зноў прыцмокнуўшы языком ад захаплення і паказаўшы на дом пад шпілем, чарнявы, элегантна апрануты ў такі ж чорны гарнітур «замежны госць» штосьці загаварыў на сваёй мове, а яго рухавы перакладчык растлумачыў:

— Мистер Старк, миллионер из Нью-Йорка. Ему очень понравился этот красивый дом, он хотел бы его купить. С кем можно переговорить насчёт этого? — Потым дадаў: — Может, с вами, господин офицер?

— О нет, нет! — замахаў той рукамі. — Я сам не могу ничего решить. Пройдёмте со мной, надо посоветоваться.

Прывёўшы ў памяшканне штаба, ён запрасіў іх у нейкі пусты кабінет, папрасіў у незвычайных пакупнікоў прабачэння, што ім давядзецца трошкі пачакаць, а сам выслізнуў за дзверы, і тут жа хлопцы пачулі паварот ключа ў дзвярным замку. Кінуліся да дзвярэй, тузанулі іх — дарэмна! Як у пастку трапілі.

— Што рабіць будзем? — першым апамятаўся «перакладчык». — Яны ж у каталажку нас заграбуць ці ў выцвярэзнік здадуць!

Шукаючы ратунку, падскочылі да акна. Ім пашанцавала. Кабінет знаходзіўся на першым паверсе, а акно не было засакрэчана кратамі. Выбраўшыся праз акно ў двор, азірнуўшыся, ці не даганяе хто, яны ўжо не паважна, як спярша, а шпаркім крокам, лічы, трушком праскочылі міма вартавой будкі і бегма падаліся да праспекта, спадзеючыся згубіцца незаўважна ў яго шматлюднасці. Аднак радасць свабоды была надоўгай: іх перахапілі на мосце праз Свіслач нейкія людзі ў цывільным, і яны зноў апынуліся пад замком. Гэтым разам у будынку, бліжэйшым да рэктарата БДУ, куды неўзабаве прыйшла адпаведная папера.

Як ні дзіўна па тым часе, гэты «міжнародны» інцыдэнт вырашыўся даволі мірна, без асаблівых рэпрэсіўных мер з абодвух бакоў — КДБ і БДУ. Нікому не цюкнула ў галаву лічыць іх вылазку вартай суровага пакарання ці палічыць іх захопнікамі «Пентагона» або зламыснымі агентамі чужой дзяржавы. Час ужо быў не той, хоць людзі ў пагонах маглі таксама «пажартаваць» па-свойму.

Хлопцы засталіся вучыцца. Вымовы, што ўляпілі ім, можна лічыць лёгкім спалохам. Галоўнае — не выключылі. Фелікс, атрымаўшы дыплом журналіста, як і хацеў таго, з'ехаў на сваю Украіну, а містар Старк чамусьці палічыў за лепшае прадоўжыць вучобу завочна, уладкаваўшыся выпускаючым (была такая пасада ў рэдакцыях) у газету «Піянер Беларусі», дзе праз нейкі час нават перасеў у крэсла адказнага сакратара.

Не ведаю, як склаўся далейшы лёс «перакладчыка» Фелікса, а вось жыццё «мільянера містара Старка», таленавітага, як аказалася, журналіста, заўчасна абарвала цяжкая хвароба. Калі б ён быў жывы, то, магчыма, цяпер Валодзя больш падрабязна расказаў бы пра тую неверагодна рызыкоўную выхадку сваёй маладосці, а тады, калі я стараўся нешта вывудзіць у яго, як і многія, хто трапляў у падобныя сітуацыі, звязаныя з ходкамі ў следчыя кабінеты, ён лічыў за лепшае ўсміхнуцца загадкава, з нейкай іроніяй адмахнуцца: «Чаго не бывае па сваёй дурноце!»

Што ж, няхай будзе так, як ён сам думаў.

# Перыядычная энцыклапедыя




На пачэсным месцы лютаўскага нумара часопіса «Полымя» — паэзія Віктара Гардзея, надзвычай багатая алегарычнасцю, сімволікай і, адпаведна, сэнсамі. Яе вобразы, зямныя і касмічныя адначасова, прымушаюць памятаць: мы госці на Зямлі, але, парадаксальна, госці, якія тым больш «да месца», чым лепш усведамляюць няпэўнасць сваёй прысутнасці.

Вершы Уладзіміра Чараухіна і Чынгіза Аліаглу — нібы подых свежага ветру ў сучаснай паэзіі, хаця б таму, што не выклікаюць славутае "галоўнае пытанне" беларускай крытыкі: "Чаму плача песня наша?" Вершы Ч. Аліаглу, цудоўна перакладзеныя з азербайджанскай М. Мятліцкім, адметныя рэаліямі (Парыж, яшчэ і ў духу Г. Апалінэра), тэмамі (сутнасць свабоды / несвабоды), матывамі («Высахлая рака», «Цюльпаны Нахічавані»).

Прыцягне ўвагу чытача дакументальная аповесць Юліяна Высоцкага «Маладзечанскія "маладагвардзейцы"». Але, калі гэта не толькі дакумент, а яшчэ і аповесць, чытач натуральна разлічвае на нешта «мастацкае». І падманецца. Мала паўстаўляць у тэкст дыялогі. Мастацтва патрабуе матывацыі дзеі. Група Данілы Гярновіча сапраўды «ўнікальная ў тым сэнсе, што на працягу з лютага 1943-га і да канца акупацыі ўсе яе ўдзельнікі ваявалі храбра, умела, знаходліва, вынікова і не пацярпелі правалу». Тым больш цікава было б даведацца пра падставы гэтай унікальнасці. Іначай твор выклікае недавер.

Прыкладна такое ж уражанне — ад апавядання Янкі Галубовіча «Дзяўчынка на дарозе». Высакародны ўчынак ветэрана Вялікай Айчыннай Якуба Савосіка (ён ратуе дзяўчынку ад трактара ў руках п'янага кіроўцы, а сам гіне) губляецца пад наплывам падрабязнасцей, невядома як звязаных з учынкам. Толькі з нацяжкай можна палічыць дарэчным акцэнт на тым, што бяздзетны Савосік на працягу жыцця не цураўся чужых дзяцей, сябраваў з маленькім сынам жанчыны, якая ў вайну выхадзіла яго, параненага. Няўцямным падаецца папярэдні аповед пра лячэнне ў рэўматалагічным аддзяленні бараўлянскай бальніцы — вяртаючыся адтуль, герой памірае ад сардэчнага прыступу (у гэты час і здарылася трагедыя з трактарам).

Здаўна для мяне было незразумелым існаванне побач двух палымянскіх раздзелаў: «Навуковыя публікацыі», «Крытыка і літаратуразнаўства». Нібыта літаратуразнаўства не навука. Або, калі размова ідзе пра сінтэз крытыкі і літаратуразнаўства (што, дарэчы, у ідэале вельмі добра), дык тое таксама ад навукі далёка. Што ж тады ёсць уласна «навука»? Глядзім: Валянціна Ткачук «Сродкі псіхалагічнага ўвасаблення мастацкага характару ў апавяданні А. Жука "Партызан"». Традыцыйныя для навуковых публікацый уводзіны датычаць дакументальнай беларускай прозы пра вайну (А. Адамовіч, Я. Брыль, І. Калеснік). Чытач, натуральна, думае, што твор А. Жука будзе належаць да гэтай плыні. Але ж не: апавяданне пра вайну, але «дакументальная» яго аснова толькі ў тым, што прататыпам галоўнага героя з'яўляецца бацька аўтара. Далей разважанні ідуць у адпаведнасці з загалоўкам артыкула. Такое "навуковае" чытво спарадзіла думку: добра было б, калі б ва ўводзінах аўтары рабілі рэмарку наконт таго, як стасуецца прапанаваны матэрыял з агульным і прыватным кантэкстам іх навуковага пошуку.

Прыемна, што «Полымя» захоўвае сваю традыцыю перыядычнай «энцыклапедыі» культурнага жыцця — у гісторыі і ў сучаснасці. У лютаўскім нумары гэтай мэце служаць артыкул Ігара Аўласенкі пра «невядомага Івана Мележа» (рукапісныя нататкі да «Палескай хронікі»), таленавіты нарыс «пісьменніцкай крытыкі» Казіміра Камейшы пра творчасць Міколы Мятліцкага і інш.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Расчараванне ў тэатры




Раман Веры Зелянко «Не умереть от истины» — напэўна, самая значная публікацыя двух апошніх нумароў «Нёмана».

Вядомы акцёр Сяргей некалькі дзён апраўляецца пасля моцнага ўдару па галаве і даведваецца з тэлебачання пра ўласную смерць: зламыснік, які скраў яго «мерсэдэс», трапіў у аўтакатастрофу, абпаленае цела палічылі целам Сяргея. Сябры і блізкія не ведаюць, што адбылося, бо пасля здарэння герой знаходзіцца на дачы, а потым жыве ў бабы Соні — некалі бліскучай актрысы, якая памятае Меерхольда, Блока, Маякоўскага, Брык… Але герой пачуваецца так, нібы «зажыва пахаваў сябе»: ён расчараваўся ў тэатры, «даўно і безнадзейна заблытаўся ў сваіх жанчынах» і нечакана даведаўся, што маленькая светлая Алёнка насамрэч — дачка яго сябра. Час ад часу «былыя жанчыны» наведваюць Соніну кватэру: сумуюць ці на штосьці спадзяюцца… З'яўляецца і італьянка Франчэска, якая піша пра рускі тэатр і марыць забраць Сяргея з Ленінграда ў Фларэнцыю.

Герой бяздзейнічае і адчувае сябе «акцёрыкам, якому не хапіла дару на самую галоўную ролю — сваё ўласнае жыццё», а пісьменніца распавядае пра свет, у якім жыў Сяргей. У рамане магло б быць крыху менш эпізодаў, бо сямейныя справы другасных персанажаў не датычаць галоўных герояў — але пісьменніца хутчэй імкнецца выявіць тэатральнае асяроддзе, чым вывесці дасканалую сюжэтную лінію. Тут шмат персанажаў, падзей і загадак, але ўсё атрымліваецца даволі прадказальна: тэатр — атрута, чысцец і шведская сям'я. Затое аўтарка не імкнецца да гладкага пісьма, заўсёды шукае рэзкі штрых — позірк, фразу, жэст. Час ад часу ў думках ці абліччах герояў з'яўляецца штосьці нязграбнае, безгустоўнае — як «дзікі слівавы рот на бледным пергаментным тварвы старой». У творы шмат кантрастаў, дысанансаў: уражанне ад *лунання між жыццём і смерцю* падаецца Сяргею *сумнеўным барахлом*, у кватэру з дыяментамі і смарагдамі вядзе брудная лесвіца шэрага пад'езда.

Часам супярэчнасці робяцца празмернымі. Так, перад першай пяшчотнай ноччу з Франчэскай герой разважае: «Забавно! Я никогда не думал, что с бабой, которая вырвана из другой жизни, из чужой культуры, можно вот так спокойно сидеть и о чем-то болтать. <…> С бабами надо меньше разговаривать». Таямніцы мужчынскага ўспрымання жанчын для нас з аўтаркай невядомыя, але разважанні «пра баб» зусім не суладныя раману і вобразу галоўнага героя.

Пасля адмысловага стылю пісьменніцы другая адметнасць твора — няспынныя ўспаміны, нечаканыя думкі і ўчынкі бабы Соні. Яе захапленне бляскам, раскошай, інтрыгамі, тэатральнасцю маюць вынікам трагічны фінал, хаця яна ставіцца да Сяргея з любоўю і клопатам. Мараль зразумелая: *простыя рэчы* (цеплыня, вернасць, сям'я, дзіця, дом ды яблычны пірог) — самыя каштоўныя, больш значныя за захапленне мастацтвам, акцёрскі кураж і спакуслівыя стасункі. Праўда, альтэрнатыўны жыццёвы шлях у рамане не пераглядаецца, а захаваць цеплыню, вернасць і сям'ю зусім не проста.

Здаецца, баба Соня заўсёды ведае значна больш чым распавядае — пра жыццё, мастацтва і штосьці адвечнае. Натхнёнасць і таямнічасць, непрадказальнасць і недамоўленасць, дзіўнае адчуванне значнасці знойдзеных слоў не знікаюць па заканчэнні рамана. Адмысловы настрой застаецца ў часопісе — у вершах Н. Гальпяровіча, М. Пегасіна, Ф. Васько, у апавяданнях Г. Аўласенкі і Н. Шамятковай. З лёгкай рукі нёманаўскіх рэцэнзентаў беларускія пісьменнікі знаходзяць адпаведнікі ў вялікай рускай літаратуры — і з'яўляюцца ў нас свае Рубцоў-Прасолаў ды Цвятаева-Ахматава, а Л. Турбіна чытае прозу А. Федарэнкі ў кантэксце творчасці М. Лермантава і Ю. Палякова.

Танальнасць мастацкіх твораў адпавядае ўспамінам: Уладзімір Бербераў згадвае свайго знакамітага дзеда Аркадзя Куляшова — і побач з побытавымі дэталямі кажа пра яго стаўленне да многіх сутнасных рэчаў. У эсэ, прысвечаным Рыгору Барадуліну, Ганад Чарказян піша пра вядомага паэта як пра сябра, як пра чалавека, да якога ідзеш у госці, каб паразмаўляць пра літаратуру, — і згадваюцца агульныя знаёмыя, першая сустрэча, цікавыя выпадкі з маладосці. Успаміны напісаны бадзёра, яшчэ без жалобнай ноты — але, на жаль, атрымаліся развітаннем…

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Перліна




Людзі, якія хочуць зваццa пісьменнікамі, пішуць тэксты, прыдумваюць герояў, будуюць сюжэты. Часам атрымліваецца добра, часам — блага, гэта натуральна. Але не зусім натуральным бачыцца мне тое, што гэтыя самыя людзі забываюцца на адну важную рэч, і гэтая рэч — мастацтва. Здаецца, у аўтара багатая лексіка, развітая фантазія і гумар прысутны, але чытаеш твор — і нічога не адчуваеш. Не таму, што, груба кажучы, «не тваё», але таму, што твор... мёртвы.

Сапраўды, некаторыя тэксты можна параўнаць, выбачайце, з мёртванароджанымі дзецьмі. Параўнанне жудаснае, але што зробіш! Вось перад табой «цела», у якога ёсць рукі, і ногі, і галава, і быццам бы нават сэрца. Але як жыцця няма ў такім целе, так і мастацва няма ў некаторых тэкстах, і замест *літаратурнага* твора атрымліваецца твор *літаратурны*.

На гэтыя разважанні мяне навёў кантраст, які ўзнік у лютаўскім нумары «Маладосці». Ён цалкам прысвечаны студэнцкаму літаратурнаму конкурсу «БрамаМар», які сёлета стаў яшчэ і конкурсам для школьнікаў. Як ні дзіўна, уласна літаратуры ў часопісе гэтым разам мала, збольшага — разважанні, меркаванні, інтэрв'ю.

Дык пра які кантраст ідзе размова? Пра той, што пачаў ствараецца са старонкі 50, з аповесці Касі Глухоўскай «Спеў адной перліны». Да гэтай аповесці запомніліся малыдыя аўтары Вячаслаў Гладкіх і Пеця Прыгнёт. Першы напісаў апавяданне «Успышкі памяці» (пытанне да перакладчыка: ці не лепей «Спалахі памяці»?); часам у ім сустракаюцца даволі наіўныя разважанні, з шэрагу выназоднiцтва роварaў, але гэта непазбежна для юнага аўтара, і нічога страшнага тут няма, галоўнае, каб спадар Вячаслаў не лічыў гэтыя разважанні глыбокай філасофіяй і на іх не спыніўся. Пеця Прыгнёт закрануў нечаканую тэму — стаўленне да рэлігіі, веры, а шырэй — разважае пра сапраўднасць чалавека; зрэшты, і гэта не ўсё, у маленькім апавяданні «Спяшаўся ў царкву» шмат накідаў, намёкаў, твор падаецца аб'ёмным, жывым. Што да паэзіі, самыя яркія — вершы Алісы Мінінай, некалькі радкоў Анастасіі Анцімонак і тры слупкі (1, 4 і 5) з верша Крысціны Бандурынай. Пераможца конкурсу «БрамаМар» падаўся мне абсалютна тыповым прадстаўніком пішучых маладзёнаў.

І вось мы разгортваем згаданую ўжо старонку 50, дзе пачынаецца «Спеў адной перліны». Аповесць, якая выклікае непадробнае захапленне. Яе можна ацэньваць не як адзін з конкурсных тэкстаў, не як пробу пяра і дэбют, але як самастойны, самадастатковы твор мастацтва. Пасля гэтай аповесці чытаць ужо не хочацца, хочацца сядзець і радавацца, якая цудоўная ў Касі Глухоўскай атрымалася рэч.

Гі дэ Мапасан у прадмове да рамана «П'ер і Жан» наракаў на крытыкаў за тое, што яны ставяцца да сваёй працы фармальна. Таксама не прымаў ён тэарэтычных крытэрыяў ацэнкі твора, бо ўсе яны, у рэшце рэшт, вынікаюць з прыналежнасці крытыка да той ці іншай школы, а значыць, усё зводзіцца да банальнай справы густу аднаго-двух сур'ёзных дзядзькоў, якія тую школу заснавалі. Лічу, Мапасан меў рацыю. Адзіны крытэрый, які можна прыняць без агаворак, які заўжды будзе справядлівым і аб'ектыўным, — мастацкі твор перад вамі ці не. «Спеў адной перліны» — чыстае мастацтва! Цяжка вытлумачыць, чаму гэта так. Магчыма, справа ў далікатнасці назіранняў, трапнасці вобразаў, у тым, што мова герояў і аповеду натуральная, яна ліецца сама сабою, і ты не адчуваеш, як часам бывае, што вось тут аўтар доўга сядзеў і думаў, вось тут ён адкрыў слоўнік сінонімаў, а тут паказвае: «Во як я ўмею!» Вы ўвогуле не знойдзеце тут аўтара, хіба ў радках пра тое, што «тата трасецца нада мной, як дзядулевы рукі, калі той бярэ шклянку», бо гэтае параўнанне падаецца недарэчным і выбіваецца з твора. У астатнім — віртуозная лёгкасць. Аўтарка прамаўляе ад імя маленькай дзяўчынкі, і гэта дае магчымасць паглядзець на свет у нечаканым ракурсе, свежым і вострым. І пытанні, якія чалавек часта сабе задае — пра грошы, пра любоў, пра чалавечнасць і г. д. — не выглядаюць у аповесці збітымі, як і адказы на іх. «Спеў адной перліны» — жывы прыклад таму, што прынцып «пішы так, каб самому было цікава» дзейнічае.

Яшчэ адна знаходка нумара, але ўжо не наша, амерыканская, — паэзія Мэта Мэйсана. Некалькі яго вершаў у перакладзе Вольгі Бубіч змешчаныя ў рубрыцы «Пераклады» Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Туга і журавіны на снезе

«Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» (выдавецтва «Чатыры чвэрці») за кароткі час знайшла свайго зацікаўленага чытача. Прычына ў тым, што ў серыі, як правіла, прадстаўляюцца тыя, хто ўжо мае літаратурнае імя. Да іх належыць і знаны паэт, празаік, публіцыст Віктар Шніп, кніга якога «Тутэйшая туга» стала ў ёй чарговым папаўненнем. Нагадаю: яго дэбютны зборнік вершаў «Гронка святла» ў 1987 годзе ўганараваны Усесаюзнай прэміяй імя Уладзіміра Маякоўскага. За кнігу «Балада камянёў» В. Шніп у 2007 годзе атрымаў Літаратурную прэмію «Залаты Купідон», а за кнігу «Страла кахання, любові крыж» — Спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).

«Тутэйшая туга» складаецца з паэтычных і празаічных твораў, а гэта пацвярджае адметнасць ягонай творчасці апошняга часу: з аднолькавай упэўненасцю ён выступае як у галіне паэзіі, так і прозы. Кніга арыгінальная па кампаноўцы. У ёй чатыры раздзелы: «Раніца», «Дзень», «Вечар», «Ноч». Расчытваецца гэта прыкладна так: са свежымі думкамі, што з'яўляюцца ранкам, пражыць дзень, каб вечарам над многім задумацца, а з надыходам ночы ўсё пераасэнсаваць, узважыць.

Дык зазірнём спачатку ў «Раніцу» паэта. Раздзел кнігі не такі і вялікі па аб'ёме, але важкі зместам. У ім змешчаны верлібры, прысвечаныя народным паэтам Беларусі Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Танку, а таксама беларускім мастакам. Па сутнасці, В. Шніп, прамаўляючы ўласныя думкі, выказвае запаветнае, блізкае кожнаму беларусу. Дакладныя словы знаходзіць паэт, каб коратка, але вычарпальна перадаць тое, што зрабіў той ці іншы са згаданых волатаў нацыянальнага духу дзеля Бацькаўшчыны. Адзін з такіх волатаў, як вядома, Купала. Колькі пра яго напісана і колькі яшчэ будзе напісана, але, несумненна, прамоўленае В. Шніпам («Ліпень Янкі Купалы») у любым выпадку не згубіцца сярод падобных твораў. Твор вельмі глыбокі і не можа не браць за душу. Акрамя таго, з яго вынікае само разуменне ролі генія ў гісторыі нацыі:

*купалаўскія ліпы*
*і купалаўскія творы*
*трымаюць неба над Вязынкай*
*і над Беларуссю*

Гэтаксама і верш «Лістапад Якуба Коласа» (як няцяжка заўважыць, і ў першым, і ў другім выпадку пунктам адліку бярэцца месяц, у якім нарадзіўся пясняр) пабудаваны так, што асабістае бачанне паэтам свайго героя супадае з бачаннем многіх чытачоў. Велічнасць Коласа спасцігае найперш сам паэт, які ўдала ўпісвае ў моўную тканіну верша рэаліі, што былі блізкія песняру, але, разам з тым, гэта робім і мы, як бы гледзячы на Коласаву постаць вачыма аўтара твора, за што нельга не заставацца яму ўдзячным:

*і ў кожным годзе будзе лістапад*
*і ў кожным лістападзе*
*будзе лістапад Якуба Коласа*
*які пачаўся ў засценку Акінчыцы*
*у разліве залатой лістоты*
*як у пялёстках беларускага сонца*
*якое жыве ў творах Якуба Коласа*
*дзе родны кут заўсёды мілы*
*і дзе рыбакова хата*
*на беразе Нёмана*
*як на краі свету*
*слухае песні-жальбы*
*адзінокіх зорак*
*якія падаючы ў золата лістоты*
*абуджаюць сонца*
*што заглядваючы і ў наша ваконца*
*і ў нашы сэрцы*
*асвятляе шлях у Беларусь*
*пра якую марыў Якуб Колас*

У кожнага знаўцы біяграфіі і творчасці Максіма Танка ён, як вядома, найперш асацыіруецца з Нараччу, таму не дзіўна, што верш Шніпа так і называецца — «Нарач Максіма Танка». Але, безумоўна, гэта і Нарач кожнага з нас, улюбёнага ў творчасць паэта, які заўсёды быў цесна звязаны з Радзімай. Гэтая повязь выйгрышна пададзена ў самым пачатку твора, дзе прасочваецца і знакамітае скарынаўскае пра прывязанасць усяго жывога да дарагіх мясцін. Дарэчы і зварот В. Шніпа да знакамітага паэта як роўнага сабе па ўзросту:

*у кропельках расы*
*дзе сонца начавала*
*ты бачыш нарачанскіх анёлаў*




*пра якіх ведаеш толькі ты*
*бо яны прыляцелі з тваіх вершаў*

Пазнаёміўшыся з паэтавай «Раніцай» (пасвойму адметнай атрымалася і вершаваная падборка «Год мастака ў Аляхновічах»), трапляеш у ягоны «Дзень», жанр якога я вызначыў бы як дзённік душы. Дзённік гэты пачынаецца 30 мая 2009 года, а апошні запіс пазначаны 30-м снежня 2012-га: «Год пачаўся з таго, што 15 лютага памерла мая мама. Закончыўся смерцю бацькі — 25 снежня. І цяпер два надмагільныя груды як два берагі, паміж якімі цячэ маё жыццё…» («Мой 2012 год»). Ёсць у кнізе запісы без назваў — кароткія, падзейна не насычаныя.

Як бы там ні было, а гэта сапраўды дзённік душы В. Шніпа. Я свядома не кажу «дзённік душы паэта», бо за рэдкім выключэннем (напрыклад, «Балада Анатоля Шніпа», напісаная праз два дні пасля смерці бацькі) гэта празаічныя запісы. Азначэнне «дзённік душы паэта» будзе няправільным, недакладным і па той прычыне, што некаторыя запісы нагадваюць навелы.

Так, у нататцы «Хлопчык і трактар» Віктар Шніп згадвае хлапчука, які некалі быў на два гады маладзейшы за яго. Той хацеў стаць трактарыстам, як ягоны бацька. І ўжо ўмеў заводзіць трактар, марыў пра той час, калі сам сядзе за руль. «І ў адзін з летніх дзён яго мара збылася: бацька пакінуў трактар каля хаты і некуды пайшоў з дому, і хлопчык, залезшы ў кабіну «Беларуса», паехаў. Спачатку памалу, а потым так, што аж пыл следам закурэўся і пабеглі, зрываючы галасы, сабакі. Выехаўшы за вёску, на павароце юны трактарыст выпусціў руль з рук, і трактар перакуліўся. Разбітым шклом кабіны хлопчыку адрэзала галаву. Яму было дванаццаць…»

А да запісу «Масцітыя паэты» і дадаць няма чаго. «Жанчына пенсійнага ўзросту ў Беларусь прыехала з Палтавы, каб наведаць магілу мужа, які пахаваны ў Маладзечне. Наведала і, вяртаючыся назад на Украіну, зайшла ў «Мастацкую літаратуру», каб прапанаваць да друку свае вершы. Чытаючы творы жанчыны, я пацікавіўся: «А вы іх паказвалі каму-небудзь ці не?» — «Я была ў Кіеве ў масцітых паэтаў. Яны мяне так раскрытыкавалі, што больш да іх нікалі не пайду!» — адказала жанчына і тут жа запыталася: «А вы масціты?» «Не. Не масціты!» — адказаў я. «А дзе тут у вас у Мінску ёсць масцітыя паэты?» — забіраючы свае творы, пацікавілася жанчына…»

Сустракаюцца сярод запісаў і афарыстычныя: «Ружы дорац тым, хто выходзіць з натоўпу наперад, але і камяні кідаюць у тых, хто наперадзе…», «Няма выхаду толькі з магілы…», «Крыкнуць хацелася — голас памёр…», «Чым раней сядзем, тым раней ляжам…» і г. д. Усё гэта сведчыць, што ці не кожны запіс В. Шніпа, перш чым з'явіцца ў нататніку, старанна абдумваўся. Але ўсё мусіць быць у меру. Арыгінальнічанне наўрад ці ідзе на карысць В. Шніпу, як аўтар «Чырвоных ліхтароў» ён ужо застаўся ў мінулым. А тут нечакана спатыкаюся аб такі запіс: «Няспешна чытаю Марыенгофа. Сілён, Сабака». Як кажуць, не са шніпаўскай «оперы». Ды ён, мабыць, прадбачыў адпаведную рэакцыю, таму з'явіліся ў яго выказванні: «"Самая найлепшая рэакцыя на крытыку — усміхнуцца і забыцца пра крытыку…" — не мной сказанае, але мной скарыстоўваемае…», «Хто баіцца крытыкі, той баіцца расці духоўна…»

Вельмі хораша кладуцца на душу занатоўкі пра бацькоў аўтара; у іх В. Шніп адкрыта дзеліцца перажываннямі, і гэта выклікае давер. Разумееш яго і тады, калі ён спрабуе жартаваць. Бо жаданне жартаваць з бацькоў, магчыма, часам і крыху рэзка, ідзе ад радасці, што, нягледзячы ні на што, яны ўсё яшчэ жывыя.

Тым часам і «Вечар» падыходзіць. Раздзел пад такой назвай аб'ядноўвае вершы з моцным філасофскім пачаткам і лірычныя творы. Часта гэтыя дзве плыні — філасофская і лірычная — не проста суседнічаюць, але і зліваюцца разам. Такіх вершаў у падборцы нямала, і напісаныя яны паэтам, які тонка адчувае слова і дасканала валодае ім, для якога музыка верша — гэта і музыка душы.

*Нябачны хтосьці іграе на раялі,*
*Ці сам раяль іграе, як жывы,*
*Каб вы, вясновая, не сумавалі,*
*Як у нябёсах мёртвых журавы,*
*Надоўга пакідаючы Айчыну,*
*Трывожна плачуць, плачуць і лятуць,*
*Як лісце пачарнелае рабіны*
*Ляціць, нібы ў нябёсы, у ваду.*
*Дзе хтосьці нябачны грае на раялі,*
*Што створаны з алоўкаў і даждджу,*
*І музыка плыве, нібыта хвалі,*
*І б'ецца, як аб бераг, аб душу…*

Паэтаў «Вечар» — гэта і вершы пра бацькоў, якіх ужо няма, але якіх ён паранейшаму ўспрымае жывымі; гэта і згадкі пра знаёмых, пра сяброў, якія адышлі ў нябыт, але якіх, зноў жа, ніколі не выкрасліш з памяці. А яшчэ творы пра каханне, якому падуладны ўсякі ўзрост. Тут В. Шніп таксама ўмее сказаць па-свойму:

*Вы мая адзінота зямная,*
*Вас адну я люблю, як турму.*
*У якой я з-за Вас паміраю,*
*Ды без Вас і на волі памру.*

*І не зменіцца ў Вас анічога,*
*І не спыніцца сонца і час.*
*Не любіце мяне нежывога,*
*Я ж жывы быў, як мёртвы, для вас…*

Між тым змяркаецца ўсё больш і больш, а гэта сведчанне таму, што набліжаецца ноч. «Ноч» — апошні раздзел кнігі «Тутэйшая туга». Адкрываеш яго першую старонку і… Арыгінальна, нічога не скажаш: яна пустая. А гэта — магчымасць засяродзіцца, паразважаць над прачытаным, а падчас разважанняў, несумненна, з'явіцца жаданне вярнуцца да некаторых твораў. Урэшце, «паэтава туга» (маю на ўвазе не назву кнігі, а той настрой, што адчуваецца ў некаторых творах) стане і тваёй тугою, і ты разам з ім задумаешся над тым, што яго хвалюе таксама. Глыбокі сэнс набывае верш «Мы», у якім ёсць радкі:

*Не маўчы! Гавары! Гавары!*
*Так лягчэй, так цяплей, так смялей.*
*Вецер студзеньскі — наш салавей —*
*Не дае нам дачасна заснуць.*
*Каб і мы не праспалі вясну,*
*Дзе растануць, як прывід, снягі,*
*Дзе на дрэвах лісцё, як сцягі,*
*Затрапеча, вітаючы нас.*

Пасля гэтага верша і ўвачавідкі ўспрымаеш шлях, ступіць на які запрашае В. Шніп: «Мы ідзём, мы ідзём і наш час // Журавінамі спее ў снягах // І чарнее крыжамі ў палях…» А журавіны з кіслінкаю, ды такія гаючыя. Сапраўды, ёсць над чым паразважаць, чытаючы «Тутэйшую тугу» В. Шніпа. Дый парадавацца, што выдавецтва «Чатыры чвэрці» дало жыццё такой цікавай кнізе.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Казачны дух тут лунае…




Кацярыну Хадасевіч-Лісавую добра ведае юны чытач нашай краіны. У апошнія гады ў бібліятэкі і кнігарні прыйшлі яе кнігі «Падарожжы ў Чароўны Лес», «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка», «Казкі Сіняй падушкі». Таксама творы К. Хадасевіч-Лісавой надрукаваны ў калектыўных зборніках «Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў», «Пакліч у госці сонца», «Залаты талер»…

Новая кніга аўтара — «Казкі сівой даўніны». Выйшла яна ў серыі «Вясёлы калейдаскоп», распачатай РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Тры творы паяднаны адной вокладкай — «Вадзіца з крыніцы», «Як з'явіліся самыя прыгожыя азёры», «Вілія». Асновай іх з'яўляюцца легенды, паданні даўніх стагоддзяў. А дапамагае іх данесці да сучасных хлопчыкаў і дзяўчынак мастак кнігі — Кірыл Задворны, слуцкі школьнік, вучань Слуцкай дзіцячай школы мастацтваў.

Кірыл пастараўся знайсці мастацкія рашэнні да ключавых, кампазіцыйна выйгрышных старонак казачных твораў. Фарбы зімовага малюнка, выразныя вочы старых і немаўлят пашыраюць прастору чытацкага ўяўлення. Здаецца, юны мастак вядзе нас за руку па сівых стагоддзях. І ўжо не здзіўляе тое, што крынічная вада радуе дзявочым смехам. Як і іншыя казачныя фантазіі.

К. Задворны арганічна спалучае ў сваіх маляўнічых сюжэтах самыя розныя колеры. Адчуваюцца традыцыі беларускай дзіцячай кніжнай графікі: згадваюцца малюнкі Сяргея Волкава, Наталлі Суставай, Мікалая Казлова, Аксаны Аракчэевай, Галіны Хінка-Янушкевіч… І ўсё ж Кірыл Задворны — творца арыгінальны. Ён ідзе сваім уласным шляхам, самастойна будуе казачныя палацы. Безумоўна, юнага мастака са Случчыны чакаюць новыя творчыя ўдачы.

**Алег ЗІРБУРЗАЛ**



Ілюстрацыя Кірыла Задворнага да кнігі Кацярыны Хадасевіч-Лісавай «Казкі сівой даўніны».

# Жыве наша песня на Беласточчыне

**На пачатку сакавіка ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку адбыўся заключны гала-канцэрт XXI Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-2014». Удзел узялі 26 калектываў і выканаўцаў — лаўрэатаў фэсту, які праводзіцца тут ужо 45 гадоў запар.**



*Танцавальная група Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча.*



*Любоў Гаўрылюк і Ала Каменская (Польшча).*

Канцэрт традыцыйна распачаўся прыгожай і вельмі шчырай песняй «Мой беластоцкі край» на словы вядомага паэтабеларуса А. Баршчэўскага з Польшчы. Народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі, які ўжо шмат гадоў з'яўляецца старшынёй журы фестывалю, неаднойчы заўважаў, што «беларускую песню немагчыма пераказаць, яе неабходна слухаць». І сапраўды, кожную хацелася слухаць і слухаць, а гучала іх шмат: аўтэнтычных і апрацаваных, народных і сучасных эстрадных. Разам з лірычнымі, абрадавымі і любоўнымі творамі слухачы пачулі і моцныя патрыятычныя песні.

Ужо 20 гадоў запар бяру ўдзел у рабоце журы фестывалю і кожны раз з радасцю сустракаюся са старэйшымі і знанымі на Падляшшы харамі: «Крыніца» і «Каласкі» з Беластока, «Рэха пушчы» і «Куранты» з Гайнаўкі, ансамблямі «Цаглінкі» з Ляўкова Старога і «Чыжавяне» з Чыжоў, «Арляне» з Орлі... Іх творчы ўзровень не зніжаецца, а рэпертуар узбагачаецца новымі творамі, паляпшаюцца акампанемент і сцэнічная культура.

Значную частку ўдзельнікаў фэсту складаюць маладыя выканаўцы — навучэнцы беларускіх ліцэяў, студэнты ВНУ. Штогод цікавых выканаўцаў прадстаўляюць Гайнаўскі і Бельск-Падляшскі ліцэі з беларускай мовай навучання. Прытоку новых удзельнікаў «дарослага» фестывалю вызначна спрыяе аналагічны фестываль беларускай песні для дзяцей і школьнікаў, які праводзіцца ўжо больш як 40 гадоў. Абодва фэсты ствараюць спрыяльныя ўмовы для пераемнасці традыцый беларускай песеннай творчасці ў Польшчы.

З кожным годам пашыраецца геаграфія фестывалю, з'яўляюцца новыя цікавыя калектывы ў гарадах і вёсках. Сапраўдным упрыгожаннем гала-канцэрта стала выступленне госця свята — Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча, які ва ўсім багацці прадставіў гледачам беларускія песні і танцы.

І калі ў фінале гала-канцэрта зала, дзе знаходзяцца прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, дзяржаўныя дзеячы, дыпламаты і святары, разам з удзельнікамі фестывалю падымаецца і спявае песню «Люблю наш край» (сапраўдны гімн фэсту), пераконваешся ў сіле эмацыянальнага ўзрушэння беларускай песні. Дзеля гэтага трэба яшчэ раз прыехаць у Беласток!

Падчас канцэрта падумалася: паказаць бы такі гала-канцэрт у Палацы Рэспублікі ў Мінску! Якая моцная была б падтрымка ўсім удзельнікам фестывалю на Беласточчыне! А яшчэ — узор любові да роднай мовы і песні, да гістарычнай радзімы.

У чым сакрэт моцы і даўгалецця фестывалю? Напэўна, перш за ўсё ў тым, што на Падляшшы ў Польшчы захаваліся не толькі аўтэнтычныя носьбіты беларускай песні, якія паспелі перадаць традыцыі новым маладым пакаленням, але і любоў тысяч этнічных беларусаў да яе шчырасці і мілагучнасці. Беларускія творцы маюць магчымасць пастаянна ўдзельнічаць у разнастайных мерапрыемствах і заўсёды цешацца цёплым прыёмам з боку мясцовай публікі.

Лепшыя калектывы запрашаюцца на фестывалі іншых нацыянальнасцей у Польшчы, на фестываль нацыянальных культур у Гродна, фэсты «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах і «Берагіня» ў Акцябрскім раёне. Важным маральным і творчым стымулам для аматарскіх калектываў з'яўляюцца традыцыйныя артыстычныя сустрэчы-фестывалі «Беласток — Гродна» і «Гродна — Беласток», якія праводзяцца па чарзе ў кожным з гарадоў.

У Польшчы ўжо амаль 60 гадоў плённа дзейнічае Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ), для якога падтрымка і папулярызацыя беларускай мовы і песні, як і ўсіх іншых беларускіх імпрэз, — важнейшы кірунак дзейнасці. Больш як 20 гадоў галоўным арганізатарам і душой фестываляў беларускай песні з'яўляецца яго нязменны старшыня Янка Сычэўскі. Добрую частку свайго жыцця прысвяціла дзейнасці на ніве беларускай культуры сакратар праўлення таварыства Валянціна Ласкевіч.

Яшчэ нядаўна лічылася, што ў Польшчы пражывае каля 400 тысяч беларусаў. Па выніках апошняга перапісу 2003 года толькі 48,5 тысячы чалавек пачуваюць сябе беларусамі. Асіміляцыя як вынік урбанізацыі і сусветнай глабалізацыі закранула і Беласточчыну, дзе спакон вякоў жылі беларусы. Але гэты працэс нівеліруецца, стрымліваецца актыўнай, плённай дзейнасцю БГКТ, іншых беларускіх грамадскіх аб'яднанняў.

Лічу, творчы патэнцыял беларусаў зa межжа можна было б шырока прэзентаваць і папулярызаваць на Беларускім тэлебачанні і радыё, у сродках масавай інфармацыі. Гэта яшчэ больш узбагаціла б нашу супольную беларускую культуру.

...Каб адчуць сваю беларускасць і гонар за родную краіну, трэба хаця б аднойчы пабываць на гэтым фестывалі. А песня гучыць на Падляшшы — пастаянна — падчас традыцыйных свят беларускай культуры ў Беластоку і Купалля ў Белавежы, свят нацыянальных культур у Мельніку над Бугам і Семятычах, вясельных бясед у Гайнаўцы, паветовых і гмінных абрадавых свят. Штогод толькі Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы праводзіцца 60 — 70 разнастайных культурных мерапрыемстваў. Без беларускай песні на Падляшшы ўжо немагчыма ўявіць ніводнае з іх.

**Тадэуш СТРУЖЭЦКІ**

INTERNATIONAL BAGPIPE ORGANISATION

# Дударская навука па-лонданску

**Другая міжнародная дударская канферэнцыя прайшла ў Лондане. Сёлета ў межах форуму гучалі дуды з Грэцыі, Шатландыі, Францыі, Маёркі і… Беларусі! Даклад, прысвечаны гісторыі беларускіх дуд і іх сучаснаму адраджэнню прачытаў музыка, даследчык, намеснік старшыні Студэнцкага этнаграфічнага таварыства Яўген Барышнікаў.**

— Узровень сёлетняй канферэнцыі быў такім жа высокім, як і ў мінулым годзе, — распавядае адзін з арганізатараў канферэнцыі, этнамузыколаг, магістр мастацтваў Касандра Балоса-Бардзін. — Думаю, што гэтым разам да нас завітала больш гасцей з-за мяжы — а гэта яшчэ адно пацвярджэнне значнасці імпрэз падобнага кшталту. Яны аб'ядноўваюць навукоўцаў і музыкаў з розных краін свету. Леташнюю канферэнцыю здымалі на відэа для тэлеканала *BBC*, а ў гэтым годзе да нас завітала Турэцкае нацыянальнае тэлебачанне. Спадзяюся, што праз некалькі гадоў і даследчыкі з Турцыі стануць удзельнікамі гэтага міжнароднага форуму. Я вельмі ўражаная рухам па адраджэнні дуды ў Беларусі. Прэзентацыя Яўгена Барышнікава паказала прысутным, што ў вашай краіне традыцыі набываюць новае жыццё. Трансфармуючыся ў сучасным свеце, яны захоўваюць і старажытныя рысы. Культура Беларусі не вельмі добра вядомая ў Заходняй Еўропе, і я рада, што канферэнцыя дала Яўгену магчымасць прадставіць адзін з яе бакоў розным даследчыкам і музыкам.

*Ці складана было беларусу фактычна ўпершыню распавядаць такой шырокай міжнароднай аўдыторыі пра адраджэнне нашай дударскай традыцыі? Чаму быў абраны менавіта такі падыход — аб'яднанне гісторыі і сучаснасці дударства Беларусі ў адным дакладзе?*

— Дагэтуль не было публікацый пра дуды Беларусі, даступнай англамоўнай, а значыць і ўсёй замежнай, аўдыторыі, — распавёў Яўген Барышнікаў. — Таму мне было важна хаця б у агульных рысах раскрыць тэму, запоўніць нашую «белую пляму» на дударскай карце свету. Галоўны акцэнт быў зроблены на «этнаграфічных» дудах. Што да адраджэння лакальных дудовых традыцый, то яно адбываецца па ўсёй Еўропе. У прыватнасці, *The Bagpipe Society*, адны з суарганізатараў канферэнцыі, маюць асаблівую цікаўнасць да папулярызацыі іншых дуд Брытаніі акрамя агульнавядомых шатландскіх. Таму я палічыў, што наш досвед можа быць цікавы і карысны, асабліва што датычыць працы з моладдзю і выкарыстання сучасных тэхналогій.

Рэакцыя ж была на дзіва стрыманай. Пытанняў не ўзнікла, і гэта мне падалося прыкметай адсутнасці інтарэсу. Аднак у перапынку шмат хто падыходзіў і дзякаваў за добры даклад: маўляў, усё вельмі ясна і зразумела, таму і не задавалі пытанняў. Балазе, падрыхтаваны багаты ілюстратыўны матэрыял: карты, фотаздымкі, запісы. Мэта — прэзэнтаваць нашыя дуды на годным узроўні. І вынікам я цалкам задаволены. Планеуецца, што тэкст дакладу будзе неўзабаве надрукаваны ў часопісе *Chanter*, які выдае *The Bagpipe Society*.

*І сапраўды, нельга не пагадзіцца з меркаваннем, што Беларусь для Захаду — хутчэй terra incognita, чым частка агульнаеўрапейскай культурнай прасторы. Таму цікава, як на нас рэагуюць замежныя даследчыкі культуры заходніх краін? Ці выклікаем мы цікавасць?*

— Тут не трэба мець ілюзій, — разважае Яўген. — Напрыклад, даклад пра дуды Беларусі быў у адным тэматычным блоку з дакладамі пра дуды Грэцыі і Маёркі. Гэткія ўскрайкі цывілізаванага еўрапейскага свету, экзотыка. Трэба прызнаць, што для жыхароў Заходняй Еўропы мы перыферыя, маргінэз. І ў той жа сітуацыі знаходзіцца большасць краін Усходняй Еўропы. Для грамадства Захаду мы гэткія прадстаўнікі таямнічага іншасвету. Мы прылятаем з ніадкуль, пра нас ніхто нічога не ведае, і таму можна рабіць што заўгодна, фарміраваць які заўгодна імідж. Што да культуры, Беларусь — практычна чысты аркуш паперы. А ў маляванні на чыстым аркушы ёсць вялікая свабода дзеянняў. Але і вялікая адказнасць.

Лондан — гэта Вавілон, плавільны кацёл, дзе варыцца, кіпіць агромністая колькасць моў і культур. Там вельмі лёгка згубіць уласную ідэнтычнасць, распусціцца, стаць «брытыш», як большасць імігрантаў. Нават у мяне было непрыемнае адчуванне, што абалонка маёй ідэнтычнасці выпрабоўваецца на цэльнасць і моц. Гэтай абалонкі не ўратуеш «касцюмам беларуса», апранутым на Купалле, не замацуеш штучнымі ін'екцыямі патрыятызму.

Брытанцы — імперцы, у іх музеях культурніцкія артэфакты з усяго свету. І гэта іншы ўзровень мыслення, планетарны маштаб. Мы можам шчасліва сядзець на сваім утульным нацыянальным хутары, ганарыцца архаічнай народнай культурай і 45 тамамі зборніка «Беларуская народная творчасць». Але калі выходзіць з гэтымі скарбамі на шырокі прастор, у адкрыты космас мульцікультурнага свету — што можам гэтаму свету прапанаваць, чым зацікавіць? І ў рэшце рэшт, ці не задыхнёмся мы ў гэтым космасе? Ці захаваем сваю ідэнтычнасць, адметнасць? Мы для іх не ўнікальныя, мы адна з многіх экзатычных культур планеты. І гэта трэба прызнаць як дадзенае, як умовы задачы. Толькі тады можна будзе гэтую задачу вырашыць.

*А можа, і не ўсё так сумна, і нават з пункту гледжання «імперскай» шматнацыянальнасці беларуская культура ўсё ж мае права на ўвагу і шанц зацікавіць міжнародную супольнасць?*

— Такія падзеі, як міжнародная дударская канферэнцыя, — пэўнага кшталту вароты да адкрыцця новых культур, — мяркуе Касандра Балоса-Бардзін. — Спадзяюся, беларускія музыкі атрымаюць больш магчымасцей выступаць на розных фестывалях па ўсёй Еўропе і распаўсюджваць ідэю значнасці мясцовай культуры. Адным са шляхоў распаўсюджання інфармацыі можа стаць інтэрнэт, а таксама пераклад некаторых важных матэрыялаў на англійскую мову. Спадзяюся, аднойчы будзе праведзена вольна падарожнічаць па свеце. Што, безумоўна, паспрые культурнаму абмену паміж рознымі краінамі.

*Дарэчы, беларускія даследчыкі цяпер робяць новы крок у справе знаёмства Еўропы з айчыннай культурай і гісторыяй. Гэтымі днямі ў Лонданскім універсітэцкім каледжы праходзіць навуковая канферэнцыя «Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі». Думаецца, гэты форум можа стаць новым крокам да адкрыцця і далейшага вывучэння нашай краіны.*

**Марына ВЕСЯЛУХА**



Прыкладна год таму падчас інтэрв'ю галоўны рэдактар расійскага часопіса паэзіі «Воздух» Дзмітрый Кузьмін параіў мне звярнуць увагу на самабытныя вершы аўтаркі са Смаргоні Тані Скарынкінай, якая ў той час жыла ў партугальскім Фару. І сапраўды, калі ў Мінску праз некаторы час выйшаў першы зборнік Тані — «Кніга для чытання ў памяшканнях і па-за памяшканнямі», стала зразумела, што чытач не мае права прайсці міма. Хаця б з прычыны самабытнасці, незвычайнасці паэтычнага голасу аўтаркі. Больш за тое, амаль адразу ўслед за першай кнігай Тані Скарынкінай выйшла і другая — «Партугальскія трохрадкоўі» (Нью-Ёрк: *Ailuros Publishing*, 2014). Неўзабаве адбыліся і прэзентацыі — спачатку ў Маскве, а потым — у Мінску. Сустрэча з чытачамі і калегамі ў беларускай сталіцы стала і для мяне добрай нагодай пазнаёміцца і пагутарыць з Таняй.

# Каб разумелі…

**— Раней вы пісалі вершы практычна толькі для сябе, змяшчаючы іх на сваёй старонцы ў *LiveJournal* і *Facebook*. Цяпер жа маеце аж дзве кнігі. Што адчуваеце ў сувязі з тым, што вашы вершы сустракаюцца з чытачом ужо загорнутымі ў кніжную вокладку?**

— Амаль нічога. Мне падаецца, я так доўга пісала і так шмат назбіралася вершаў, што яны нарэшце павінны былі выйсці. Я чакала гэтых кніг, прыдумала назву, і нават не адну. Выдатна, што яны выйшлі, але маюць зусім іншыя назвы, ды і самі выданні атрымаліся намнога лепшымі, чым я думала і спадзявалася.

**— Як прайшла прэзентацыя ў Маскве?**

— У аэрапорце мяне чакала Лена Сунцова, выдавец маёй нью-ёркскай кнігі. Таму магу сказаць, што Масква мяне сустрэла як родная. Адразу адчула сябе як дома, хоць дагэтуль у тым горадзе была толькі аднойчы. Мне вельмі спадабалася. На сустрэчы было многа знаёмых і сяброў. Я амаль не баялася. Усе ўсміхаліся, мне нават падарылі букет руж. Паэты падтрымлівалі. А потым мы елі бліны: якраз Масленіца! Мне было лёгка, хоць з мікрафонам выступала ўпершыню ў жыцці.

**— А ў Мінску адчуваеце сябе сваёй?**

— Пакуль што не надта. Горад значна змяніўся!

**— Вам важная рэакцыя чытача на вершы?**

— Інакш я не выкладвала б іх у «ЖЖ» і «Фэйсбуку». Канечне, мне патрэбна ведаць, што думаюць людзі пра мае творы. Так заўсёды бывае: пішаш для сябе, але потым усё ж паказваеш. Мне хочацца, каб людзям было весела. Выдатна, калі, чытаючы мае вершы, яны смяюцца. Нават калі творы бываюць трагічнымі, драматычнымі, хочацца, каб у іх чыталася нейкая іронія, каб людзям не было сумна. Але такой мэты не стаўлю адпачатку. Гэта ўжо пазней атрымліваецца. Увогуле дзіўна: пішаш для сябе, а потым хочаш, каб цябе разумелі. Жывеш сярод людзей, і хочацца, каб яны цябе любілі ці хаця б не білі (*смяецца*).

**— Можна сцвярджаць, што ваша публіка дзеліцца на дзве амаль варожыя групы: адданых прыхільнікаў і злосных праціўнікаў. Крыўдна, калі вершы, такія шчырыя, у чымсьці наіўныя, па-дзіцячы непасрэдныя, называюць штучнымі і мёртвымі?**

— Канечне, крыўдна. Калісьці я зарэгістравалася на адным папулярным паэтычным сайце, дзе вельмі хутка з'явілася некалькі надзвычай актыўных «каментатараў», якім не падабалася мая творчасць. Я сышла адтуль, не вытрымала такога стаўлення. Вельмі дзіўна, што і самі паэты настолькі не любяць паэтаў, якія пішуць па-іншаму, «парушаюць класічную традыцыю». Але ж месца хапае ўсім! Калі мне не падабаюцца чыесьці вершы, я нічога не кажу. Нават магу сказаць, што гэта добра. Але на мяне накідваюцца вельмі часта! Па шчырасці, нават не ведаю чаму. Калі выйшла першая кніга, таксама з'явілася шмат абвінавачванняў. Я не вінаватая. Кажуць, што «па блаце» надрукавалі, што дзядзька — Уладзімір Скарынкін — дапамог, а ён, па-мойму, нават не ведае, што ў мяне кніга выйшла. Не разумею, што рухае гэтымі людзьмі. Я нікога не хацела крыўдзіць, і мне такое стаўленне непрыемнае. Хачу добрага, а людзі злуюцца.

**— На вашых старонках у сацыяльных сетках можна не толькі пачытаць вершы, але і паглядзець на незвычайныя аўтарскія фотаздымкі — кампазіцыі з рэчаў, набытых на «барахолках» ці проста знойдзеных на сметніках. Мяне ж заўсёды цікавіла: куды потым трапляюць «героі» гэтых фотакарцін?**

— У асноўным я іх выкідваю. Яны ўсе старыя, абтрапаныя. А розных мёртвых птушачак, з-за якіх многія таксама на мяне нападаюць (не ведаю, чым яны не дагадзілі?), — хаваю. Нешта самае любімае застаецца дома.

**— Ці ёсць у планах выданне паэтычнай кнігі-альбома, куды ўвайшлі б вашы вершы і фотаздымкі?**

— Канечне, хацелася б. Але гэта вельмі дорага. У мяне ўжо назбіралася шмат фотаздымкаў, шмат новых вершаў. Хацелася б і выстаўку сваю зладзіць, і каляровы альбом выдаць, рабіць паштоўкі, постары. Мне вельмі прыемна, што на вокладках абедзвюх кніг — мае фотаздымкі, што выдаўцы пагадзіліся на такі крок.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**



*Маладзічок*

# Знайдзі азярынку!




У выдавецтве «Народная асвета» пабачыла свет новая кніга Міхася Даніленкі «Як дажджы памірыліся». Думаю, гэтае выданне стане добрым падарункам вучням і іх настаўнікам не толькі таму, што рыхтавалася да сустрэчы з чытачамі больш як… 25 гадоў. Кніга многім прыйдзецца да душы, бо ў ёй шмат святла, харАства, усё, пра што апавядаецца ў творах, прасякнута праменьчыкамі дабрыні і любові да людзей, да сваіх герояў.

Новая кніга Міхася Даніленкі стала выдатным сюрпрызам не толькі для яго сяброў — дзяцей, але і самога аўтара: незадоўга да выхаду яе ў свет Міхасю Пятровічу споўнілася 90 гадоў.

Як пазначана ў кароткай анатацыі да зборніка, у творах, якія сабраны тут, «распавядаецца пра жыццё сучасных хлопчыкаў і дзяўчынак, іх гульні і забавы, клопаты і перажыванні. У многіх гісторыях, апісаных аўтарам, юныя чытачы пазнаюць сябе, бо героі кнігі «Як дажджы памірыліся» жывуць не дзесьці далёка, а побач з імі». Што праўда, то праўда. І Цімка з Кірыкам, малыя садоўнікі, памагатыя дзеда Мірона, і кірпаносы Васілёк, які прыязджае ў вёску на канікулы, каб не толькі з вудай каля сажалкі пасядзець, а крынічку-азярынку выкапаць. І «васьмігадовы хлопчык з вяснушкамі на носе» Лёня Суржык, маленькі артыст, які вырашыў адкрыць у вёсцы… свой тэатр, каб пацешыць старых вяскоўцаў канцэртам, і винаходлівы будаўнік Максімка, які марыць стаць, як тата, кранаўшчыком… Амаль усе героі апавяданняў Міхася Даніленкі — не выдуманыя, узятыя з жыцця, маюць, як бачым, нават дакладныя адрасы, дзе з імі давялося сустракацца аўтару.

Калі Міхась Пятровіч выйшаў на пенсію, перабраўся на жыхарства ў вёску, на родную Лоеўшчыну. Там і «выглядзеў» іх, герояў сваіх новых твораў.

Ёсць яшчэ адна тэма, якая ўжо не адно дзесяцігоддзе хвалюе пісьменніка Міхася Даніленку, прымушае вяртацца ў мінулае — гераічнае і трагічнае, звязанае з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, з тымі нечуванымі выпрабаваннямі, што выпалі на долю яго раўеснікаў. Сам ён калісьці, цяжкапаранены і кантужаны ў баях пад Харкавам у маі 1942 года, трапіў у фашысцкі палон, быў вывезены на чужыну і загнаны працаваць на каменаломню. Знясіленаму ад голаду і канцлагерных пакут, яму ўдалося праз два гады ўцячы з палону і зноў вярнуцца ў войска, сустрэць перамогу на тэрыторыі Германіі. Водгуллем падзей вайны прасякнуты апавяданні «Косцік-сцяганосец», «Самыя дарагія падарункі», «Казкі пра зоркі».

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

*Прэзентацыя*

# Модныя і розныя

Цяпер модна шукаць гербы сваёй сям'і, роднага горада ці вёскі і даведвацца пра іх значэнні. А раптам твае продкі былі шляхціцамі, а ў герба малой радзімы найцікавейшая гісторыя? Гэта прэстыжна! Мабыць, менавіта таму сёння карыстаюцца надзвычайнай папулярнасцю гісторыка-геральдычныя даследаванні. Такія працы з'яўляюцца не надта часта. Для іх напісання трэба назбіраць столькі цікавай інфармацыі, схаванай гадамі і стагоддзямі!

Але ёсць людзі, якія прысвяцілі гэтай цяжкой і цікавай працы многія гады. Напрыклад, вядомы прафесар, доктар гістарычных навук, член Геральдычнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Сяргей Рассадзін. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася прэзентацыя яго кнігі «Галантны век» у гербах гарадоў Беларусі: гісторыка-геральдычнае даследаванне», што выйшла ў Выдавецкім доме «Беларуская навука». Гаворка ідзе пра апошнюю чвэрць XVIII стагоддзя. Менавіта ў гэты час было ўтворана каля паловы гістарычных гербаў беларускіх гарадоў. Дарэчы, Сяргею Яўгенавічу на збор матэрыялу для манаграфіі спатрэбілася каля 10 гадоў.

У кнізе — гісторыка-геральдычныя даследаванні гербаў беларускіх гарадоў, зацверджаных у канцы XVIII стагоддзя. Таму і цікавае гэтае выданне не толькі навукоўцам і гісторыкам, але і звычайным людзям, якія хочуць больш ведаць пра гісторыю свайго горада і роду.

— Скласці каталог і ўпрыгожыць яго выявамі гербаў цяжкасці не складае, але які ў гэтым сэнс? — кажа Сяргей Яўгенавіч. — Падобнага — колькі хочаш. Справа ў іншым — зразумець, што за гэтым шыфрам хаваецца, паглыбіцца ў яго сэнс.

Падчас мерапрыемства наведвальнікі мелі магчымасць пазнаёміцца і з выстаўкай «Герб як гістарычная




крыніца», падрыхтаванай супрацоўнікамі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі. Тут можна было ўбачыць дакументы другой чвэрці XVIII — XXI стагоддзя, прысвечаныя гербам і геральдыцы.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Кузьмин, С. В.** Строим дом: с образцами и стихами: [для дошкольного возраста / стихи Сергея Кузьмина; художник Владимир Пустовалов]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 10030 экз. — ISBN 978-985-17-0675-0.

**Кузьмин, С. В.** Что растет в лесу: с образцами и стихами: [для дошкольного возраста / стихи Сергея Кузьмина; художник Владимир Пустовалов]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 10030 экз. — ISBN 978-985-17-0669-9.

**Кузьмин, С. В.** Чудеса на ножках: с образцами и стихами: раскраска-малютка: [для дошкольного возраста / стихи Сергея Кузьмина; художник Владимир Пустовалов]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 10030 экз. — ISBN 978-985-17-0668-2.

**Беларуская літаратура**

**Багдановіч, Л.** Зорны кошык: зборнік вершаў / Лёля Багдановіч. — Мінск: Беларуская асацыяцыя «Конкурс», 2013. — 191 с. — 9200 экз. — ISBN 978-985-557-038-8 (у пер.).

**Гапееў, В. М.** Сонечная паляна: [казка / Валеры Гапееў; мастак Марыя Міцкевіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 66 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1468-3 (у пер.).



***Галіноўская, Н. В.* *Леў смяецца: вершы: [для дашкольнага ўзросту] / Ніна Галіноўская; [мастак Марыя Станкевіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 17 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1384-6.***

*Усім вядома, што выхад добрай дзіцячай кнігі — радасць не толькі для маленькіх чытачоў, але і для іх бацькоў. Думаецца, чарговае выданне серыі «Нашым дзеткам» прыйдзецца даспадобы ўсім. Добрая папера, выдатныя малюнкі, лаканічныя запамінальныя тэксты — усе гэтыя крытэрыі можна, безумоўна, згадаць у дачыненні да гэтай кнігі. Яшчэ больш прывабным выданне робіць яго змест. Каго дзеці любяць амаль так жа моцна, як і бацькоў, бабуль-дзядуль? Правільна, жывёл. І менавіта жывёлы становяцца галоўнымі героямі добрых і шчырых вершаў таленавітай Ніны Галіноўскай.*

**Кажура, В. В.** Гэта ўсё – Радзіма наша: зборнік вершаў / Віктар Кажура, Бажэна Мацюк. — Мінск: Беларуская асацыяцыя «Конкурс», 2013. — 135 с. — 6500 экз. — ISBN 978-985-557-036-4 (у пер.).

**Маскевіч, М. С.** Казкі нашага двара: вершы, загадкі, весялінкі / Мікола Маскевіч. — Мінск: Белпринт, 2013. — 59 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-459-287-9.

**Чорны, К.** Пошукі будучыні: раманы: [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту] / Кузьма Чорны. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 404 с. — 20020 экз. — ISBN 978-985-02-1469-0 (у пер.).

**Тэорыя літаратуры**

**Бесперстых, А. П.** Афоризмы о литературе и творчестве: словарь: мудрые мысли, литературные цитаты, высказывания, советы авторам / А. П. Бесперстых. — Новополоцк: ПГУ, 2013. — 170 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-531-390-9.

**Juventus in litteratura**: материалы II Межвузовской конференции «Актуальные проблемы изучения зарубежной литературы», материалы 70-й научной конференции студентов и аспирантов БГУ: (Минск, 24 апреля 2013 г.) / [редколлегия: А. М. Бутырчик и др.]. — Минск: РИВШ, 2013. — 167 с. — Часть текста на белорусском языке. — 55 экз. — ISBN 978-985-500-672-6.

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Зайцев, О. Н.** Авторский знак: книга о писателях и писательстве: [сборник статей по критике и литературоведению] / Олег Зайцев & Co. — Минск: Литературный свет, 2013. — 215 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6943-20-4.

**Беларуская літаратура**

**Варапаева, В. С.** Літаратурнае чытанне: вучэбны дапаможнік для 5-га класа спецыяльных агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання: у 2 ч. / В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава. — Мінск: Народная асвета, 2013. — ISBN 978-985-03-2034-6 (у пер.).

Ч. 2. — 2013. — 133 с. — 953 экз. — ISBN 978-985-03-2032-2.

**Варапаева, В. С.** Літаратурнае чытанне: падручнік для 3-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2013. — 110 с. — 108000 экз. — ISBN 978-985-559-269-4 (у пер.).

**Лепшыя сачыненні па беларускай літаратуры**: 5–11-я класы / [складальнік Л. У. Амельяновіч]. — Мінск: ЮниПресс-Маркет, 2013. — 285 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-560-556-1.

**Рагуля, А. У.** Зерне характа: культурфіласофскія нататкі / Аляксей Рагуля. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013. — 270 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-7025-14-5.

**Тэксты**: літаратурна-мастацкі праект / галоўны рэдактар: Зміцер Вішнёў. — Мінск, 2004–

№ 4: альманах. — 2013. — 333 с. — Змяшчае аўтараў: Алейнік Л., Барташ Г., Вішнёў З., Джэці (Вера Бурлак), Дуброўская М., Жыбуль В., Жыбуль К., Кавалёў С., Лернова А. (Ірына Пушкіна), Мартысевіч М. (Maryia Martysevich), Пацюпа Ю., Сін І., Сыс С., Харужка А., Шаўлякова І. (Шаўлякова-Барзенка), Шчасная К., Der Skeptiker (Зміцер Серабракоў). — Змяшчае пераклады аўтараў: Жадан С., Капусцінскі Р., Месяц В., Рынк М. — Змяшчае перакладчыкаў: Блоцкая І., Вішнёў З., Герасімовіч І., Салейчук Я. — 400 экз.

**Геаграфія. Біяграфіі. Гісторыя**

**Краязнаўства**

**Дятловский район**. — Гродно: Гродненская типография, 2013. — 25 с. — 1000 экз.

**Край мой Глубокский** / [фото: А. В. Адеджи и др.]. — Минск: Звязда, 2013. — 23 с. — Фото также: Бегункова М. Н., Дрибас А. П., Дробов К. Л., Косевич И. И., Хоревич В. В. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7059-71-3.

**Геаграфія. Падарожжы**

**Централизованное тестирование. География**: сборник тестов, [предложенных абитуриентам в 2013 г.] / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2013. — 32 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0806-2.

**Гістарычная навука. Гістарыяграфія**

**Белорусский государственный архив кинофотофонодокументов**: справочник / Белорусский государственный архив кинофотофонодокументов. — 2002– . — ISBN 985-6541-20-4. — ISBN 978-985-6541-20-2 (в пер.).

Ч. 2: Фонодокументы / [автор предисловия, составитель: П. В. Жумарь; редколлегия: Е. М. Гриневич (ответственный редактор) и др.]. — Минск: Проф-Пресс, 2013. — 559 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-90255-8-7.

**Гісторыя зарубежных краін**

**Бібо, І.** Пра гаротнасць малых усходнееўрапейскіх дзяржаваў / Іштван Бібо; [навуковы рэдактар, аўтар прадмовы і каментароў Анатоль Сідарэвіч; пераклад з венгерскай А. Храпавіцкага]. — Мінск: Экономпресс, 2012. — 107 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7051-08-3 (у пер.).

**Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым**

**Савва, В. И.** Московские цари и византийские василевсы / В. И. Савва. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 446 с. — Издано при участии Международного благотворительного фонда «Семья – единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район), ООО «Спутник Христианина» (Москва) и ООО «Харвест» (Минск). — Библиографические ссылки в подстрочных примечаниях. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-630-2 (в пер.).

**Гісторыя Беларусі**

**Глушакова, Н. А.** Гісторыя Беларусі ў таблiцах і схемах: матэрыялы для самастойнай працы для студэнтаў усіх факультэтаў / Н. А. Глушакова; Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, Галоўнае ўпраўленне адукацыі, навукі і кадраў, Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія, Кафедра гісторыі і культуралогіі. — Горкі: БДСГА, 2013. — 133 с. — 75 экз.

**Деружинский, В. В.** Мифы о Беларуси / Вадим Деружинский; под общей редакцией А. Е. Тараса. — Минск: Харвест, 2013. — 329 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-2160-6 (в пер.).

**Кісялёў, Г. В.** Смак Беларушчыны: [гістарычныя нарысы] / Генадзь Кісялёў; [укладанне: Лія Кісялёва; прадмова: Уладзімір Арлоў]. — Мінск: Лімарыус, 2013. — 496 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6968-31-3.

**Лаппо, И. И.** Люблинская уния 1569 г. / Иван Лаппо. — Минск: Харвест, 2013. — 223 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-2141-5 (в пер.). — ISBN 978-985-985-18-2141-5 (ошибоч.).

**Незабытые имена**: [списки погибших в годы Великой Отечественной войны на территории Белоруссии воинов, призванных из Казахской ССР, а также воспоминания родственников погибших и участников тех событий] / Посольство Республики Казахстан в Республике Беларусь; [под редакцией А. В. Смирнова, А. М. Киикова; научный редактор Э. Ж. Киикова]. — Минск: Редакция журнала «Служба спасения 01», 2011. — 444 с. — 514 экз. — ISBN 978-985-90052-5-1 (в пер.).

**Панов, С. В.** История Беларуси: вторая половина XIII – первая половина XVI в.: 7-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [приложение к учебному пособию «История Беларуси: вторая половина XIII – первая половина XVI в.» для 7-го класса (под редакцией Ю. Н. Бохана)] / С. В. Панов. — 4-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 112 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-19-0902-1.

**Сурмач, Г.** Беларусь без межаў / Ганна Сурмач. — Мінск: Лімарыус, 2013. — 681 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6968-30-6 (у пер.).

**Это наша с тобой биография...**: Несвижский район. История в воспоминаниях современников / Несвижский районный исполнительный комитет; [составитель М. М. Мацель]. — Несвиж: Несвижская укрупненная типография, 2013. — 390 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-6796-93-0 (в пер.).

**Ясько, А. Ф.** Больно даже мертвым: полесская трагедия [времен Великой Отечественной войны] / А. Ф. Ясько. — Минск: Бонем, 2012. — 399 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6630-68-5 (в пер.).



***Мандельштам, Н. Я. Мой муж — Осип Мандельштам / Надежда Мандельштам. — Москва: АСТ, 2013. — 479 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078559-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2148-4 (Харвест) (в пер.).***

*Кажуць, што мемуарыстыка — адна з самых праўдзівых крыніц гістарычных ведаў, сведчанне эпохі, партрэт важнай асобы. Вось і гэтая кніга сёння ўспрымаецца не проста як успаміны жонкі пра мужа, вядомага паэта, але і як адна з самых падрабязных крыніц біяграфічных звестак пра яго. Больш за тое, на Захадзе мемуары Надзеі Мандэльштам атрымалі вельмі шырокі рэзананс і сталі ўспрымацца шырэй — як апісанне часоў улады Сталіна ў СССР.*

**Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура**

**Анкета для девочек с наклейками**: [для среднего школьного возраста / художник Д. В. Киевец]. — Минск: Траско, 2013. — 32 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-561-093-0.

**Анкета для девочек с наклейками**: [для среднего школьного возраста / художник Д. В. Киевец]. — Минск: Траско, 2013. — 32 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-561-094-7.

**Волков, С. А.** Волшебный сундучок: герои славянской мифологии: [для чтения взрослыми детям] / С. А. Волков; [художник С. А. Волков]. — 3-е изд. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 63 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0691-8.

**Геращенко, А. Е.** Сыны Отечества. Батька Минай и Дядя Костя: [для среднего и старшего школьного возраста] / Андрей Геращенко. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 18 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0681-9.

**Геращенко, А. Е.** Сыны Отечества. Петр Машеров и Сидор Ковпак: [для среднего и старшего школьного возраста] / Андрей Геращенко. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 19 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-11-0680-2.

**Дайер, А.** Космос / Алан Дайер; [перевод с английского Степановой Л. В.]. — Москва: АСТ, 2013. — 64 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078802-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2121-7 (Харвест) (в пер.).

**Моя первая Библия**: [для младшего дошкольного возраста: для чтения родителями детям / оригинальный текст Рейчел Элиот; перевод с немецкого Марии Соколовой; иллюстрации Каролин Вильямс]. — Москва: АСТ, 2013. — 31 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-078428-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2082-1 (Харвест) (в пер.).

**Павлюков, С. Ю.** Формула безопасности / [С. Ю. Павлюков, Н. С. Окунь]; Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь. — Минск: КИИ, 2013. — 99 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7018-19-2.

**Трафимова, Г. В.** Вот так слюнки!: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Народная асвета, 2013. — 53 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2050-6.

**Трафимова, Г. В.** Ореховые истории: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2013. — 70 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2186-4.

**Трафимова, Г. В.** Растут ли на золотом дереве золотые яблоки: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Народная асвета, 2013. — 55 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2216-8.

**Цеханский, С. П.** Большая книга «Почему»: [для младшего и среднего школьного возраста] / С. П. Цеханский. — Москва: АСТ, 2013. — 238 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-079829-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-0814-0 (Харвест) (в пер.).

**Что за птицы кулики**: [для младшего школьного возраста / составитель Т. И. Жуковская]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 16 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0734-2.

**Чумакова, Д. В.** Увлекательное энергосбережение: [для среднего школьного возраста] / Д. В. Чумакова. — Минск: Беларусь, 2013. — 46 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-01-1044-2.

**Этнаграфія. Фальклор**

**Дзе Байна сустракаецца з Эсай**: народная проза Лепельшчыны / [складальнік: Тухта Валерый Уладзіміравіч]. — Мінск: Медисонт, 2013. — 63 с. — 62. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-93-7.

**Традыцыйная мастацкая культура беларусаў**: у 6 т. — Мінск, 2001–2013. — 25 см.

Т. 6: Гомельскае Палессе і Падняпроўе: у 2 кн., кн. 2 / [А. М. Боганева і інш.; ідэя і агульнае рэдагаванне: Т. Б. Варфаламеева; фота: А. У. Белавусаў і інш.]. — Вышэйшая школа, 2013. — 1231 с. + 1 электронна-аптычны дыск (CD-ROM). — Аўтары таксама: Валодзіна Т. В., Козенка М. А., Лабачэўская В. А., Смірнова І. Ю. — Фота таксама: Боганева А. М., Валодзіна Т. В., Козенка М. А., Кухаронак Т. І., Лабачэўская В. А., Рудніцкая Г. Р., Смірнова І. Ю. — 800 экз. — ISBN 978-985-06-1562-6. — ISBN 978-985-06-2269-3 (кн. 2) (у пер.).

**Мастацкая літаратура на асобных мовах**

**Англійская літаратура**

**Джеймс, Ф. Д.** Комната убийств: [роман] / Ф. Д. Джеймс; [перевод с английского Л. Ткача]. — Москва: АСТ, 2013. — 430 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079022-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2277-1 (Харвест) (в пер.).

**Смит, У.** Власть меча: [роман] / Уилбур Смит; [перевод с английского Д. Арсеньева]. — Москва: АСТ, 2013. — 794 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079508-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2298-6 (Харвест) (в пер.).



***Трафимова, Г. В. Где живут драконы: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Народная асвета, 2013. — 61 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2194-9.***

*Неабазнаны чытач лічыць, што цмокі — міфічныя істоты, якіх у прыродзе не існуе. Яны жывуць у казках, легендах, зрэдчас з'яўляюцца ў мульціках і кіно. Але Дзядуля Прыродазнаўца ведае пра жывёл усё і з задавальненнем дзеліцца сваімі адкрыццямі з маленькімі даследчыкамі прыроды. У серыі сваіх чарговых расповедаў ён знаёміць нас з цмокамі, якіх і сёння можна сустрэць на сушы, у вадзе, пад зямлёй і ў паветры. Як заўсёды, дзетак у гэтай кнізе чакаюць цікавыя заданні і навучальныя гульні для праверкі ўважлівасці і кемлівасці.*

**Літаратура ЗША на англійскай мове**

**Браун, Д.** Ангелы и демоны = Angels & demons: [роман] / Дэн Браун; [перевод с английского Г. Б. Косова]. — Москва: АСТ, 2013. — 639 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-080851-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2338-9 (Харвест) (в пер.).

**Браун, Д.** Инферно = Inferno: [роман] / Дэн Браун; [перевод с английского В. О. Бабкова, В. П. Голышева и Л. Ю. Мотылева]. — Москва: АСТ, 2013. — 543 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 150000 экз. (1-й з-д 100 тысяч). — ISBN 978-5-17-079349-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2318-1 (Харвест) (в пер.).

**Браун, Д.** Код да Винчи = The Da Vinci code: [роман] / Дэн Браун; [перевод с английского: Н. В. Рейн]. — Москва: АСТ, 2013. — 542 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-080852-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2313-6 (Харвест) (в пер.).

**Брэдбери, Р.** 451 градус по Фаренгейту = Fahrenheit 451: роман-комикс / Рэй Брэдбери; адаптация и предисловие автора; [перевод с английского С. Долотовской]; иллюстрации Тима Гамильтона. — Москва: АСТ, 2013. — 156 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080856-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2245-0 (Харвест).

**Дьюран, М.** Любовь и честь: [роман] / Мередит Дьюран; [перевод с английского Е. В. Моисеевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079444-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2360-0 (Харвест) (в пер.).

**Томас, Ш.** Любовь против правил: роман / Шерри Томас; [перевод с английского А. И. Вальтер]. — Москва: АСТ, 2013. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079322-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2343-3 (Харвест) (в пер.).

**Уэтерли, Л. А.** Сияние ангела: [роман] / Л. А. Уэтерли; [перевод на русский язык: А. Шапошников]. — Москва: АСТ, 2013. — 509 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078823-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2288-7 (Харвест) (в пер.).

**Хеймор, Д.** Греховный намек: роман / Дженнифер Хеймор; [перевод с английского Т. А. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080544-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2364-8 (Харвест) (в пер.).

**Італьянская літаратура**

**Данте Алигьери.** Божественная комедия / Данте Алигьери; [перевод с итальянского и комментарии Д. Минаева]. — Москва: АСТ, 2013. — 858 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077960-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2308-2 (Харвест) (в пер.).

**Бразільская літаратура на партугальскай мове**

**Коэльо, П.** Одиннадцать минут: [роман] / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ, 2013. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск).— 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077678-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2299-3 (Харвест) (в пер.).

**Руская літаратура**

**Акунин, Б.** Алтын-толобас: [роман] / Борис Акунин. — Москва: АСТ, 2013. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079068-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2320-4 (Харвест) (в пер.).

**Башарова, Р.** Исповедь бандерши: 100 оттенков любви за деньги / Рената Башарова. — Москва: АСТ, 2013. — 314 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080074-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2307-5 (Харвест) (в пер.).

**Вильмонт, Е. Н.** Девственная селедка: [роман] / Екатерина Вильмонт. — Москва: АСТ, 2013. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080550-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2270-2 (Харвест) (в пер.).

**Вильмонт, Е. Н.** Плевать на все с гигантской секвойи: [сборник] / Екатерина Вильмонт. — Москва: АСТ, 2013. — 382 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080552-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2271-9 (Харвест) (в пер.).

**Вильмонт, Е. Н.** Шалый малый / Екатерина Вильмонт; [стихи Б. А. Абарова]. — Москва: АСТ, 2013. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077843-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2348-8 (Харвест).

**Вин, А.** Принцип крекера / Александр Вин. — Минск: Букмастер, 2014. — 287 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-532-2 (в пер.).

**Гоголь, Н. В.** Мертвые души: [поэма] / Николай Васильевич Гоголь. — Москва: АСТ, 2013. — 413 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-060471-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1552-0 (Харвест) (в пер.).

**Державольский, В.** Псарня. Первая кровь: [фантастический роман] / Виталий Держапольский. — Москва: АСТ, 2013. — 343 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-080197-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2326-6 (Харвест) (в пер.).

**Кивинов, А. В.** Зона личной безопасности. Идеальный охотник / Андрей Кивинов. — Москва: АСТ, 2013. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078452-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2230-6 (Харвест) (в пер.).

**Лаврентьев, А.** Зона вторжения. Байкал: [роман] / Александр Лаврентьев. — Москва: АСТ, 2013. — 406 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-079788-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2315-0 (Харвест) (в пер.).

**Латыпов, Н. Н.** Цитаты от Хеопса до Джобса / Нурали Латыпов, Анатолий Вассерман. — Москва: АСТ, 2013. — 223 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080915-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2342-6 (Харвест) (в пер.).

**Миркова, М.** Индиго: поэзия / Мирра Миркова. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 65 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-32-4.

**Немзер, А. А.** Плен: роман / Анна Немзер. — Москва: АСТ, 2013. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080848-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2287-0 (Харвест) (в пер.).

**Рикори.** Рубедо: стихи / Рикори. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 29 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-7062-42-3.

**Синицына, В.** Журналюга / Варвара Синицына. — Минск: Букмастер, 2013. — 285 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-547-6 (в пер.).

**Стругацкий, А. Н.** Пикник на обочине: [фантастический роман] / Аркадий и Борис Стругацкие. — Москва: АСТ, 2013. — 189 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-077375-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2272-6 (Харвест) (в пер.).

**Уралов, А. С.** Первый день вечности / Александр Уралов. — Минск: Букмастер, 2014. — 251 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-746-3 (в пер.).

**Шешкаускас, М.** Император последнего дня: [фантастический роман] / Максим Шешкаускас; [иллюстрации: Марина Акинина]. — Москва: АСТ, 2013. — 349 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079801-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2321-1 (Харвест) (в пер.).

**Шилова, Ю. В.** В душе февраль, или Мне нечего терять, кроме счастливого случая: [роман] / Юлия Шилова. — Москва: АСТ, 2013. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. (1-й з-д 3 тысячи). — ISBN 978-5-17-081134-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2381-5 (Харвест) (в пер.).

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Воронин, А. Н.** Слепой. Операция «Атлантический циклон»: [роман] / Андрей Воронин. — Москва: АСТ, 2013. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-080677-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2306-8 (Харвест) (в пер.).

**Ильев, И.** Под мостом без сна: [поэзия] / Игорь Ильев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 97 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-41-6 (в пер.).

**Лебедев, С. А.** Перед тайной мирозданья: лирическая и духовная поэзия / Сергей Лебедев. — Минск: Ковчег, 2013. — 223 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7055-68-5 (в пер.).

**Светлая даль**: сборник произведений писателей Беларуси и Таджикистана / [составитель Алесь Бадак ; предисловие Алеся Карлюкевича; редакционный совет: А. Н. Карлюкевич (председатель) и др.]. — Минск: Звязда, 2013. — 254 с. — Содержит авторов: Акобир Д., Атои З., Бахти М., Башлаков М., Гаврилович В., Зарецкая Ю., Каноат М., Келди Г., Киселев Г., Косим Н., Малаховский Р., Мирзо К., Мубориз Р., Мушинская Т., Насрулло К., Панченко П., Прохор М., Самадов А., Сафи Г., Скоринкин А., Суруш М., Сухоян С., Фарзона, Хаким А., Хакимова М., Хамдам А., Чигрин Л., Чигринов И., Шерали Л. — Содержит переводчиков: Аврутин А., Гаджиева А. Х., Зарецкая Ю., Зуев В., Казакова Р., Карнеев С., Кислик Н., Козловский Я., Котляров И., Куняев С., Липкин С., Мушинская Т., Парфентьев В., Петрова Е., Раббимдухт Н., Рабимдухт Н., Смертина Т., Солоухин В., Сухоян С., Фофанова М., Хайдаров М., Ховари С. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-77-5 (в пер.).

**Святая любовь**: сборник произведений писателей Беларуси и Туркменистана / [составитель Алесь Бадак; предисловие Алеся Карлюкевича; редакционный совет: А. Н. Карлюкевич (председатель) и др.]. — Минск: Звязда, 2013. — 254 с. ; 21 см. — (Созвучие сердец. Беларусь – Туркменистан). — Содержит циклы: Сердце, полное света ; Над Белой Русью белые снега. — Содержит авторов: Алланазаров А., Аннаев О., Атабаев А., Буркин О., Глушаков В., Дашгынов Г., Диванкулыев Х., Дуктов В., Каренда И., Кебич Л., Костюченко Н., Крейдич А., Кряжева С., Кулыев К., Леванович Л., Оразгулыев Г., Ораздурдыева Б., Нурбадов К., Оде О., Поликанина В., Фатнев Ю., Чергинец Н., Шабович М. — Содержит переводчиков: Андреева Е., Дуктов В., Иодковский Э., Казанцев В., Киселев Г., Крейдич А., Кузнецов Ю., Леванович Л., Матвеева Н., Оразкулыева О., Савельев И., Спринчан Б., Столбунова И., Тявловский А., Чернова Н., Шабович М., Шипахина Л., Шленский В., Щасная Л., Щуплов А. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-76-8 (в пер.).

**Теплый, А.** Сторона моей души и тела: стихи / Антон Теплый. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 147 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-34-8.

**Тихонова, А. А.** Мало меду: стихотворения / Анна Тихонова. — Минск: Книгосбор, 2013. — 31 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7057-84-9.

**Чергинец, Н. И.** Операция «Кровь»: роман / Николай Чергинец. — Минск: Мастацкая літаратура, 2013. — 325 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1495-9 (в пер.).

**Украінская літаратура**

**Алганова, Н. А.** Лабиринт длиною в жизнь: автобиографическая повесть / Нина Алганова. — Минск: ЖИЗНЬ; Смоленск: ЖИЗНЬ, 2013. — 150 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6922-06-3 (ЖИЗНЬ). — ISBN 978-5-905061-08-0 (ЖИЗНЬ).

# Прыцягненне жахлівага

Многія аматары чытання ў ліку сваіх любімых жанраў літаратуры абавязкова згадаюць раманы жахаў, трылеры ці містыку. Дзіўна, але менавіта страх здольны цалкам захапіць увагу, выцесніць са свядомасці ўсе жаданні, пакінуўшы толькі імкненне хутчэй перагортваць старонкі… Больш за тое, страх так проста не знікае, ён можа пасяліцца побач і час ад часу нагадваць пра сябе. Я не памятаю першую казку, якую прачытала сама, не памятаю, які раман трапіў да мяне ў рукі першым, але першую страшную кніжку памятаю дакладна. І хутчэй не сюжэт, а тое, чаго я баялася, перагарнуўшы ўжо апошнюю старонку. Раптам такое магчыма ў жыцці? А можа, у гэтым сакрэт папулярнасці містыкі і жахаў: пачуццё страху знаёмае кожнаму, яно добра запамінаецца, асабліва калі гэта моцны страх? Першы прачытаны раман жахаў — як першы пацалунак. Аднойчы і назаўсёды. Дзве новыя кнігі, што пабачылі свет пры падтрымцы ТАА «Харвест», — менавіта з такой кагорты. Яны абсалютна розныя, але, як кажуць, б'юць проста ў яблычак, не пакідаючы раўнадушнымі нават самых бывалых чытачоў. А як жа па-іншаму? Звярніце ўвагу: у вас у руках «ЛіМ» № 13.



## КРЫВАВАЯ КЭРЫ

Здавалася б, варта ў цэнтр сюжэта кнігі паставіць вобраз крыві, фактычна «заліць» крывёю ўсё і ўсіх — і справа амаль у капелюшы. Дзяўчаты пішчаць, хлопцы радуюцца. Але не ўсё так проста, асабліва калі гаворка ідзе пра раман сапраўднага караля жахаў **Стывена Кінга**. Тут у справу ўступае цяжкая артылерыя, і перамяжоўваецца некалькі ўзроўняў жахлівага. Да проста крывавасці дадаецца цкаванне падлетка ў школе (ці не жах?), рэлігійны фанатызм маці, яе жаданне забіць у дачцэ любыя праявы жаноцкасці і індывідуальнасці. Прысутнічае імкненне адпомсціць, падмацаванае паранармальнымі здольнасцямі. Больш за тое, сам твор падаецца ў форме газетнай ці часопіснай публікацыі (дакументальная аснова), якая толькі перарываецца ўстаўкамі-ўспамінамі (мастацкая частка). Натуральна, гаворка ідзе пра адзін твор — раман **«Кэры»**. Пры гэтым усе згаданыя кампаненты падабраны ў такой выйгрышнай камбінацыі, што падаецца: аўтар ледзь не з лінейкай ці вагамі вымяраў, вылічваў правільную колькасць кожнага з іх.

Але гэта сапраўды так! Справа ў тым, што свае падрабязныя ўспаміны пра напісанне рамана «Кэры» Кінг выклаў у дапаможніку «Як пісаць кнігі». А хіба можна чамусьці навучыць, абапіраючыся на кепскі прыклад? Вядома ж, што заўвагі кшталту «не рабі так» звычайна спрацоўваюць наадварот. А вось правільны прыклад, у дадзеным выпадку правільна напісаная кніга, стане выдатным практычным дапаможнікам для маладога пісьменніка.




Нягледзячы на тое, што гэта чацвёртая кніга Кінга, яна стала першым творам пісьменніка, ператвораным з рукапісу ў апублікаваную кнігу. Больш за тое, на пачатку працы над гэтым творам Кінг мусіў напісаць апавяданне па заказе «Кавалера», папулярнага часопіса для мужчын. Першыя старонкі рукапісу былі гатовыя, але не спадабаліся пісьменніку, і ён выкінуў іх у сметніцу. Зусім выпадкова жонка Кінга «выратавала» пачатак будучай знакавай кнігі і пераканала мужа ў неабходнасці працягу. Кажуць, што пасля выхаду менавіта гэтага рамана з друку Кінг прачнуўся знакамітым. Тое ж можна сказаць і пра яго гераіню Кэры. Яна і сёння прываблівае ўвагу чытачоў і гледачоў. Сюжэт рамана тройчы ўвасабляўся ў фільмах, аднойчы станавіўся мюзіклам. Існуе нават працяг — фільм «Кэры-2: Ярасць».

## ГІСТОРЫІ… ПРА НАС

Думаецца, ніхто не будзе спрачацца з тым, што кнігі Кінга страшныя. Але гэта, так бы мовіць, страх на адлегласці. Падзеі адбываюцца недзе далёка ў Амерыцы, у незнаёмых нам гарадах, нязвыклых дамах і закінутых атэлях. Усё не пра нас. У нас усё па-іншаму. Дамы не тыя, закінутых атэляў не знойдзеш, ды і імёны герояў нейкія чужыя. Таму можна спакойна сядзець пад цёплай коўдрай, папіваць гарбатку і чытаць кнігу за кнігай. А потым гэтак жа спакойна выключаць святло, класціся спаць і адразу ж засынаць, нават не згадваючы гаротных кінгаўскіх герояў-пужалак. Монстры-лангальеры ці мерцвякі так далёка не паляцяць, не паплывуць праз акіян і там больш не будуць шукаць на карце Беларусь, Мінск ці нейкую вёску.

А цяпер уявіце, што са старонак страшнай кніжкі на вас глядзяць не чужыя героі і монстры, а свае. Што яе падзеі адбываюцца на суседняй вуліцы, у доме праз дарогу, на вашым паверсе ці проста ў кватэры за сцяной. Што ў героях вы лёгка пазнаяце свайго калегу, аднакласніка ці далёкага сваяка, а ў сюжэтах — расповеды, якія перасказваюцца як плёткі-небыліцы, аднак вы амаль верыце ў іх праўдзівасць, бо і самі (ці ваш сваяк, знаёмы) калісьці перажывалі амаль тое ж. Страшна? Так! І гэтую кніжку так проста не адкладзеш. А ўночы задумаешся: «Можа, сёння паспаць з уключаным святлом?» У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра зборнік апавяданняў **Мар'яны Раманавай «Страшныя гісторыі. Гарадскія і вясковыя»**.

Падчас чытання становіцца сапраўды вусцішна, а сюжэты і вобразы яшчэ цягам некалькіх тыдняў усплываюць у свядомасці. Не трэба казаць, што гэта адбываецца ўночы, асабліва тады, калі застаешся адзін у кватэры. У гэтай кнізе жывуць вампіры і пярэваратні (не заходнія, гламурныя, а нашы, апісаныя рускімі і беларускімі фалькларыстамі), тут водзяцца Лярвы і ажываюць мерцвякі, а кветка з магілак ці вянок з пёраў вароны могуць стаць прычынай вар'яцтва і хуткай смерці. У кватэрах жывуць прывіды забітых ці даўно памерлых бабуль, тут мерцвякі могуць тэлефанаваць сваім блізкім, а таямнічая сляпая вядзьмарка за пэўную плату прываражыць любога ка-




валера. Мёртвы муж, пакліканы жонкай у дзень гадавіны, можа выйсці з магілы, а тапелец, чый пакой патрывожылі, здольны забіць маланкай некалькі чалавек. Страшна? Канечне! Таму, каб не расчараваць аматараў, не буду раскрываць усіх сакрэтаў.

Гэтая кніга адметная яшчэ і тым, што ад яе вельмі хочацца есці. Я не жартую. Ніколі не заўважалі такой асаблівасці: калі героі кнігі часта ядуць нейкую страву, то хочацца зараз жа, нават не адрываючыся ад чытання, з'есці менавіта яе? У мяне заўсёды так. Папакутаваць разам з героем і папіць гарбаткі з хлебам і сырам — калі ласка. Ці «пашыкаваць», намазаўшы хлеб маслам і дадаўшы кавалак вяндліны, — таксама прыемна за кампанію. Дык вось, героі амаль кожнага апавядання Раманавай смажаць то бліны, то аладкі, а потым са смакам іх ядуць. Магчыма, гэта пэўнага кшталту перасцярога ад аўтаркі: калі не баіцеся самых расповедаў, дык не чытайце кнігу ўночы, хаця б з-за спакусы пайсці на кухню смажыць аладкі.

Кніга «Страшныя гісторыі» — сярэдзіна своеасаблівай трылогіі Мар'яны Раманавай. Крыху раней пабачыла свет яе змрочная філасофская казка «Мёртвыя з Верхняга лога», а праз некаторы час чакаецца выхад наступнага выдання. Гэтым разам чытачы змогуць пазнаёміцца з адмысловай калекцыяй страшных маскоўскіх гісторый, якую Мар'яна збірала цягам некалькіх гадоў. Ужо можна чакаць і… баяцца.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Сколько стоит победа?

Британский историк Джеффри Робертс, крупнейший на Западе знаток Великой Отечественной войны, работал над биографией выдающегося советского




полководца Георгия Жукова 15 лет. В сознании автора за это время произошли настоящий переворот и серьёзная переоценка взглядов на историю. Книга «Георгий Жуков. Сталинский маршал» вышла в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест».

Джеффри Робертс объективно оценивает роль Жукова в советской победе над нацистской Германией, категорически отвергая все легенды, порождённые не только мемуарами маршала, но и мнениями его недоброжелателей, обвинявших полководца в предательстве Родины. Лишь в 1991 году, когда рухнул советский режим и открылись ранее засекреченные документы Великой Отечественной войны, стало возможным провести независимое и объективное исследование, добраться до личного архива Жукова, хранящегося в Российском государственном военном архиве. Четырнадцать глав биографии пролетают перед глазами, словно кинофильм, охватывая всё: детство, юность, военные успехи, политическую карьеру, отношения с семьёй, дружбу со Сталиным…

Книга позволяет проникнуть в самые сокровенные мысли, переживания Георгия Жукова, его борьбу с собственными слабостями. Так, маршал постоянно твердит себе, что нельзя унывать, ломаться, терять силу воли. В одной из глав биографии рассказывается о том, как он боролся с душевным надломом с помощью… сна на протяжении пятнадцати суток!

Значимость книги ещё и в том, что личность маршала раскрывается через его поступки. Ведь от приказов и решений этого человека зависели жизни миллионов людей.

Поначалу книга, по словам автора, должна была иметь критический характер, показывая маршала без «грима», со всеми недостатками и ошибками. Однако чем больше Джеффри Робертс работал над биографией, тем большей симпатией он проникался к Жукову. К критике примешались сопереживание и сочувствие. Достаточно одного факта: война почти не оставляла полководцу времени на общение с семьёй. В книге можно найти несколько посланий Георгия своей жене Александре. Сквозь строчки видно, что под военной формой командующего скрывался человек, тонко чувствующий, даже сентиментальный. «Здравствуй, Шурик. Шлю тебе привет и крепко тебя целую. Обними и крепко поцелуй Эрочку и Эллочку… Посылаю семечек. Делать вам всё равно нечего, хоть будете их грызть. Посылаю обратно тёплую кофточку, она очень кусачая и её носить совершенно невозможно, она колет, как колючая проволока… Я по-прежнему езжу по армиям… характер, видимо, такой, больше тянет в поле, к войскам, там я как рыба в воде. Здоровье неплохое. Плохо слышу. Надо бы опять полечить ухо, да вот пока не могу организовать… Желаю тебе и ребятам здоровья. Крепко, крепко всех вас целую», — писал маршал Жуков супруге 5 октября 1943 года. Правда, со временем тон его корреспонденций изменился, стал более сухим, лаконичным и сдержанным. Видимо, за ним тщательно следили служащие госбезопасности.

Книга также содержит любопытные карты со схемами военных операций, таких, как первая военно-стратегическая игра, план наступательной войны против Германии, операция «Барбаросса», битвы за Ленинград и Москву.

Читательский интерес вызовут фотографии Жукова, в числе которых — уникальный снимок времени подписания акта о безоговорочной капитуляции Германии в Берлине 8 мая 1945 года.

**Мария ВОЙТИК**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Выратаваць паэзію

Часам мне падаецца, што людзі з большай нецярплівасцю чакаюць вясны, чым лета. Увесь сімвалізм абуджэння, якім насычаная гэтая пара года, сапраўды гіпнатычна ўздзейнічае на свядомасць. Магчыма, менавіта таму вясна багатая не толькі на кветкі і сонца, але і на паэтычныя святы. Сусветны дзень пісьменніка, Сусветны дзень чытання ўслых, Сусветны дзень паэзіі, Міжнародны дзень дзіцячай кнігі, Сусветны дзень кніг і аўтарскага права…

Большасць кніжнікаў вельмі любіць праводзіць семінары на тэму «Як лепш прадаваць кнігу», але мне падаецца, што ўжо даўно прыйшоў час праводзіць лекцыі пра тое, як выратаваць паэзію. Тут ужо нават не стаіць пытанне, як яе прадаваць. Вершы трэба менавіта ратаваць, прасоўваць, папулярызаваць.

Што нам у гэтым выпадку прапануе асноўная інфармацыйна-маркетынгавая пляцоўка — інтэрнэт? Спачатку мяне ахапіў жах. На многіх рэсурсах маладым паэтам даецца практычна адна і тая ж парада: складайце рэкламныя слоганы, пішыце «оптам» вершаваныя тэксты для паштовак. Першы шок прайшоў, і паступова сталі трапляцца больш-менш карысныя парады: пішыце песні, стварыце свой сайт, удзельнічайце ў конкурсах. Не магла не парадаваць наяўнасць профільных інтэрнэт-парталаў, асноўным з якіх, несумненна, з'яўляецца сайт *stihi.ru*.

З якога боку ні паглядзі, але рускамоўны інтэрнэт з'яўляецца літаратурнай пляцоўкай. Спецыялісты нават сцвярджаюць, што ніводная іншая частка сусветнага павуціння не змяшчае такой колькасці літаратурных парталаў у цэлым і паэтычных у прыватнасці. Ды і ў офлайне паэтычнае жыццё не спыняецца: праводзяцца і конкурсы, і чытанні, і нават біенале.

Усё гэта добра, аднак сумнага пытання камерцыялізацыі такія імпрэзы не вырашаюць. А можа, яно тут і зусім не да месца? Сярэднестатыстычны чытач не тое што анталогію французскай паэзіі XIX стагоддзя, раман-бестселер не заўжды набудзе. Звяртацца да выратавальнага мецэнацтва? Ды і спонсар не надта паспяшаецца зрабіць высакародны жэст менавіта ў бок паэзіі. Бо часта высакароднасць роўная піяру, а сфера лірыкі не так шырока асвятляецца ў СМІ. Дык што ж рабіць? Дазволіць сучасным Фетам, Цвятаевым і Мандэльштамам падтрымаць традыцыю паэтычных лёсаў: зводзіць канцы з канцамі і «атрымліваць асалоду» ад невядомасці? Ці аб'яднаць намаганні: дзяржаўныя, грамадскія, адукацыйныя, інфармацыйныя? Да прыкладу, чым кепскі досвед Канады, дзе паэтычныя альманахі датуюцца дзяржавай? А ў ЗША выходзіць і шырока рэкламуецца анталогія «Лепшыя вершы за год».

Добрыя паэтычныя менеджары, якія з сапраўды таленавітага паэта маглі б стварыць культурную велічыню нароўні з Пушкіным, таксама не пашкодзяць. Мы ведаем мала вершаў паэтаў Сярэбранага веку, затое хаця б урыўкі з паэзіі Аляксандра Сяргеевіча ведае амаль кожны. А як было б выдатна, каб вершы нашых сучаснікаў з лёгкасцю цытавалі нашы ўнукі!

Вы можаце са мной паспрачацца, але мне падаецца, што сёння выжыве не самы моцны, а той, у каго сэрца больш успрымальнае. А без паэзіі такіх сэрцаў не выхаваць!

# Ecce Homo

Творчасць Уладзіміра Саламахі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, у нашым друку разглядалася мала, і мне хацелася б паразважаць на такую далікатную тэму, як мастацкія вартасці твораў — адной аповесці і аднаго апавядання. Па іх, думаю, чытач зможа меркаваць пра ўсю творчасць празаіка.



Фота Кастуся Дробава

Аповесць «Апазнаецца асоба мужчыны...» надрукавана ў аднайменнай кнізе (1998). Наколькі мне вядома, у часопісным варыянце твор ішоў «са скрыпам». Старэйшае пакаленне добра памятае, што ў тыя часы было не да мастацтва, то былі, як цяпер кажуць, «ліхія дзевяностыя»... На парэштках разбуранага СССР фарміруюцца самастойныя дзяржавы. Разгубленыя людзі, нагружаныя чамаданамі і сумкамі з запалкамі, спіртам, тэрмасамі, едуць у Польшчу, каб гандляваць на халодных рынках, каб патрымаць у руках дагэтуль ніколі не бачаныя зялёныя паперкі. Час, калі людзям лёгка ляпіліся ацэнкі: камерсант, інтэлігент, нацыяналіст, бандзюган, бомж, рабацяга, калгаснік. Апошняе азначэнне было з абавязковым эпітэтам — цёмны і неадукаваны. Інтэлігент быў, канечне, гнілаваты...

Аповесць У. Саламахі якраз пра гэта — пра Чалавека, які трапіў у ліхія дзевяностыя.

Аўтар свядома не дае імя галоўнаму герою, — ён завецца Чалавек.

Калі пачынаў чытаць аповесць, я доўга думаў, чаму аўтар абраў такі варыянт. І зразумеў: перада мною не чарговая «павястуха на злобу дня», але прытча пра Чалавека, які мімаволі трапляе да тых няшчасных, што завуцца бамжамі.

«— Ну, дайце ж яму шмоткі і рыбу. Хай ідзе. Скалее ж.

— Ідыётка! Каму? Ды смецце, бруд, такіх давіць трэба! Развялося, праходу за імі нідзе няма», — кажа адзін з герояў, малады адкормлены хлопец.

> **Чаму ж так сталася, што грамадства не хоча прыкмячаць падобных трагедый? Праводзячы Чалавека па сучасных пякельных кругах, выпісваючы пачуццё голаду, холаду, аўтар востра пытаецца ў нас: а што ёсць Чалавек? Дзе і калі ў ім знікае чалавечнасць? Што трымае Чалавека ў свеце, што надае яму моц і змушае кідаць выклік усяму фальшываму?**

Чаму ж так сталася, што грамадства не хоча прыкмячаць падобных трагедый? Праводзячы Чалавека па сучасных пякельных кругах — начоўкі ў падвале, на гарадской сметніцы, у халодным будане, выпісваючы пачуццё голаду, холаду, аўтар востра пытаецца ў нас: а што ёсць Чалавек? Дзе і калі ў ім знікае чалавечнасць? Што трымае Чалавека ў свеце, што надае яму моц і змушае кідаць выклік усяму фальшываму?

Сцэна, у якой Чалавек развітваецца з маці, многае тлумачыць.

«Сын паспяшаўся запэўніць, што не крыўдуе на іх, ды і за што? Тады, здаецца, маці ўздыхнула з палёгкай, на хвіліну суцішылася, потым папрасіла, каб нічога не баяўся, а яна адтуль, куды пойдзе, будзе толькі спрыяць ім усім тром.

Пасля ўжо, не раз успамінаючы гэтыя апошнія матчыны хвіліны, ён здзіўляўся, як без страху за сябе адыходзіла маці, нібы і сапраўды пасля разлукі вярталася некуды дамоў, куды не хацела нікога браць з сабою. Ён думаў: якая сапраўдная чалавечая мудрасць была ў ёй, праяўлялася ва ўсім, якое было разуменне непазбежнасці — спакойнае і бяскрыўднае, толькі клопат пра адно: каб без яе жылі мірам і ладам».

Жыццё маці, яе дабрыня і мудрасць — вясковай малапісьменнай жанчыны — адзін з асноўных духоўных арыенціраў, якога прытрымліваецца Чалавек.

«Яна памерла ціха, адчуваючы сынаву руку. І тое пачуццё, якое валодала ім тады, ён потым ніколі не стараўся ўзнавіць у памяці, бо ведаў, што, можа, вельмі рана для сябе зразумеў мала каму даступную таямніцу жыцця і адыходу з яго самага роднага чалавека. Ён вырашыў, што гэтую тайну нельга адкрываць ні сабе, ні іншым нават у думках, бо некалі, напэўна, яна сама з'явіцца да яго ў апошні міг жыцця. Ды і наогул, напэўна, калі некаму раптам прыадкрыецца заслона нейкіх таямніц, не трэба старацца дачасна пранікнуць у іх, хаця не мог сабе растлумачыць — чаму».

> **Міжволі, не акцэнтуючы на гэтым увагу, аўтар параўноўвае вёску і горад. Сёння гэта не проста тэма, але выбар ладу жыцця і мыслення. У апошні час, калі ўрбанізаванае грамадства раздзіраецца супярэчнасцямі, досвед вясковых людзей, так званая вясковая мараль ці не становяцца магчымым выйсцем?**

Чалавеку пакутліва і цяжка: трэба хавацца ад міліцыі, трэба думаць, як здабыць кавалак хлеба, як сагрэцца халоднай восеньскай ноччу. Здаецца, выйсця няма. Але між тым у душы яго застаецца прага справядлівасці, жаданне застацца Чалавекам.

Часам гэтая аповесць нагадвае некаторыя творы Васіля Быкава, і хоць абставіны розныя, праблема адна — выбару і абавязку. У. Саламаха паказвае вытокі нашай чэрствасці, якія хаваюцца ў гарадскім жыцці. Міжволі, не акцэнтуючы на гэтым увагу, аўтар параўноўвае вёску і горад. Сёння гэта не проста тэма, але выбар ладу жыцця і мыслення. У апошні час, калі ўрбанізаванае грамадства раздзіраецца супярэчнасцямі, досвед вясковых людзей, так званая вясковая мараль ці не становяцца магчымым выйсцем? У аповесці «Апазнаецца асоба мужчыны...» У. Саламаха «адрывае» Чалавека ад вёскі, — яна засыпана радыяцыяй, яна знікла.

Мінула нямала гадоў з часу напісання аповесці, а адчуванне — быццам напісана сёння! І гэта — знак майстэрства і ўдачы літаратара.

Звернемся ж да апавядання «Блізкі далёкі бераг».

«Мяккім, цёмна-блакітным пологам, не па-асенняму цёплая, ляжала на зямлі кастрычніцкая ноч. На самым версе гэтага полага буйна свяціліся зоркі і вісеў сярод іх вялікім ліхтарам месяц. Ад яго святла, там, дзе ўсчынілася вёска і ляжаў кляновы гай, як толькі дыхне ветрык, агромністая чорная пляма з вершалін дрэў, як рыбіна, выкінутая з вады, пачынала лушчыцца бронзава-срэбным лісцем, яшчэ не скошаным сіверамі. І гэтае ўзнёсла-сцішанае трапятанне плыло далёка ўначы, напамінаючы чамусьці аб тым, што ўсяму на зямлі павінна быць сваё месца, свой прастор».

Адчуваеш паэзію — і разам з тым становіцца вусцішна: а раптам аўтар знішчыць паэтычную магію лішнімі ўдакладненнямі і тлумачэннямі? Але ж не. Кожнае слова ў апавяданні выверана, як кажуць, адпакутавана. І потым, калі ўчытваешся ў немудрагелісты сюжэт пра каханне Яго і Яе, дзівішся цнатлівасці і далікатнасці апісанняў. Успамінаецца празрыстая, настоеная на пачуццях проза Стральцова, успамінаецца Бунін.

І раптам герой, юнак, даведваецца, што Яна яго больш не кахае.

У памяці абодвух была «...раніца, ружавела неба, бы акварэльныя, пачалі выразна праяўляцца зеленаватыя лісточкі. Тады яна сама абняла яго за шыю і пацалавала, сарамліва і шчыра».

Што ж здарылася з ёю? Аўтар не расказвае пра гэта. Проста дзяўчына стала іншай, і тут нічога не зменіцца.

«...быццам стаяла на высокім грудку, стаяла так, каб вынесці жорсткі прысуд за тое, што ён не змяніўся, застаўся такім, як быў — наіўным і мяккім.

І ён стаў чакаць хвілі прысуду. Яна наступіла.

— Ідзі, — ціха сказала Альбіна.

Ён павярнуўся і пайшоў...»

У гэтым кароткім «ідзі» — майстэрства У. Саламахі як творцы. Яно падрыхтавана папярэдняй музыкальнасцю твора.

У апавяданні ёсць штосьці недасказанае, незавершанае, якое, здавалася б, трэба праясніць, растлумачыць. Але мастацтва і ёсць штосьці недасказанае, што абуджаецца ў душы чытача і без чаго іншы твор, правільны і лагічны, не ёсць мастацтва.

Так ужо атрымліваецца, што мы ці то саромеемся, ці то лянуемся сказаць цёплае слова пра літаратара, творчасць якога нам падабаецца. Думаецца, што У. Саламаха тут — шчаслівае выключэнне. Кніжка пад назвай «Сусвет дабрыні», што выйшла ў 2005 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», цалкам прысвечана развагам пра літаратараў і літаратуру. Чытаючы, я падзівіўся: колькі добрых слоў знаходзіць У. Саламаха пра аўтараў, сяброў па жыцці і па творчасці. І самае радаснае — пісьменнік знаходзіць магчымасць гаварыць не толькі пра класікаў, але і пра маладых літаратараў і сваіх аднагодкаў. У кнізе, як і ва ўсёй творчасці пісьменніка, праглядваецца жаданне рабіць людзям дабро, прычым яго імкненне да справядлівасці і дабрыні — натуральнае.

**Васіль ГІГЕВІЧ**



# Антон Краўчанка: «Выходзіш за кулісы пасля спектакля і... падаеш»

**Рамэа, узнёслы і вытанчаны, альбо Спартак, грозны і рашучы? Вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Антон Краўчанка аддае перавагу яркім ролям, пазбягаючы шаблонных і бесхарактарных вобразаў. Ён умее аддавацца танцу так, што ўсё яго жыццё, з праблемамі і радасцямі, на бліжэйшыя тры гадзіны «тэлепартуецца» за кулісы і цярпліва чакае свайго гаспадара. Вяртаецца танцор стомленым, але шчаслівым: дома яго чакае сям'я. Праўда, праца ходзіць за ім па пятах і днём і ноччу: акрамя выступленняў у спектаклях артыст выкладае харэаграфію і вучыцца ў ВНУ. У перапынку, які цудам з'явіўся ў шчыльным графіку, Антон Краўчанка распавёў, што самае страшнае ў прафесіі артыста — працаваць, прытрымліваючыся індыйскай філасофіі, і не адчуваць хвалявання перад сцэнай.**

**— Антон, з чаго пачынаецца ваш дзень?**

— Сцэнарый маёй раніцы не мяняецца з адзінаццацігадовага ўзросту. Прачынаюся і бягу ў Вялікі тэатр на ўрок па класічным танцы, потым на рэпетыцыі, адтуль — у каледж, выкладаць дуэтна-класічны танец. Увечары — зноў рэпетыцыі або спектакль. У вольны час вучуся, атрымліваю спецыяльнасць эканаміста-менеджара ў Акадэміі кіравання. І так дзень за днём...

**— І навошта вам такая разнастайнасць?**

— Не скажу, што мне гэта падабаецца, але жыццё патрабуе. Неймаверна цяжка, калі сесія пачынаецца. Кіраўніцтва тэатра не можа адпусціць мяне вучыцца на ўвесь дзень. Таму графік атрымліваецца яшчэ больш насычаным: з раніцы іду на лекцыі, здаю экзамены, вечарам танцую ў спектаклі, а ўначы рыхтуюся да наступнага навучальнага дня. Пасля такога мару толькі выспацца.

**— Антон, у дзяцінстве вы хацелі стаць артыстам ці, як усе хлопчыкі, марылі скараць касмічныя прасторы?**

— Памятаю, калі быў маленькім, разваліўся Савецкі Саюз, краіна стала іншай. Больш за ўсё мяне ўразіў пералом у свядомасці і ладзе жыцця. Я быў звычайным хлопчыкам, у меру шкодным і паслухмяным адначасова, але галоўнае — рана стаў самастойным. У дзесяцігадовым узросце адзін з некалькімі перасадкамі ездзіў да бабулі ў іншы горад. Бацькі хваляваліся, але лічылі, што я ўжо дарослы. Быць артыстам ніколі не хацеў, лёс так распарадзіўся. Аднойчы ў нашу школу прыйшлі тры жанчыны і пачалі адбіраць самых пластычных і гнуткіх, словам, здольных да танцаў дзяцей. На мяне звярнулі ўвагу і запрасілі на вучобу ў Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж. Я вельмі не хацеў пакідаць свой клас, сяброў і прывыкаць да новых людзей. З крыўдай думаў: навошта харэаграфія, калі я люблю футбол і самалёты? Але ў выніку мяне прымусілі!

**— А вучоба ў каледжы спадабалася?**

— Былі добрыя выкладчыкі. Цяпер іх, на жаль, становіцца ўсё менш. Пакаленне артыстаў і харэографаў, якія вучыліся яшчэ ў Пецярбургу, у старой, узорнай балетнай школе, сыходзіць... Ім сёння гадоў пад 70, калі не больш. А прыцягнуць маладых педагогаў складана: грошы ў каледжы плацяць невялікія. Сёння я выкладаю там з прычыны пачуцця абавязку: хтосьці ж павінен рыхтаваць моладзь! Падчас вучобы самай складанай дысцыплінай была французская мова: я ніяк не бачыў яе прымянення ў сваім жыцці. Асвойвацца ў каледжы ўвогуле было цяжка, бо мяне ўзялі падчас дадатковага набору, калі асноўны склад вучняў ужо сфарміравалі.

**— Як пачыналася ваша кар'ера? Памятаеце першы спектакль?**

— У 2001 годзе па размеркаванні трапіў у Вялікі тэатр Беларусі. Першай сур'ёзнай пастаноўкай стала «Эсмеральда», дзе я выканаў ролю Феба. Потым кар'ера «панеслася» хутка: «Спартак», «Стварэнне свету», «Лебядзінае возера», «Страсці», «Кармэнсюіта», «Карміна Бурана», «Рамэа і Джульета», «Вітаўт»...

**— Ці страшна выходзіць на сцэну і адчуваць на сабе ўважлівыя позіркі гледачоў, якія чакаюць чагосьці асаблівага? Як спраўляецеся з хваляваннем?**

— Калі артыста з дзяцінства рыхтуюць да выступленняў перад публікай, чаму ён павінен баяцца сцэны? Проста робіш сваю працу. У каледжы спраўляцца з хваляваннем нас не вучылі, але сама сістэма адукацыі пабудавана так, што дзіця, пачынаючы вучыцца, адразу практыкуецца ў спектаклях. Раней я думаў, што калі не так падыму руку ці ступлю не туды, то ўся пастаноўка разваліцца. Час прайшоў — з'явіўся досвед, а хваляванне знікла. Што да гледачоў... іх твараў не відаць. Вы ніколі не думалі, чаму некаторыя зоркі эстрады выступаюць у цёмных акулярах, а, да прыкладу, Вячаслаў Бутусаў часцяком спявае з заплюшчанымі вачыма? Святло сафітаў на сцэне літаральна слепіць. Паспрабуйце паглядзець ва ўпор на лямпачку ў 100 вольт!

**— А як трымацца, калі хто-небудзь знервуе перад спектаклем і выб'е з каляіны?**

— Асадак пасля непрыемнай гутаркі ці спрэчкі знікае за некалькі секунд пасля выхаду на сцэну. Немагчыма танцаваць і думаць яшчэ пра нешта: уся жыццёвая бязладзіца застаецца за кулісамі. Свядомасць проста не прапускае староннiх думак — прафесія патрабуе поўнай аддачы. Трэба трымаць у галаве парадак рухаў, памятаць пра памылкі, якія ты дапускаў раней, сачыць за эмоцыямі — кантроль пастаянны.

**— Што для артыста больш істотна: ідэальная знешнасць, талент або ўменне працаваць?**

— У індыйскай філасофіі ёсць правіла: чалавек павінен займацца тым, што яму лягчэй даецца. Не трэба ўсё жыццё змагацца з перашкодамі, пераадольваць церні. Зразумела, плыць па цячэнні таксама не варта. Важна знайсці ў сабе талент і развіць яго. Калі прыкладу усе намаганні, здароўе пасадзіў, а нічога не атрымліваецца — кінь гэтую справу. У іншым ты даб'ешся большага поспеху са значна меншымі стратамі. Не лічу, што ў мяне ідэальная знешнасць ці велізарны талент. Але бясспрэчна: Бог даў схільнасць да прафесіі, і я ўмею працаваць, каб дасягнуць жаданых вынікаў. Ведаеце, як маладыя артысты становяцца вялікімі зоркамі? Нягледзячы на прыродныя задаткі, яны не расслабляюцца, а ўдасканальваюць сваё майстэрства.

**— У вас вельмі розныя ролі — ад Спартака да Прынца эльфаў у «Беласнежцы». Чый вобраз вы ўвасабляеце на сцэне з найбольшым задавальненнем?**

— Падабаецца разнастайнасць роляў. Стаяць ля станка і штампаваць адну і тую ж дэталь — занятак не для мяне. Цікава «апынуцца» на месцы героя, адчуць, чым ён жыў, пра што думаў, якія страсці кіпелі ў яго сэрцы. У гэтым плане кананічныя персанажы, абмежаваныя строгімі пазіцыямі, менш цікавыя. Такая ж сітуацыя і з класічнымі пастаноўкамі, дзе менш прасторы для эмоцый і свабоды ў рухах. Я люблю ўвасабляць адмоўных персанажаў з яркім, шматгранным характарам. Хочацца не проста прыгожа танцаваць, але і несці гледачам ідэю. Мой любімы балет — «Страсці», дзе князь Уладзімір мяняецца, каб урэшце прыйсці да Бога. З роляў таксама падабаюцца Спартак, Хазэ, Адам. Калі я толькі прыйшоў у тэатр, былі і маленькія партыі. Напрыклад, у оперы «Аіда» быў салдатам, які ўвесь спектакль стаяў з дзідай і шчытом. Здаецца, што можа быць больш сумным? Але я падумаў: знаходжуся амаль у партэры, нічога не раблю, слухаю оперу, а мне за гэта яшчэ і грошы плацяць — хіба не шчасце? (*усміхаецца*).

**— Што вы адчуваеце, калі апускаецца заслона?**

— Стомленасць. Дае сілу толькі адчуванне, што ты не дарма ўсё гэта рабіў. Хочацца, каб да цябе падышлі і сказалі: сёння пастаноўка атрымалася на славу! Гара з плячэй пасля спектакля не падае, бо раніцай ізноў на працу — рабіць тое самае. Да таго ж, кожны дзень трэба даказваць, што ты ўсё яшчэ на нешта здольны. Гэта самае цяжкае ў прафесіі артыста.

**— Кажуць, што сцэна дапамагае ўцячы ад рэальнасці...**

— Мабыць, для гледача — так. Але для артыста — не думаю, бо выконваць балетныя партыі — штодзённая праца. Каб уцячы ад рэальнасці, мне, напэўна, трэба сесці за камп'ютарную гульню, пераапрануцца там у рыцара і, размахваючы мячом, ратаваць свет.

**— Вы прыўносіце частку сябе ў ролі ці ўсё вырашаюць харэографы?**

— У кожным спектаклі я павінен строга выконваць заданні пастаноўшчыка і харэографа. Цалкам згодны з выразам: калі чалавек атрымлівае грошы за тое, што ён робіць, гэта праца, калі не — творчасць. Але бывае, што пастаноўшчык дае свабоду дзеянняў, тады я адразу запальваюся ідэяй і магу праяўляць сябе — працаваць становіцца вельмі цікава.

**— Колькі часу патрэбна на падрыхтоўку да спектакля?**

— Усё залежыць ад рэжысёра-пастаноўшчыка. Калі ён ведае, чаго хоча ад артыстаў, то ў сярэднім прэм'ера ставіцца за два-тры месяцы. Тут важна ведаць спецыфіку працы балетнага артыста: умець думаць не галавой, а целам. Я, да прыкладу, не змагу пералічыць усе рухі ў спектаклі, але калі музыка зайграе, устану і ўсё выканаю.

**— Як артысту навучыцца спраўляцца з дыханнем, калі тэмп танца знізіць немагчыма?**

— Вы бачылі, як бягуць на Алімпіядзе лыжнікі? Даходзяць да фінішу і падаюць. Я іх цалкам разумею. Выходзіш за кулісы пасля спектакля і гатовы ўпасці на зямлю. Не ведаю, як з гэтым справіцца, напэўна, трэба проста быць цягавітым. Я не асвойваў ніякіх спецыяльных тэхнік — бессэнсоўна. Падтрымкі ў танцах такія, што нават калі паставіць дыханне, яно ўсё роўна саб'ецца.



Сцэна са спектакля «Лебядзінае возера». Антон Краўчанка ў ролі Зігфрыда.

Фота Міхаіла Несцерава

**— У чым сакрэт паспяховай працы ў дуэце?**

— Павага адно да аднаго, а з боку мужчыны — беражлівыя адносіны да партнёркі. Дуэт дзеліцца на дзве часткі, і кожны павінен выконваць свае 50 працэнтаў. Тут істотныя справядлівасць і абсалютнае раўнапраўе. Калі хто-небудзь пачне халтурыць або, наадварот, перастарацца, — танец прапаў.

**— Як захоўваць форму і пры гэтым не страчваць прытомнасць падчас спектакляў?**

— З дзяцінства ем няшмат, таму мне прасцей, дыеты не патрэбны. Мяркуйце самі: прачынаюся, не снедаю, таму што трэба бегчы на ўрок, а калі днём рэпетыцыі, то і на абед нармальны не заўсёды хапае часу. Ем у асноўным увечары. Нездарма кажуць, што лёс артыста балета — паесці на ноч, і па-больш (*усміхаецца*).

**— Ці хацелі б вы паспрабаваць сябе ў кіно?**

— Жаданне ёсць, але гэта не так проста, як здаецца на першы погляд. У балеце можна ідэальна адрэпеціраваць партыю ў спектаклі і паказваць яе гадамі, толькі паляпшаючы майстэрства. А ў фільмах у акцёраў кожны раз новыя рэплікі, рухі. Акрамя таго, трэба ўмець адчуваць камеру, ведаць, у якім ракурсе ты лепш выглядаеш, куды варта глядзець і як рухацца. З другога боку, артыстам, якія рэалізавалі сябе ў кіно, вельмі пашанцавала: за свой чалавечы век яны пражываюць шмат жыццяў...

**Гутарыла Марыя ВОЙЦІК**

# Востраў прыцягнення

*Фота Кастуся Дробава*





Думаеце, што дзеці, спешчаныя камп'ютарамі ды іншымі цудамі інфармацыйнага прагрэсу, не чытаюць кніг? Глыбока памыляецеся! Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк, якая аб'ядноўвае 18 «кніжных скарбніц» сталіцы, штогод абслугоўвае больш як 120 тысяч маленькіх чытачоў. Пра тое, як знайсці сваю бібліятэку, правесці там пару гадзін і... назаўжды застацца чытачом, распавяла дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк і Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя М. Астроўскага Таццяна Швед.

**— Як дзіцячыя кніжніцы сталіцы прыцягваюць дзяцей і падлеткаў да чытання? Чым можна захапіць сучасную моладзь?**

— Бібліятэкары, якія працуюць з дзецьмі, стаяцца да чытача ветліва, добразычліва, як да свайго дзіцяці: не проста забяспечаць літаратурай, а дапамогуць у вучобе, творчай самарэалізацыі, пошуку аднадумцаў. Дзеці — самыя ўдзячныя чытачы. Калі ім падабаецца ў бібліятэцы, то яны і самі прыйдуць, і сяброў прывядуць.

У кожнай кніжніцы, якая ўваходзіць у нашу сістэму, унікальная задача і асаблівы кірунак працы з чытачамі: ад экалагічнай асветы да духоўнага выхавання. Так, у дзіцячай бібліятэцы № 5 створаны ўнікальны інфармацыйны цэнтр японскай культуры. Традыцыйна ва ўсіх кніжніцах праходзяць прэзентацыі кніг і часопісаў, фотавыстаўкі, флэш-мобы, майстар-класы. Сярод падлеткаў папулярныя трэнінгі і клубы па інтарэсах, напрыклад, «Тынэйджарская пляцоўка». Маленькія чытачы аддаюць перавагу гульням і конкурсам: можна атрымаць салодкі прыз ці іншы падарунак! У нас ёсць праект «Кінаманія», які збірае сяброў для сумеснага прагляду і абмеркавання фільмаў. Працуюць таксама літаратурныя гасцёўні, дзе праходзяць сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, і музычныя салоны, куды запрашаюцца таленавітыя выканаўцы і кампазітары.

Штогод арганізоўваюцца святы для дзяцей, у іх ліку — фестываль дзіцячага чытання, па выніках якога выбіраецца лепшы чытач года. Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк мае свой сайт, дзе можна пазнаёміцца з нашай дзейнасцю. Супрацоўнікі актыўна працуюць і ў сацыяльных сетках, клапоцяцца пра папаўненне блога займальнымі паведамленнямі і фотарэпартажамі.

Але самы галоўны клопат для нас — чытач. Калі мы змаглі арганізаваць працу так, што дзеці да нас прыходзяць, значыць, выбралі правільны шлях. Бываюць кніжніцы, дзе, здавалася б, катастрафічна неабходны рамонт, а дзіця прыходзіць і кажа: якая ў вас крутая бібліятэка! Мая галоўная мара — каб у нас заўсёды былі шчырыя чытачы.

**— Як рыхтуецеся да летняга сезона?**

— Летам у бібліятэках вельмі шмат наведвальнікаў! Сёлета, напрыклад, будуць дзейнічаць праграмы: «Лета. Дзеці. Кніга» і «Вакол свету за 90 дзён». Звычайна бацькі занятыя на працы, а дзецям сумна дома, калі яны не могуць з'ехаць з горада. Куды ісці? У бібліятэкі! Тут для вясёлага і карыснага адпачынку створаны ўсе ўмовы. Дзяўчынкі могуць пагартаць часопіс мод, навучыцца тэхніцы рукадзелля, знайсці кнігу па школьнай праграме. А хлопчыкі атрымаюць магчымасць паўдзельнічаць, напрыклад, у конкурсе на лепшую выяву ўлюбёнага літаратурнага героя ці проста паразмаўляць з аднагодкамі.

**— З кім супрацоўнічаюць сталічныя кніжніцы? Ці абменьваюцца яны досведам з замежнымі калегамі?**

— Бібліятэкі раскіданыя па ўсім горадзе, таму кожная супрацоўнічае з дзіцячымі садамі, школамі, вучылішчамі, каледжамі свайго раёна. Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк сталіцы падтрымлівае сяброўскія адносіны з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Беларусі, Домам міласэрнасці, рэдакцыямі рэспубліканскіх выданняў, гарадскімі музеямі і г. д. На міжнародным узроўні ў нас склаліся цёплыя партнёрскія стасункі з расійскімі ўстановамі, у прыватнасці — з Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкай імя А. Ліханава горада Белграда і Краснадарскай краёвай дзіцячай бібліятэкай імя братоў Ігнатавых, Расійскай дзяржаўнай дзіцячай бібліятэкай. Штогод бібліятэкары абедзвюх краін наведваюць адзін аднаго, абменьваюцца досведам.

**— А што наконт папулярызацыі роднай культуры?**

— Мы актыўна працуем з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Дзецям заўсёды цікава сустрэцца з аўтарам кнігі, задаць пытанні. Вось мы і праводзім прэзентацыі і творчыя вечары, якія, між іншым, патрабуюць велізарнай працы ўсяго калектыву бібліятэкі. Трэба аформіць кніжную выстаўку, зрабіць мультымедыйную прэзентацыю, пазнаёміць дзяцей з творчасцю пісьменніка яшчэ да яго прыходу. Хочацца выказаць падзяку нашым творцам, бо беларускія аўтары — яшчэ і своеасаблівыя «праваднікі» роднай мовы. Дзеці, самі таго не заўважаючы, падключаюцца да іх…

> **Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк сталіцы падтрымлівае сяброўскія адносіны з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Беларусі, Домам міласэрнасці, рэдакцыямі рэспубліканскіх выданняў, гарадскімі музеямі і г. д.**

У ліку тых, хто найбольш актыўна наведвае нашы бібліятэкі, — Андрэй Смятанін, Міхась Пазнякоў, Раіса Баравікова, Уладзімір Мазго, Алена Масла.

**— З якімі праблемамі сутыкаецца бібліятэкі?**

— Знізілася наведвальнасць чытальных залаў, таму кнігі, якія захоўваюцца ў іх фондах, передаюцца на абанемент. Усё гэта робіцца для таго, каб не страціць чытачоў. Дзеці, асабліва падлеткі, вельмі загружаныя: вучоба, курсы, гурткі, падрыхтоўка да паступлення ў ВНУ. Не ва ўсіх ёсць час, каб спакойна пасядзець з кніжкай. Праўда, усё залежыць ад камфортнасці памяшкання і дадатковых паслуг, якія гатовая прадаставіць кніжніца. Яшчэ адна праблема бібліятэк — недахоп літаратуры на беларускай мове для падлеткаў. Калі хтосьці думае, што дзеці не чытаюць у эпоху інтэрнэту, то глыбока памыляецца. Яны хочуць бачыць кнігі на роднай мове, тым больш што бібліятэкі гатовыя іх набываць. Галоўнае, каб аўтары тварылі.

**— Многія баяцца, што папяровыя кнігі хутка знікнуць…**

— Ведаю дакладна, што бібліятэкі нікуды не падзенуцца, нават калі трансфармуюцца да непазнавальнасці. Зразумела, электронных выданняў стане больш, але і друкаваныя застануцца. Месца хопіць усім. Планшэты, рыдары і папяровыя старонкі, як і цяпер, будуць жыць побач, а людзі змогуць выбіраць, што ім па душы. Калі пачыналася эпоха тэлебачання, казалі, што кінематограф згасне. Што мы бачым цяпер? Кінатэатры па-ранейшаму перапоўненыя! Магчыма, у Беларусі стануць папулярныя выданні іншага кшталту, напрыклад, у фармаце 3D, дзе малюнкі ажываюць, або музычныя. А магчыма, з кнігамі можна будзе размаўляць: задаў любое пытанне па тэксце — і імгненна атрымаў адказ.

**— Цікава, што новага вы прапануеце чытачам?**

— Раней чакалі, што наведвальнікі прыйдуць *у* бібліятэку, а цяпер чытачоў трэба прываблiваць, змагацца за іх увагу, запрашаць. Мы выходзім на вуліцу. Першага чэрвеня, напрыклад, супрацоўнікі Цэнтралізаванай дзіцячай бібліятэчнай сістэмы збяруцца каля помніка Максіму Горкаму ў парку яго імя, каб пазнаёміць мінчан са сваёй дзейнасцю.

**— Давайце пагутарым пра вас. Як вы прыйшлі да сваёй прафесіі?**

— Я не выпадковы чалавек у бібліятэчнай справе. Прафесія спадабалася мне, напэўна, яшчэ ў дашкольным узросце. Зразумела, неўсвядомлена. Але дакладна памятаю, што мама купляла мне кніжкі, а я з задавальненнем іх чытала, калі вучылася ў пачатковай школе. Потым палюбіла школьную бібліятэку, там заўсёды было вельмі ўтульна ды прыемна пахла свежымі старонкамі новых кніг. Я нават дапамагала бібліятэкару: падшывала газеты, часопісы, расстаўляла кнігі па паліцах. Не задумваючыся, пасля школы паехала паступаць у Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. Пазней завочна атрымала вышэйшую адукацыю.

З 1996 года працую ў Цэнтралізаванай сістэме дзіцячых бібліятэк, а ўзначальваю яе ўжо больш як сем гадоў.

**— І ні дня не можаце пражыць без кніг?**

— Не магу! Чытанне нездарма называюць аптэкай для душы. Калі ты не можаш знайсці выхад з цяжкага становішча, на дапамогу прыходзіць кніга. Ёсць добры закон жыцця: тое, што адбываецца з намі ў дадзены момант, ужо калісьці з кімсьці здаралася. Таму ў кнігах лёгка знайсці праблему, падобную да тваёй, паглядзець на яе з іншага боку і, можа быць, прыйсці да правільнага рашэння.

**— Таццяна Аляксееўна, ці лёгка жанчыне быць кіраўніком?**

— Не магу сказаць, што лёгка, але люблю працаваць з людзьмі. У Цэнтралізаванай сістэме дзіцячых бібліятэк — 260 супрацоўнікаў, імкнуся да кожнага з іх знайсці падыход. Намагаюся аб'ядноўваць людзей, якія працуюць побач: заўсёды размаўляю з імі шчыра. Нягледзячы на ўсе клопаты і цяжкасці, мне падабаецца мая праца. Тым больш я заўсёды адчуваю падтрымку калектыву. Імкнуся да такога стану душы, каб раніцай хацелася ісці на працу, а ўвечары — вяртацца дадому.

Гутарыла
**Марыя ВОЙЦІК**

# Прафесар Іофе

У Прэзідэнцкай бібліятэцы адкрылася выстаўка, прысвечаная 75-гадоваму юбілею гісторыка, палітолага, сацыёлага, культуролага і педагога, доктара гістарычных навук прафесара Эмануіла Іофе, імя якога добра вядома не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.



Эмануіл Рыгоравіч зрабіў значны ўнёсак у развіццё грамадскіх навук і адукацыйнай сістэмы нашай краіны. Кола яго навуковых інтарэсаў шырокае. Ён даследуе гісторыю Беларусі, перыяд грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, гісторыю беларускай навукі і культуры, беларускую гістарыяграфію, з'яўляецца адным з вядучых спецыялістаў па даследаванні Халакосту.

Ключавыя навуковыя адкрыцці зроблены ім падчас вывучэння маладаследаваных ці наогул не закранутых гісторыкамі старонак Другой сусветнай вайны, а таксама жыцця і дзейнасці шэрагу кіраўнікоў БССР. Эмануіл Іофе — аўтар больш як 1550 публікацый, значная колькасць якіх убачыла свет на беларускай і рускай мовах, а некаторыя — на англійскай, нямецкай, польскай, украінскай і інш. Шматгадовая плённая праца навукоўца адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Прафесар кафедры паліталогіі і права Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, Э. Іофе адным з першых перайшоў на беларускую мову ў выкладанні паліталогіі, распрацаваў шэраг новых лекцый і спецкурсаў.

Выстаўка ў Прэзідэнцкай бібліятэцы знаёміць толькі з некаторымі са шматлікіх кніг навукоўца. Асаблівае месца займаюць працы, якія з'явіліся ў апошніе дзесяцігоддзе. У экспазіцыі прадстаўлены выданні «Беларускі штаб партызанскага руху», «Вышэйшае партызанскае камандаванне Беларусі. 1941 — 1944», у якіх Э. Іофе распавядае пра гісторыю партызанскіх злучэнняў, прыводзіць біяграфічныя звесткі пра 120 камандзіраў, кіраўнікоў і адказных работнікаў Паўночна-Заходняй аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і СНК БССР, Цэнтральнага штаба партызанскага руху, Беларускага штаба партызанскага руху, камандзіраў, камісараў і начальнікаў штабоў пастаянных і часовых злучэнняў. Зацікавіць чытача таксама кніга «Ад Мяснікова да Малафеева. Хто кіраваў БССР».

У гісторыі дагэтуль нямала «белых плям». Адна з іх — дзейнасць нямецкіх спецслужбаў на захадзе СССР падчас Другой сусветнай вайны. У кнізе «Абвер, паліцыя бяспекі і СД, тайная палявая паліцыя, аддзел «Замежныя арміі — Усход» у заходніх абласцях СССР. Стратэгія і тактыка: 1939 — 1945» Э. Іофе паказвае, як гэтыя структуры, а таксама ахоўныя дывізіі, палявая жандармерыя, ваенныя камендатуры і знішчальныя каманды дзейнічалі супраць партызан і падпольшчыкаў у 1939 — 1945 гг. Аўтар распавядае таксама пра формы і метады барацьбы разведвальна-дыверсійных школ супраць войск Заходняга, Цэнтральнага, Беларускага і Прыбалтыйскага франтоў.

Шырокаму колу чытачоў будзе цікава выданне «Нобелеўскія лаўрэаты з беларускімі каранямі» (у суаўтарстве з Жаннай Мазец). Кніга знаёміць з жыццём і дзейнасцю лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі выхадцаў з Беларусі Саймона Кавваля, Аарона Клуга, Жарэса Алфёрава і іншых выдатных дзеячаў.

**Таццяна ЛЫЧАГІНА,**
**загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь**

*З пошты «ЛіМа»*

# Адшукаем разам

Год таму бібліятэцы № 4 г. Бабруйска было прысвоена імя Барыса Мікуліча. Гэта мой дзядуля. Праўда, бачыла я яго апошні раз у 1947-м, калі мне было ўсяго сем гадоў. Пасля наведання Бабруйска і гутарак з гараджанамі я ўпэўнілася: тут памятаюць пра свайго земляка, шануюць памяць Барыса Міхайлавіча, цэняць яго творчасць.

Гэта мяне вельмі ўсхвалявала і стала штуршком для пошуку яго прац. У 1927-м, у пятнаццацігадовым узросце, ён пачаў пісаць свае першыя творы, а ў 1936-м яго арыштавалі. Пабываўшы па некалькі разоў у розных архівах, бібліятэках і музеях, я сабрала вялікі матэрыял пра Барыса Мікуліча: яго творы, артыкулы, рэцэнзіі і інш. Зрабіла ксеракопіі і пакрысе папаўняю ўласны архіў.

Працую паралельна з загадчыцай бібліятэкі № 4 Святланай Калюта, якая таксама знайшла шмат матэрыялаў пра майго дзядулю ў самім Бабруйску. Спрабуем разам з ёю ўвесь сабраны матэрыял абагульніць у электронным выглядзе і, магчыма, нават перавыдаць.

Наведала бібліятэку Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дзе ўтрымліваюцца архіўныя матэрыялы Барыса Мікуліча, якія ашчадна захоўвае супрацоўніца кніжніцы Марыя Пішчук. Але, праглядаючы дакументы, выявіла недахоп некаторых важных для мяне прац, якія пасля смерці Барыса Мікуліча родныя перадалі менавіта сюды. Сярод іх — рукапісы апавяданняў «Любімы», «Твой сын» і «Шчасце» (напісаны алоўкам і нідзе не друкаваліся), сем аркушаў чарнавых накідаў. Таксама невядомы лёс лістоў Барыса Міхайлавіча да Таццяны Бандарчык (змешчаны ў кнізе «Аповесць для сябе») і пісем да паэта Станіслава Шушкевіча (нідзе не друкаваліся).

Праз газету «Літаратура і мастацтва» звяртаюся да ўсіх неабыякавых людзей, асабліва да былых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва, якія мелі хоць якія адносіны да архіва Барыса Мікуліча, дапамагчы знайсці страчаныя працы, напісаныя ўжо сталым творцам. Спадзяюся, хтосьці адгукнецца на гэтую просьбу.

**Тамара САКАЛОВА**

# Чатырнаццаць жанчын

Адмысловая выстаўка «Загадкавы свет жаночага мастацтва» адкрылася ў галерэі «VILNIUS», якая працуе пры сталічнай бібліятэцы № 18. Пад адным дахам, натхнёныя фарбамі і вясеннім цяплом, аб'ядналіся 14 мастачак.

На выстаўцы можна ўбачыць каля 50 чароўных і загадкавых карцін, створаных у абсалютна розных тэхніках: жывапісу, акварэлі, вышыўкі, батыку. Не дзіўна, бо мэта экспазіцыі — адлюстраваць розныя погляды на жыццё і свет, пазнаёміць з багаццем таямнічай жаночай душы. Работы пакідаюць устойлівае адчуванне, што свет вакол нас — вельмі прыгожы, светлы і чысты, нягледзячы на выпрабаванні, якія падкідвае лёс. Трэба толькі часцей азірацца, вучыцца бачыць добрае, заўважаць не толькі сябе.

Сярод аўтараў выстаўкі — Марыя Ісаёнак, Валянціна Уласава, Ірына Ягацінцава, Святлана Мацвеенка, Аксана Быстрова, Святлана Гасёнак, Ірына Гаспадарская, Людміла Мацвеенка, Валянціна Ранцэвіч і іншыя. Удзельніцы праекта даўно сябруюць з галерэяй «VILNIUS», многія іх работы ўпершыню ўбачылі свет менавіта тут, ва ўтульнай зале бібліятэкі, у перыяд з 1997 па 2014 год.

Цікава, пра што марылі мастачкі, калі стваралі карціны? Дзе блукалі іх думкі і пачуцці? Спачатку ўласнымі ўражаннямі падзялілася Марыя Ісаёнак, работы якой — яркія з'явы ў сучасным беларускім мастацтве. Менавіта яна першая пагадзілася адкрыць выстаўку ў галерэі «VILNIUS» амаль 17 гадоў таму. Яе партрэты, нацюрморты, пейзажы — шчырыя, адухоўленыя, нават крыху філасофскія. Мастачку падрымлівае муж і калега Мікола Ісаёнак. «Некалі я баялася персанальных экспазіцый, выстаўляла асобныя работы. Потым, калі трапіла са сваімі карцінамі ў галерэю «VILNIUS», гэты страх знік бясследна», — распавяла мастачка.

Другая таленавітая жанчына, чые працы ўпрыгожылі экспазіцыю, — Аксана Быстрова, якая пасказала ў галерэі ўжо дзве выстаўкі. Але, на жаль, сёння ў мастачкі няма магчымасці займацца любімай справай...

Мастачка Валянціна Уласава, аўтар літаграфій да паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», аднойчы прыйшла ў галерэю і прызналася: «Ведаеце, я ніколі і нідзе не паказвала свае работы». Між тым менавіта В. Уласава стала ля вытокаў беларускага мастацкага рэалізму!

У галерэі «VILNIUS» лічаць сваім абавязкам дапамагаць маладым мастакам, бо ў цэнтральныя гарадскія выставачныя залы тым патрапіць цяжэй. Так нарадзіўся праект «Дэбюты маладых талентаў». Важна яшчэ і тое, што ўвага надаецца мастакам, якія не маюць спецыяльнай адукацыі, але шчыра хочуць тварыць. Сярод іх — Валянціна Ранцэвіч, дацэнт, матэматык. Жанчына, якая працуе з формуламі, але мае паэтычную і ўзнёслую душу. У пяць гадоў яна прыйшла ў сваю сельскую бібліятэку па першую кніжку, потым наведвала яе рэгулярна. Бібліятэка стала для яе сапраўдным храмам. Падчас вучобы ва ўніверсітэце Валянціна Ранцэвіч «пасялілася» ў кніжнай скарбніцы, нават спатканні з мужам прызначала ў «засені» пыльных палічак. А душа цягнулася да мастацтва. Вось толькі часу не хапала, каб узяць у рукі пэндзаль. У пяцьдзясят гадоў Валянціна Ранцэвіч адважылася і… пачала тварыць! Гэта карціны для душы, а не на продаж, яна раздае іх блізкім і сябрам...



*Ірына Гаспадарская. Каралева матылькоў.*

**Марыя ВОЙЦІК**

# Вельмі шчыра!

Чарговымі гасцямі літаратурнага клуба «Шчырасць» Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, які дзейнічае пры сталічнай бібліятэцы № 22, сталі празаік Сяргей Трахімёнак і паэты Міхась Пазнякоў, Аліна Легастаева, Іна Фралова.

Гасцей прывітала загадчык бібліятэкі Наталля Ярашэвіч. Кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў пазнаёміў прысутных з творчасцю літаратараў, іх новымі кнігамі.

Паэты чыталі вершы, гучалі аўтарскія песні пад гітару Аліны Легастаевай і Сяргея Трахімёнка. Аматары паэзіі і песні з асалодай паглядзелі відэакліп Міхася Пазнякова і спевака Аляксандра Якіменкі «Матчына хата».

Удзячныя слухачы, а імі былі пераважна студэнты Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта і Мінскага чыгуначнага каледжа, падрыхтавалі шмат пытанняў, на якія атрымалі шчырыя пісьменніцкія адказы. Аўтараў найбольш цікавых чакалі кнігі з аўтографамі ў падарунак.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Землякам

Неяк у лісце да супрацоўнікаў Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса Лідзія Арабей напісала: «Будзеце ў Мінску — заходзьце, я перадам кнігі для вашай кніжніцы».

Так па запрашэнні пісьменніцы нядаўна адбылася сустрэча з Лідзіяй Львоўнай, якая помніць сваіх землякоў, але не заўсёды мае магчымасць наведаць родныя мясціны.

Лідзія Арабей нарадзілася ў слыннай вёсцы Нізок, якая дала беларускай літаратуры Паўлюка Труса і Кандрата Крапіву. Чытачы нашай бібліятэкі, асабліва жанчыны, з захапленнем чытаюць яе кнігі: «Паласа дажджу», «Пошукі ісціны», «Белае поле», «Перавал», «Горкія ягады». Падабаюцца ім невялікія аповесці, апавяданні, нарысы, асабліва — абразкі, дзе аўтара хвалююць вечныя пытанні пра сэнс жыцця.

Падчас размовы з пісьменніцай можна было адчуць яе вялікую духоўную энергію, даведацца пра творчыя планы і проста пабачыць абаяльную і мудрую жанчыну. Творца перадала ў дар свае кнігі з аўтографам і найлепшымі пажаданнямі.

**Аксана ДРАЧАН,**
**дырэктар Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса**

# Уваскрэсні ў роднай песні!

Аксамітны голас, шчырая, задушэўная манера выканання, яркія, запамінальныя мелодыі — апазнавальныя знакі шматграннага таленту спевака, кампазітара і аранжыроўшчыка, удала спалучаныя ў адной асобе. А абыякавых слухачоў у Якава Навуменкі не было: ці гэта канцэртная зала ў Белдзяржфілармоніі, ці гарадская плошча ў Маладзечне, ці амфітэатр «Славянскага базару» ў Віцебску, ці раённы Дом культуры ў глыбінцы. Спявак вельмі тонка і дасканала адчуваў не толькі музыку, але і ўсе адценні роднага слова.

Слухаю дыск, які Яша некалі прэзентаваў мне ў сваёй былой кватэры ва Уручччы. Льецца бадзёрая рытмічная мелодыя. Сэрца кранае да болю блізкі трапяткі голас:

*Няўмольны час, імклівы час*
*Хвалюе нас, бунтуе нас.*
*Ці ён бяжыць, ці ён ляціць,*
*А не суняць, а не спыніць.*

*Я так спяшаў і не паспеў,*
*У свой вагон у час не сеў.*
*Спазніўся я — пайшоў цягнік.*
*Віною ты — гадзіна пік...*

Гэта словы з нашай сумеснай песні «Гадзіна пік», якая дала назву адной з канцэртных праграм нашага артыста. Сапраўды, час не спыніць. І тым не менш спадзяюся захаваць у сваёй памяці аблічча гэтага светлага і таленавітага чалавека.

Але напачатку — невялікая біяграфічная даведка. Спявак і кампазітар Якаў Паўлавіч Навуменка нарадзіўся 28 сакавіка 1959 года ў горадзе Орша ў сям'і рабочых. У малодшых класах пайшоў у музычную школу, выдатна іграў на акардэоне. Арганізаваў вакальна-інструментальны ансамбль, які стаў папулярным сярод старшакласнікаў. Актыўна займаўся гандболам, атрымаў першы разрад, нават уваходзіў у юнацкую зборную Беларусі.

Адразу пасля школы Якаў паступіў на факультэт аўтаматычных сістэм кіравання Севастопальскага прыборабудаўнічага інстытута. Але год паспяховых заняткаў усё ж выявіў, што душа яго належыць музыцы. Забраў дакументы і ў 1977 годзе быў прызваны ў войска. Падчас службы браў удзел у ансамблі «Хваля» пры севастопальскім Доме афіцэраў, дзе дасканала асвоіў бас-гітару. Малады марак яшчэ не надта ўяўляў, кім будзе ў далейшым: музыкантам ці спеваком. Адслужыўшы тры гады на флоце, паступіў на дырыжорска-харавое аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча, дзе нечакана для сябе пачаў пісаць музыку. Пасля заканчэння вучобы працаваў у ансамблі «Свята», у Дзяржаўным народным хоры імя Г. Цітовіча, быў салістам радыё і тэлебачання. Вучыўся завочна ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Пасля бліскучай перамогі Якава Навуменкі на Усесаюзным радыёконкурсе «Новыя імёны» прафесар Ніна Мяшко запрасіла яго на вучобу ў Інстытут імя Гнесіных у Маскве. Дыплом абараніў на «выдатна».

Спяваў у ансамблі народнай музыкі «Бяседа», у Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі, у Нацыянальным акадэмічным народным аркестры Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Яму было нададзена ганаровае званне заслужанага, а пазней — народнага артыста.

Наша першая сустрэча адбылася ў Саюзе кампазітараў у сярэдзіне 90-х гадоў. Я завітаў туды па творчых справах, а Яша ў гэты час перапісваў на магнітафон свае песні, многія з якіх былі мне ўжо добра вядомыя. Гэта выпадковае знаёмства перарасло пасля ў плённае творчае супрацоўніцтва і шчырае сяброўства.



*Нараджэнне песні. Якаў Навуменка і Уладзімір Мазго, 2006 г.*

Шмат агульнага звязвала нас і акрамя песні. Абодва нарадзіліся ў сакавіку 1959 года ў рабочых сем'ях, у школьныя гады захапляліся гандболам. Якаў у малодшых класах займаўся ў музычнай школе на акардэоне, а я — на баяне. Ён арганізаваў сярод старшакласнікаў вакальна-інструментальны ансамбль, я ж пісаў для школьнага ансамбля тэксты песень...

Можа, таму такім плённым атрымалася супрацоўніцтва. Разам з Яшам мы стварылі песні «Гадзіна пік», «Мне ўсё верыцца», «На Нямізе», якія трывала замацаваліся ў яго рэпертуары. Аб'ехалі палову Беларусі як удзельнікі тэлевізійнага фестывалю «Песню бярыце з сабою», музычным рэдактарам якога была яго жонка Ала. Я. Навуменка выконваў на мае словы жартоўную песню «Каля плота — у суботу» і лірычную «Дзяўчына з Ваўкавыска», музыку да якіх напісалі адпаведна Сяргей Сухамлін і Дзмітрый Даўгалёў.

Канцэрты Якава збіралі аншлагі, яго часта выклікалі на біс. І гэта не дзіўна, бо ён спяваў так, як і жыў: шчыра і самааддана. Яшчэ не атрымаўшы звання народнага артыста, ён ужо тады заваяваў народнае прызнанне ў сваіх слухачоў.

Якаў Навуменка ставіўся вельмі адказна да любой справы, да кожнага дадзенага абяцання. Помніцца, калі канал «Лад» здымаў тэлеперадачу «Плошча мастацтваў», прысвечаную маёй творчасці, артыст знайшоў час прыехаць у Мінск з Жодзіна, каб расказаць пра наша супрацоўніцтва, а таксама выканаць некалькі новых песень. У Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, дзе адбываўся тэлезапіс, ён сеў за раяль і адразу — без усялякай размінкі — віртуозна зайграў.

Кожны год на маёй малой радзіме ў Зэльве праводзіцца свята паэзіі і музыкі «Зэльвенскія сакавіны». Якаў нарадзіўся таксама ў сакавіку, таму вясной 2004 года я запрасіў яго паехаць разам. Са шчырай радасцю ён прыняў прапанову: сапраўдная дружба для артыста заўсёды мела вялікае значэнне. На сцэне раённага Дома культуры Якаў дарыў прысутным песню за песняй, а зала ўсё прасіла: яшчэ! Згаданае выступленне стала сапраўдным майстар-класам для юных зэльвенскіх артыстаў.

Са шчымлівым пачуццём на сэрцы гляджу кліп, дзе Яша спявае, ідучы па восеньскім парку:

*Мне ўсё верыцца:*
*Шчасце вернецца*
*Светлай просінню гэтай восенню.*
*Толькі лепшае сёння збудзецца,*
*А найгоршае — ўсё забудзецца!*

На вялікі жаль, ён так і не дайшоў да сваёй залатой восені. Яго жыццё трагічна абарвалася на фінішы лета 2012 года падчас адпачынку ў горадзе Севастопалі, дзе ён некалі вучыўся і служыў. Засталося шмат нерэалізаваных творчых планаў і задум. Затое для прыхільнікаў спевака вялікай радасцю стаў канцэрт памяці Якава Навуменкі, які адбыўся восенню 2013 года ў вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Магчыма, народны артыст пачуў нашу маўклівую малітву: «Уваскрэсні ў роднай песні!..»

Сёння Якаў Навуменка сустрэў бы свой 55-гадовы юбілей...

**Уладзімір МАЗГО**

# Беларусь вачыма графікаў

У межах доўгатэрміновага навукова-экспазіцыйнага праекта «У пошуках страчанага», прысвечанага гісторыі стварэння Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і фарміравання яго калекцыі, адкрылася выстаўка «І рай, і боль на Песеннай зямлі». Вялікі комплекс графічных твораў беларускіх мастакоў 1920 — 1930 гг. этнаграфічнай тэматыкі прэзентуецца ўпершыню.



*Мікалай Дучыц. «Мінск. Каля Юбілейнай Плошчы», 1930 г.*

Мастацкія калекцыі Нацыянальнага гістарычнага музея пачалі актыўна фарміравацца ў 1920-я гады, калі ішло плённае супрацоўніцтва з Інстытутам беларускай культуры, Цэнтральным бюро краязнаўства. Ладзіліся сумесныя навуковыя экспедыцыі, выданні, выставачныя праекты. Актыўны краязнаўчы рух — асаблівасць эпохі — аказаў вялікі ўплыў на камплектаванне музейных збораў, у тым ліку мастацкіх. Этнаграфічная тэматыка стала адным з галоўных крытэрыяў адбору. Мастакі бралі ўдзел у экспедыцыях. Збор музея хутка папаўняўся графічнымі творамі як навукова-прыкладнога характару, так і графічнымі аркушамі высокай мастацкай якасці.

Экспазіцыя выстаўкі «І рай, і боль на Песеннай зямлі» складаецца з чатырох раздзелаў. Першы прысвечаны выдатным мастакам, якія з'яўляліся супрацоўнікамі музея на той час, — М. Філіповічу, Я. Кругеру, Г. Віеру. Другі — графікам, чыя творчасць адлюстроўвае мастацтва Савецкай Беларусі, — А. Астаповічу, А. Тычыне, М. Дучыцу, М. Аксельроду, А. Марыксу, М. Горшману. Трэці складаецца з твораў знакамітых віцебскіх мастакоў, а таксама студэнтаў і выкладчыкаў Віцебскага мастацкага тэхнікума, — С. Юдовіна, Л. Зевіна, Р. Семашкевіча, Г. Паўлоўскага, М. Пашкевіча, Ф. Аляхновіча, Г. Аўчыннікава, М. Эндэ, А. Бразера, І. Сонкіна. 1921 — 1939 гады — перыяд, калі Беларусь была падзелена дзяржаўнай мяжой, але народ заставаўся адзіным. У гэтай частцы выстаўкі можна пабачыць графіку Я. Драздовіча, П. Сергіевіча, Л. Родзевіча, а таксама творы невядомых мастакоў Заходняй Беларусі.

Наталля Мартынава, вядучы навуковы супрацоўнік навукова-экспазіцыйнага аддзела Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, арганізатар выстаўкі, лічыць, што прадстаўленыя работы маюць асаблівую каштоўнасць, таму што з'яўляюцца адначасова і цудоўнымі творамі мастацтва, і важнымі навуковымі матэрыяламі. Цяжка не пагадзіцца: можна доўга хадзіць па зале і разглядаць карціны, дзівячыся іх унікальнасці і дасканаласці, ёсць магчымасць параўнаць знаёмыя нам сёння мясціны з абліччам 1920 — 1930-х гадоў.

— Гэтай Беларусі ўжо няма. Яна змянілася, растварылася ў часе. Але дзякуючы мастакам, якія вельмі дэтальна, скрупулёзна вывучалі той час, краіна захавалася ў графічных работах, — адзначыў падчас адкрыцця выстаўкі знакаміты беларускі графік Віктар Саўчанка.

Неўзабаве чакаецца выхад каталога часткі калекцыі музея — графікі этнаграфічнай тэматыкі. Выданне змесціць больш як 400 твораў мастацтва.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2547.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.03.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1031.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686